

# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА ў АМЭРЫЦЫ

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№3(110) Май 2003 May Год выд. 11.

## Яшчэ адзін дыктатар пад прыцэлам ЗША

"Да восі зла Вашынгтон даўно далучыў Беларусь. Пасьля завяршэньня вайны ў Іраку ЗША хочуць узяць "пад прыцэл" дыктатара Аляксандра Лукашэнку і спрабуюць умацаваць беларускую апазыцыю," - піша нямецкая газэта Frankfurter Rundschau у сваім артыкуле "Яшчэ адзін дыктатар пад прыцэлам ЗША".

Сваю пазыцыю па ірацкім канфлікце кіраўнік Беларусі не хаваў яшчэ напярэдадні вайны: "Ірак можа разьлічваць на Беларусь". Гэтымі словамі вітаў дыктатар Аляксандар Лукашэнка ў лютым новага амбасадара Іраку ў Беларусі. Уступленьне ЗША ў Ірак ён назваў "цяжкім грахом". Але не толькі заявы Лукашэнкі выклікалі незадаволенасьць Вашынгтону. Урад ЗША вылучае вінавачаньні ў пастаўках зброі Іраку й іншым праблемным краінам.

"З заканчэньнем вайны ў іраку ЗША зьбіраюцца яшчэ пільней узяць "пад прыцэл" Лукашэнку," - піша ў сваім артыкуле Frankfurter Rundschau. На пачатку красавіка амэрыканскі кангрэс аб'явіў аб намеры апублікаваць інфармацыю пра сакрэтны прэзыдэнцкі фонд, сродкі якога перавышаюць гадавы бюджэт зьбяднелай Беларусі. Інфармацыю аб фондзе, у які па чутках паступаюць сродкі ад продажу зброі, Лукашэнкі адхіліў летась выступаючы перад дэпутатамі: прэзыдэнцкі фонд кантралюецца не дзяржавай, а толькі прэзыдэнтам.

Для падтрымкі дэмакратычных працэсаў у Беларусі кангрэс ЗША плануе выдзеліць апазыцыі ў 2004 і 2005 гадах 40 мільёнаў даляраў, пры гэтым пашырыць вяшчаньне на беларускай мове радыё "Свабода " і радыё "Голас Амэрыкі". Пасьля тэракту 11 верасьня 2001 года многія апазыцыйныя палітыкі адзначалі паслабленьне інтарэсу міжнароднай грамадзкасьці да парушэньня правоў чалавека ў Беларусі.

У сувязі з гэтым напрыканцы сакавіка ў выказваньнях Лукашэнкі з'явіліся новыя ноты адносна ЗША: Беларусь павінна знайсьці са Злучанымі Штатамі агульную мову пры будаўніцтве добрых адносінаў, не губляючы пры гэтым сваёй годнасьці. Тое, што для былога дырэктара калгаса, які найперш займаецца стварэньнем хаўруса з Расеяй, адносіны са Злучанымі Штатамі неабыкавыя, дэманструе факт прызначэньня былога міністра замежных спраў Міхаіла Хвастова амбасадарам у ЗША.

Новыя затрыманьні апазыцыянераў, на думку ЗША, толькі абвастраюць працэс трансфармацыі ў Беларусі.

*******************************************



## ЗША заклікаюць ААН зьвярнуць увагу на рэжым Лукашэнкі

*З жорсткай крытыкай палітыкі беларускага кіраўніцтва выступіла галава амэрыканскай дэлегацыі Джын Кірпатрык на 59-ай сэсіі Камісіі ААН па правох чалавека ў Жэневе. «...Беларусь вядомая як адзіная эўрапейская краіна, якая так і не разьвіталася з спадчынай таталітарызму, што панаваў шмат гадоў у Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропе. Дадзены факт зьяўляецца ганебным для ўсіх нацыяў, якія парвалі з сваім сумным мінулым і адданых справе дэмакратыі й рэпрэзэнтатыўнаму прынцыпу дзяржаўнага ўладкаваньня. Камісія не павінна пакідаць гэтага без увагі. Ёй варта заклікаць урад Лукашэнкі даць справаздачу перад гэтай сэсіяй. Мы будзем і надалей падтрымліваць адважны беларускі народ, які спрабуе скінуць зь сябе гэты рэжым-монстар», --заявіла Джын Кірпатрык. Прапануем Вашай увазе поўны тэкст выступу кіраўніка дэлегацыі ЗША, датычны Беларусі:*

"У Беларусі рэжым Лукашэнкі працягвае зьняважаць правы чалавека ў розных сфэрах жыцьця. Рэжым учыняе жорсткія захады для нэйтралізацыі палітычных апанентаў. Спэцслужбы зьбіваюць і пераследуюць палітычных апанентаў, прафсаюзных дзеячоў і затрыманых. Агенты ўважліва назіраюць за працаю праваабарончых арганізацыяў і ўсялякім чынам замінаюць іх дзейнасьці. Улады не рабілі сур'ёзных спробаў расьсьледаваць выпадкі зьнікненьня вядомых апазыцыйных дзеячоў. Яны таксама не надаюць значэньня інфармацыі з дакладных крыніцаў аб тым, што ў шэрагу выкраданьняў былі задзейнічаныя прадстаўнікі кіраўніцтва краіны.

Урад Беларусі больш чым калі-небудзь абмяжоўвае свабоду слова, СМІ, мірных сходаў і шэсьцяў, правы рабочых і свабоду вера-спаваданьня. Рэжым узмацніў ціск на незалежныя СМІ і асудзіў журналістаў да зьняволеньня па абвінавачваньні ў паклёпе на прэзыдэнта і закрыў некалькі пэрыядычных выданьняў. Ен таксама спыніў спробы Федэрацыі прафсаюзаў стаць незалежнай арганізацыяй. Згодна новаму закону аб рэлігіі, права чалавека на вераспавяданьне сур'ёзна прыціскаецца.

Беларусь вядомая як адзіная эўрапейская краіна, якая так і не разьвіталася з спадчынай таталітарызму, што панаваў шмат гадоў у Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропе. Дадзены факт зьяўляецца ганебным для усіх нацыяў, якія парвалі з сваім сумным мінулым і адданых справе дэмакратыі й рэпрэзэнтатыўнаму прынцыпу дзяржаўнага ўладкаваньня. Камісія не павінна пакідаць гэтага без увагі. Ёй варта заклікаць урад Лукашэнкі даць справаздачу перад гэтай сэсіяй. Мы будзем і надалей падтрымліваць адважны беларускі народ, які спрабуе скінуць зь сябе гэты рэжым-монстар".

*******************************************



**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.
Phone: (616) 942-0108; Fax: (616) 942-6364
E-mail: bdigest@iserv.net
Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць погляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# Як разарваць замкнёнае кола

**Леанід ЛЫЧ,** доктар гістарычных навук, прафесар /Н.В./

Элітай, гонарам кожнага народа з'яўляецца інтэлігенцыя. Праўда, далёка не ўсе давалі ёй такое месца. Прыкладам, імператар Мікалай II нават рэкамендаваў Расійскай акадэміі навук не ўключаць нелюбімае ім слова "інтэлігенцыя" ў літаратурную рускую мову. Для "бацькі народаў" Іосіфа Сталіна інтэлігенцыя была не больш як "праслойка" ў сацыяльнай структуры грамадства.

Не заўжды інтэлігенцыю можна лічыць гонарам нацыі. Бо калі яна адарвалася ад уласных каранёў, зневажае, топча духоўныя здабыткі роднага краю, працуе ў чужым культурна-моўным рэчышчы, дык у такім выпадку яна не адпавядае свайму высокаму прызначэнню.

Беларусам, як, бадай, ніякаму іншаму еўрапейскаму народу, не надта шанцавала на інтэлігенцыю. Калі наш край апынуўся ў складзе Рэчы Паспалітай, яна амаль увесь свой творчы патэнцыял паставіла на службу польскаму інтарэсу; пазней, у Расійскай імперыі, -- рускаму, а ў савецкі перыяд служыла стварэнню камуністычнай культуры на аснове рускіх духоўных каштоўнасцяў. Быць у ролі наймічкі чужых культур беларуская інтэлігенцыя, за выключэннем большасці пісьменнікаў і значнай часткі мастакоў, так прызвычаілася, што нават і пасля таго, як краіна стала палітычна незалежнай, мала хто з творчых работнікаў пажадаў у аснову сваёй дзейнасці пакласці нацыянальны фактар.

Іх значна паменела пасля вартага ганьбы майскага рэферэндуму 1995 года. Ідэолагам і праваднікам палітыкі сённяшняй улады ўдалося за нейкія пяць гадоў, выкарыстоўваючы ў сваіх мэтах адарваных ад народных традыцый "служыцеляў муз і навук", давесці дэнацыяналізацыю духоўнага жыцця краіны да ўзроўню брэжнеўска-андропаўскіх часоў...

Такой трагедыі на мяжы XX--XXI стагоддзяў, безумоўна, не адбылося б, калі б наша інтэлігенцыя была па-сапраўднаму нацыянальнай, а яе лепшыя прадстаўнікі займалі высокія пасады ў дзяржаўным апараце. Але такіх, адданых нацыянальнай ідэі, свайму народу творцаў і не магла даць адрынутая ад уласных і пабудаваная на рускіх педагагічных, гісторыка-культурных і моўных традыцыях вышэйшая і сярэдняя спецыяльная школа. Гэта выдатна разумеюць зрус-і фікаваныя дзяржаўныя дзеячы і кіраўнікі адукацыі, таму і не рупяцца дзеля пабудовы беларускай школы на нацыянальным падмурку. Па-ранейшаму толькі нязначная частка яе выпускнікоў вызначаецца пэўным узроўнем нацыянальнай свядомасці і мае жаданне працаваць дзеля любай Бацькаўшчыны, абароны яе палітычнага суверэнітэту, дзяржаўнай незалежнасці.

*Даўно заўважана, што гандлююць нашай краінай часцей за ўсё рускамоўныя палітыкі і інтэлігенты.* А ўпарта адстойваюць нацыянальны суверэнітэт тыя, хто не выракся і шануе духоўную спадчыну Радзімы. Чыноўніцкі апарат апошнім часам узвёў такі магутны "кітайскі мур" паміж нацыянальна зарыентаванай інтэлігенцыяй і народам, што той практычна нічога не ведае аб сапраўднай сваёй гісторыі, не ўсведамляе, што яму, як ніколі раней, пагражае поўнае руйнаванне.

Скіраваць увагу народа да надзённых нацыянальна-адраджэнскіх праблем можна толькі тады, калі здолеем дамагчыся доступу да сродкаў масавай інфармацыі, разумна выкарыстоўваючы іх дзеля беларускай справы. На мой погляд, патрыятычнае выхаванне грамадзян залежыць не столькі ад мітынгаў і дэманстрацый ці зваротаў у высокія дзяржаўныя інстанцыі, колькі ад цярплівай, штодзённай работы. Работы па пераканانні шырокіх колаў грамадства ў тым, што, толькі стаўшы паўнапраўным гаспадаром на бацькоўскай зямлі, можна дасягнуць заможнага і вольнага жыцця на грунце уласных, багатых культурна-моўных традыцый.

Праўда, ніякіх ілюзій наконт таго, што ўладныя структуры лёгка дапусцяць нацыянальна актыўную інтэлігенцыю да афіцыйных СМІ, зразумела, няма. Трэба старацца з належнай аддачай выкарыстоўваць тыя сродкі, што маюцца ў распараджэнні адраджэнскіх сіл. Пры сустрэчы творцаў з чытачамі, слухачамі належыць звяртацца да іх розуму і душы, дапамагаць зразумець прычыны сённяшняга заняпаду ва ўсіх кірунках грамадскага і асабістага жыцця, узнімаць духоўную энергію дзеля выратавання Бацькаўшчыны ад згубы.

Гэта -- архіскладаная і найактуальнейшая праблема. Тым болей што вялікую трывогу сваёй пасіўнасцю выклікае самая шматлікая -- педагагічная інтэлігенцыя, у руках якой -- гартаванне юначых душ. Абсалютная большасць настаўнікаў і выкладчыкаў не валодае беларускай мовай, больш таго, не настроена пусціць яе ў класы і аўдыторыі з прычыны нізкага ўзроўню ўласнай нацыянальнай самасвядомасці. Калі пасля рэферэндуму-95 спрэс сталі рушыць толькі-толькі створаную нацыянальную сістэму народнай адукацыі, мала хто з педагогаў адважыўся рашуча бараніць беларускамоўнае навучанне. Велізарныя высілкі адраджэнцаў пачатку 90-х не паспелі даць невыкаранільны плён.

На жаль, і ў асяродку навуковай інтэлігенцыі мала асоб, якія паводле сваёй нацыянальнай актыўнасці былі б на ўзроўні сваіх старэйшых папярэднікаў, што стаялі ля вытокаў міжваеннай беларусізацыі і, нягледзячы на ўсялякія перашкоды, пераўтварылі яе ў магутны сродак нацыянальна-культурнага адраджэння Бацькаўшчыны. Прагрэсіўныя традыцыі навукоўцаў 20-х -- першай паловы 30-х гадоў мінулага стагоддзя павінны вярнуцца на беларускую зямлю, каб атрымаць новае, яшчэ больш змястоўнае жыццё. Бо наш народ яшчэ ніколі не знаходзіўся на такой небяспечнай стадыі дэнацыяналізацыі, як сёння. Было б вялікай і недаравальнай памылкай лічыць, што ад этнічнага вымірання ён зможа выратавацца без дапамогі навуковай інтэлігенцыі. Для яе ў аднолькавай ступені павінны быць важнымі не толькі дасягненні ў сваёй прафесійнай дзейнасці, а і на нацыянальна-адраджэнскай ніве. Аўтарытэт беларускай навуковай інтэлігенцыі трэба максімальна выкарыстаць дзеля актывізацыі народа да нацыянальнай стваральнай працы.

Не будзем утойваць праўды: абыякавасць многіх людзей да страты краінай сваёй прыроднай этнакультурнай самабытнасці перааддолець адным махам немагчыма. Поўнае выцісненне роднага слова з усіх сфер жыцця -- школы, выдавецкай справы, перыядычнага друку, радыё і тэлебачання і г.д. -- далёка не ўсе зразумелі як сапраўдную катастрофу, за якой прыйдуць, і немінуча, яшчэ больш страшныя наступствы.

Многія звыкліся, што неўласцівыя для беларускай мовы геаграфічныя назвы -- прыкладам, Звязда, Перамога, Сцяг, Атрадная, Лучазарная, Сірэняўка, Рамашкі, Раднікі і г.д. нічога агульнага не маюць з айчыннай гісторыяй і культурай, прымушаюць жыць беларуса ў сябе дома нібыта ў эміграцыі. Мы застанемся ў палоне навязаных Расійскай імперыяй і савецкай камандна-бюракратычнай сістэмай стандартаў, пакуль будзем маўчаць самі і не абуджаць свядомасць народа.

Вывесці беларускі народ з летаргічнай спячкі спрабавала не адно пакаленне адданай маці-Беларусі інтэлігенцыі. І зараз такі лёсавызначальны час, калі паўстала пільная патрэба гуртаваць сілы інтэлекту нацыі, разам з усім грамадствам бараніць дзяржаўны суверэнітэт краіны. Узяцца за пабудову дыхтоўнага ўласнага дома з нацыянальна беларускімі парадкамі. Нельга марудзіць, каб не спрычыніцца да пераўтварэння Беларусі ў палітычна і эканамічна незалежную, дэмакратычную дзяржаву з самабытным нацыянальна-культурным жыццём.

Якраз гэтым клопатам і пачуццём адказнасці за будучыню Бацькаўшчыны была, на мой погляд, прасякнута размова на першым Усебеларускім сходзе інтэлігенцыі, што адбыўся нядаўна. Будзем спадзявацца, ён паслужыць яднанню ўсіх, каму дарагі лёс нашай Айчыны. Толькі так мы здолеем разарваць замкнёнае вакол нас нядобразычліўцамі незалежнасці Беларусі заганнае кола.

# Ня варта забываць трагічныя лекцыі гісторыі

Не скажу, што ва ўсіх, але ў многіх грамадзян Беларусі даўно выклікаюць алергію і галаўны боль шум і гром з боку ўлад наконт аб'яднання з Расіяй -- фактычнага ўзнаўлення ў міні-форме былога СССР. А ці не лепей было б аб'ектыўна ўзважыць, наколькі апраўданы такі, мякка кажучы, рызыкоўны крок, яшчэ раз ацаніць, што ж у рэальнасці атрымала Беларусь ад працяглага знаходжання ў складзе такіх магутных суперімперый, як царская Расія і СССР.

З гісторыі добра вядома, што створаная з ласкі маскоўскага Крамля Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка была тыповай марыянеткай Расійскай Федэрацыі. Яе дзяржаўная незалежнасць мела чыста сімвалічны характар. Рэспубліка поўнасцю падпарадкоўвалася агульнасаюзнаму цэнтру. Гэта тычылася абсалютна ўсіх сфер грамадскага жыцця, палітыкі, эканомікі. Аж да лета 1937 года ўлада ў БССР трывала знаходзілася ў руках адкамандзіраваных сюды Масквой функцыянераў-небеларусаў. Для абсалютнай большыні з іх Беларусь з'яўлялася ўсяго толькі месцам выканання партыйнага даручэння, прыступкай для ўзыходжання па службовай лесвіцы. Гэтыя бальшавіцкія пасланцы нясуць неаспрэчную адказнасць за тыя страшэнныя беды, якія наваліліся на наш народ у міжваенны перыяд.

...Самае першае, што па прыкладзе ўсходняга суседа з'явілася ў БССР, прычым яшчэ да яе "добраахвотнага" ўступлення ў СССР, -- гэта Дзяржаўнае палітычнае ўпраўленне (ДПУ). З благаслаўлення Масквы яно распачало рэпрэсіўныя дзеянні ў Беларусі ўжо ў сакавіку 1922 года. Яшчэ раней гэтым жа займаліся накіраваныя сюды падраздзяленні Усерасійскай надзвычайнай камісіі (у рускай абрэвіятуры -- ВЧК), стваральнікам якой быў наш зямляк Фелікс Дзяржынскі. Ён меў непасрэднае дачыненне да ўтварэння і дзейнасці ДПУ РСФСР, быў яго старшынёй. Партыя не знайшла больш надзейнай за Ф.Дзяржынскага асобы і на пасаду кіраўніка Аб'яднанага дзяржаўнага палітычнага ўпраўлення (АДПУ) СССР, створанага ў 1928 годзе. Гэтаму саюзнаму ўпраўленню поўнасцю падпарадкоўваліся органы дзяржаўнай бяспекі БССР. З супрацьзаконнай, жахлівай дзейнасцю розных падраздзяленняў АДПУ беларусы вельмі добра пазнаёміліся пасля таго, як у рэспубліцы на поўных абаротах запрацавалі пасланыя сюды гэтым рэпрэсіўным органам чэкісты, што пачалі ствараць несудовыя карныя "тройкі".

Няўхільна выконваючы волю агульнасаюзнага цэнтра, органы дзяржаўнай бяспекі БССР ніколі не сувымяралі сваіх учынкаў з нацыянальнымі інтарэсамі нашага народа. Такое салідняе даведачнае выданне, як "Энцыклапедыя гісторыі Беларусі", у трэцім томе зазначае: "У сувязі з узмацненнем у канцы 20-х гадоў тэндэнцыі да звышцэнтралізацыі ўсіх бакоў жыцця ў СССР, фарміраваннем таталітарнага палітычнага рэжыму, адсутнасцю дастатковай прававой базы дзейнасці спецслужбаў органы ДПУ Беларусі ўсё больш ператвараліся ў простых выканаўцаў волі саюзнага цэнтра. ДПУ БССР удзельнічала ў выцісненні, а пазней (ужо ў перыяд дзейнасці НКУС) і знішчэнні палітычнай і ідэйнай апазіцыі, нанясенні незаменных страт сялянству ў ходзе калектывізацыі, барацьбе з беларускім нацыянальна-дэмакратычным рухам, праследаванні дзеячаў нацыянальнай культуры" (с.239; аўтар Анатолій Тозік). Несумненна, гэтыя злачынныя акцыі не мелі б месца на Беларусі, калі б яна была рэальна незалежнай дзяржавай, не ўваходзіла ў склад СССР, рэпрэсіўныя органы якога адчувалі сябе поўнымі гаспадарамі на тэрыторыі саюзных і аўтаномных рэспублік.

Залежнасць ад агульнасаюзнага цэнтра не дала Беларусі магчымасці стварыць і сапраўдную нацыянальную эканоміку. Праведзеныя пераважна гвалтоўнымі метадамі калектывізацыя сельскай гаспадаркі зусім не выклікалася ўнутранымі фактарамі. Яе навязала нам бальшавіцкая партыя як абавязковую ўмову пабудовы сацыялізму. Гэтая "гістарычная" задача фактычна так і засталася нявырашанай. Каб прадухіліць голад насельніцтва, саюзным уладам даводзілася перыядычна закупаць за мяжой прадукты харчавання: шматлікія партыйныя "харчовыя праграмы" тут былі бяссільныя.

Без уліку нацыянальнага інтарэсу Беларусі планавалася цэнтрам развіццё яе прамысловасці, асабліва ў пасляваенны перыяд. У адпаведнасці з указаннямі саюзных органаў у Беларусі, што знаходзіцца далёка ад сыравінных баз, закладваліся пераважна энерга- і металаёмістыя галіны прамысловасці, што адмоўна адбівалася на эканамічнай эфектыўнасці. Не выключана: такое рабілася дзеля таго, каб зрабіць БССР як мага больш залежнай ад цэнтра. Такая мэта была цалкам дасягнута, што з асаблівай сілай не магло не праявіцца пасля распаду СССР. Зараз гэты фактар, як ніякі іншы, на ўсю моц выкарыстоўваюць нашыя высокія дзяржаўныя асобы і паслухмяныя ім ідэолагі, каб даказаць народу немагчымасць існавання Беларусі па-за Расіяй.

Знаходжанне БССР у складзе СССР прывяло да страшэннай эрозіі яе нацыянальна-культурнага патэнцыялу. А іншага і быць не магло, бо цэнтр прымусіў нас, як і іншыя саюзныя рэспублікі, жыць паводле чужых культурна-моўных стандартаў. Асабліва негатыўна адбілася гэта на стане такой найважнейшай сферы, як адукацыя. Практычна на працягу ўсяго часу існавання СССР яна была -- і сёння застаецца -- рускамоўнай. Менавіта такое выхаванне некалькіх пакаленняў моладзі прывяло да рэальнай дэнацыяналізацыі большасці насельніцтва, адсутнасці нацыянальна свядомых кіруючых кадраў у галінах дзяржаў-

нага кіравання, прафесійнай культуры, навукі, самой адукацыі.

У выніку наш народ, нягледзячы на супраціўленне палітыцы дзяржаўнай русіфікацыі, апынуўся на мяжы этнічнага вымірання. Гэты архінебяспечны працэс дакаціўся да такой мяжы, што патрэбы ў выпрацоўцы нацыянальнай ідэі не бачыць сёння пераважная большасць нават высокага рангу палітыкаў і элітарнай часткі інтэлігенцыі. Іх нацыянальны нігілізм -- гэта найперш вынік злачыннай палітыкі ў сферы міжнацыянальных дачыненняў, якую камуністычная партыя навязала ўсім савецкім народам, у тым ліку і беларускаму. Пазбаўлены рэальнай дзяржаўнасці, ён у складзе СССР быў проста цацкай у руках прарабаў пачварнай хімеры -- безнацыянальнага камуністычнага "раю".

Нават кароткага гістарычнага экскурсу дастаткова, каб зразумець, якое гэта ярмо -- шматнацыянальная дзяржава. І якім найкаштоўнейшым дасягненнем усёй гісторыі сусветнай цывілізацыі з'яўляецца нацыянальная дзяржава. Гэтая ідэя захоўвае сваю значнасць і ва ўмовах, калі краіны ўступаюць у розныя формы эканамічнай інтэграцыі, у палітычныя, ваенныя саюзы. Калі ж падобныя міждзяржаўныя аб'яднанні рэальна пагражаюць нацыянальнаму суверэнітэту той ці іншай краіны, аніводная з іх добраахвотна не пойдзе на такую нічым не заменную страту. Гэтага разумнага прынцыпу варта непахісна прытрымлівацца і сучасным палітыкам Рэспублікі Беларусь, якія зусім не прапічваюць наступствы ад страты дзяржаўнага суверэнітэту ў выніку аб'яднання з Расіяй: гэта верне нас на дзесяцігоддзі назад, у СССРаўскія часы.

З сумных, нават трагічных урокаў гісторыі трэба рабіць разумныя высновы. Нельга утварэнне саюзнай дзяржавы з Расіяй зводзіць толькі да аднаго эканамічнага фактару. Трэба мець сваё бачанне рэальных, эфектыўных шляхоў самабытнага развіцця народа, бо сусветная практыка сведчыць: поліэтнічныя дзяржавы -- сапраўдная дарога ў нябыт для ўсіх нацый, за выключэннем хіба што тытульнай.

Няўжо, акрамя тых велізарных страт, што былі панесены беларусамі за час падняволнага жыцця ў складзе Рэчы Паспалітай, Расійскай імперыі, Савецкага Саюза, нам яшчэ патрэбныя новыя раны? Хопіць рабіць этнічныя эксперыменты над намі. Тым больш што ў захаванні і росквіце беларускага народа як самабытнай нацыі зацікаўлены не толькі яго прагрэсіўныя сілы, але і славянская супольнасць, увогуле ўся сусветная цывілізацыя.

Леанід ЛЫЧ, доктар гістарычных навук, прафесар. /Н. В./

# Пабойся Бога, добры чалавек!

Усе, напэўна, ведаюць прыпавесць аб тым, як Бог дзяліў зямлю паміж народамі. Нашаму народу ён выдзеліў цудоўную зямліцу з лугамі і лясамі, рэкамі і азёрамі, птушкамі, звярамі і рыбамі, цудоўным кліматам. "Але не будзе ў вас талковых кіраўнікоў", -- сказаў Бог.

Раз Бог сказаў, так яно і ёсць.

Нават калі бальшавікі "адмянілі" Бога, на Беларусі спраўджваліся словы з тае прыпавесці. Каго толькі не прысылалі кіраваць намі ці ставілі з мясцовых -- усе яны былі вартыя адзін аднаго, усе думалі аб тым, як дагадзіць Крамлю, а не пра народ.

Але бальшавіцкая навала ў канцы канцоў скончылася. Беларускі народ атрымаў шанец нарэшце сам вырашыць свой лёс. Ды прыпавесці недарэмна складваюцца -- і на гэты раз спраўдзіліся яе словы.

У часы кіравання "праваслаўнага атэіста", трэба адзначыць, роля царквы значна ўзрасла ў параўнанні з савецкім перыядам. Сам кіраўнік дзяржавы калі-нікалі ходзіць (з аховаю) да царквы, выступае там з прамовамі, размаўляе са святарамі. Гэта ўсё не прайшло паўз яго, нешта засела ў душы. І праяўляецца, вырываецца разпораз... у ягоных кіраўнічых наганяях.

"Не дай Бог вам не выканаць маё ўказанне!" -- пагрозліва завяршае ён свой чарговы загад аб тэрміновым паляпшэнні матэрыяльнага становішча "свайго народа". "Не дай Бог!!!" -- яшчэ больш пагрозліва.

Але Бог тут ні пры чым. І страх божы, і кара божая тут ні пры чым. За гэтымі словамі стаіць рэальная, зямная пагроза ад кіраўніка сваім падначаленым: не выканаеш загад -- сядзеш у турму!

Так склаўся лёс, што я выхаваны атэістам. І хаця да Бога я яшчэ не дайшоў, але часцяком успамінаю яго. Толькі слова "Бог" я спалучаю са словамі: "дзякуй", "слава", "барані". А калі ўжываю спалучэнне "не дай Бог", дык гэта азначае -- не захварэць родным, блізкім, знаёмым, самому. Палохаць жа імем Бога -- крый Божа і заступі!

Пабойся Бога, добры чалавек! Палохай людзей папростаму, як ты ўмееш, -- ногі павырываю, галовы паадкручваю, пасяку, як капусту, пасаджу ў турму -- а Бога пакінь веруючым.

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

# Зьміцер Бандарэнка: У Беларусі складваецца рэвалюцыйная сытуацыя

*Арганізатары Народнага маршу Андрэй Саньнікаў, Людміла Гразнова, Зьіцер Бандарэнка і Леанід Малахаў вызваліліся з турмы. За арганізацыю акцыі пратэсту яны правялі 15 сутак у спэцпрыёмніку-размеркавальніку на Акрэсьціна. Пра тое, чаму Народны марш стаў самай пасьпяховай акцыяй апазыцыі за апошнія некалькі гадоў, распавядае Зьміцер Бандарэнка, каардынатар грамадзянскай ініцыятывы Хартыя'97.*

***-- Ні адна з вясновых акцыяў пратэсту не атрымала такога рэзанансу як Народны марш. На Ваш погляд – чаму?***

-- Гэтая акцыя была лепш падрыхтаваная. Дзякуючы яе сацыяльнай накіраванасьці, у яе падрыхтоўцы прынялі ўдзел самыя розныя структуры: аб'яднаньні прадпрымальнікаў, моладзевыя рухі, праваабарончыя грамадзянскія ініцыятывы, палітычныя партыі... І, магчыма, упершыню за многія гады апазыцыя падняла праблемы, якія востра хвалююць большасьць грамадзянаў краіны.

***-- Існуе меркаваньне, што беларусы могуць аб'яднацца толькі вакол ідэі незалежнасьці, і напярэдадні Народнага маршу гучалі галасы, што сацыяльныя лёзунгі маюць другасную важкасьць. Ці так гэта?***

-- Рэжым усталяваў манаполію на распаўсюд інфармацыі. Дзясяткі тысячаў "ідэалягічных змагароў" і псэўдажурналістаў прамываюць людзям мазгі. Мэтанакіравана перакручваецца гісторыя Беларусі, зьнішчаецца нацыянальная культура. Шмат гадоў унушалася, што галоўнае -- гэта "каўбаса". А свабода і незалежнасьць – гэта штосьці трэцьцяснае. Але даўно ўжо вядома, што, калі няма свабоды, то і няма і "каўбасы". Ці "каўбаса" ёсьць, але грошай на яе няма. Нацыянальная эліта павінна змагацца за незалежнасьць, не забываючыся на штодзённыя праблемы народа. Праз сацыяльныя акцыі мы можам прыцягнуць да Супраціву дыктатуры новых людзей. Напрыклад, мы бачым, як лідэры прадпрымальнікаў ператвараюцца ў фігуры нацыянальнага маштабу.

***-- У рэзалюцыі ўдзельнікаў Народнага маршу гаварылася, што ў выпадку невыкананьня ўладамі патрабаваньняў, людзі пакідаюць за сабою права праводзіць акцыі пратэсту. Патрабаваньні па вялікім рахунку не выкананыя...***

-- Вынікі ёсьць. Улады вымушаныя былі заявіць, што падвышэньне камунальнай платы сёлета ня будзе. Тыя сацыяльныя групы, якія змагаюцца за свае правы, жывуць лепей, чым тыя, хто не арганізаваны і не супраціўляецца. Сёньня самымі беднымі застаюцца беларускія сяляне. Нават заробкі ў 30-70 тысячаў многія атрымоўваюць з шматмесячнымі затрымкамі. У Менску заробкі значна большыя. І выплочваюцца яны рэгулярна. Бо менавіта ў сталіцы праходзяць акцыі пратэсту. І як ні спрабуюць улады зламіць прадпрымальнікаў, ім гэта не ўдаецца, бо прадпрымальнікі сёньня – сіла. Яны мінімальна арганізаваныя і ўсьвядомілі неабходнасьць супраціву. І няхай у страйку прыняла ўдзел 100 тысячаў чалавек. Няхай у Менску на вуліцу выйшла некалькі тысячаў чалавек, але абсалютная большасьць беларусаў падтрымліваюць лёзунгі Народнага маршу. І не лічыцца з гэтым ужо нельга.

***-- Ці можаце Вы спрагназаваць разьвіцьцё сытуацыі ў краіне?***

-- Паспрабую. У краіне сёньня крызыс перавытворчасьці. Не клясычны, а зь беларускай спэцыфікай. Склады забітыя таварамі нізкая якасьці, але ў насельніцтва няма грошай, каб набыць нават іх. У рэгіёнах гандлярам забаронена набываць небеларускія тавары. А дзе-небудзь і нават нельга набыць прадукты, вырабленыя ў іншай вобласьці ці раёне. Як прызнаўся сам Лукашэнка, эканамічнае стновішча ў Беларусі – самае цяжкае за ўвесь час кіраваньня. Неверагоднымі тэмпамі расьце злачыннасьць. Прычына – агалечваньне працоўных і неўладкаванасьць моладзі. Каб нейк утрымаць сытуацыю на плаву, рэжым паспрабуе зрабіць больш жорсткім кантроль літаральна за ўсім. Але коўдра пачынае трэскацца, і сацыяльныя выбухі непазьбежныя. Таксама, зрэшты, як і непазьбежнае ўмацаваньне рэпрэсіяў. На мой погляд, у Беларусі складваецца рэвалюцыйная сытуацыя, калі "вярхі ня могуць, а нізы не жадаюць"...

***-- Ці магчымае доўгачасовае аб'яднаньне беларускіх дэмакратычных сілаў? І што для гэтага неабходна?***

-- Насамрэч рэальных дэмакратычных цэнтраў ня так ужо і шмат, і іх аб'яднаньне сапраўды адбудзецца, хаця і не ў бліжэйшы час. Але ўсім ужо зразумела, што простага аб'яднаньня недастаткова. Неабходная трансфармацыя апазыцыі. Павінны прыйсьці новыя людзі. Павінна нарадзіцца новая сіла. Старыя партыйныя падыходы сёньня не працуюць. Ва ўмовах дыктатуры апазыцыя ня можа перамагчы проста так. Павінны быць умовы для такой перамогі. Шанцы зьмяніць сытуацыю былі ў 1996, 1999, 2001 гадах, але яны не выкарыстоўваліся. Магчымасьць даць рашучы бой уладзе мы атрымаем у 2004 годзе ў час выбараў. Спадзяюся, вы разумееце, што гэта будзе ня толькі выбарчая барацьба. Лукашэнка будзе спрабаваць правесьці рэферэндум па падаўжэньні сваіх паўнамоцтваў да гэтага тэрміну. Значыць, мы павінны быць гатовымі і да гэтага. Рэйтынг падтрымкі дыктатара вельмі нізкі. Пратэстныя настроі ў грамадзтве растуць. Іх разьлік – толькі на фальсыфікацыю. Але калі колькасьць незадаволеных перааддолее нейкую крытычную рысу, утрымацца ва ўладзе ўдаецца ўжо не кожнаму.

***-- Кажуць, што ў нашай краіне кожны апазыцыйны палітык проста абавязаны пасядзець у турме...***

-- «Пасадка» – не самамэта, аднак, без арыштаў не атрымоўваецца. У мяне гэта ўжо чацьвёртае знаходжаньне на Акрэсьціна. Гэта несапраўдная турма, хаця ўмовы там дастакова цяжкія. Кожны народ, калі пажадае стаць свабодным, павінен прайсьці шлях да свабоды, а гэта і арышты, і зьбіцьцё, і застрашэньні. Нічога ня зробіш – мы апошнія ў Эўропе жывем пры дыктатуры. Але закон зьнікненьня дыктатураў у сьвеце дзейнічае так няўхільна, як і закон усясьветнага прыцягненьня.

***-- Чаго Вам больш за ўсё хацелася, калі вы сядзелі ў турме? Што дапамагала вынесьці гэтае выпрабаваньне?***

-- Хацелася сьвежага паветра, бо нікога на шпацыр ня водзяць, нармальный вэнтыляцыі няма. Улада мае грошы, каб усталяваць там відэакамеры схаванага назіраньня, а на нармальную вэнтыляцыю, ад адсутнасьці якой пакутуюць і міліцыянты, сродкаў няма. Неверагодна важная падтрымка з волі. Мы атрымоўвалі газэты і бачылі, што на гэты раз яна была проста фантастычнай. Калі выйшлі, сябры адкрылі нам усе лісты падтрымкі, якія прыйшлі з усяго сьвету. Я чытаў іх некалькі гадзінаў. Я зразумеў, колькі ў Беларусі сяброў і колькі беларусаў, дзе б яны сёньня не знаходзіліся, мараць пра агульную перамогу. А калі столькі людзей жадаюць аднаго і таго ж, гэта абавязкова ажыцьцявіцца.

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

# Беларусь - Эўразьвяз

У Беластоку закончылася канфэрэнцыя пад назвай „Беларусь і Эўразьвяз: сёньня й заўтра". Сустрэчу наладзіла беларуская апазыцыя. Многія ўдзельнікі выказвалі боязі, што пасьля бліжэйшага пашырэньня ЭЗь гэты працэс спыніцца , а Зьвяз зачыніць свае дзьверы перад Беларусяй, пакуль яна здолее вызваліцца з-пад рэжыму Лукашэнкі. Многія выступоўцы баяцца таксама высокіх коштаў, якія панясе Беларусь у сувязі з далучэньнем Польшчы да Эўрапэйскага Зьвязу, ды таго, што цяперашнія беларускія ўлады непрыхільна пастўленыя да Эўропы - не прадпрымуць ніякіх крокаў, каб гэтыя кошты паменшыць.

Беларусы баяцца, што пасьля пашырэньня ЭЗь мяжа з Польшчай стане больш шчыльнай, у выніку чаго тысячы асоб, у прыватнасьці жыхароў Горадні і Берасьця, страціць працу, якой зьяўляецца памежны гандаль. Беларускія апазыцыянеры баяцца, што якраз такі ход справаў будзе выгодны для прапаганды Лукашэнкі, паколькі рэжым хоча даказаць грамадзянам Беларусі, што Польшча й Эўропа ставяцца да іх задам, і таму вядзе палітычную рэторыку ў стылі „халоднай вайны". Удзельнікі беластоцкай канфэрэнцыі спадзяюцца, што якраз Польшча ў Эўрапэйскім Зьвязе будзе найлепшым адвакатам Беларусі, а сам Зьвяз пераканае іншыя дзяржавы, што Беларусь зьяўляецца эўрапэйскай краінай ды што бальшыня яе насельніцтва хоча далучыцца да Эўразьвязу.

На жаль, прэзыдэнт Лукашэнка зусім інакш намерваецца ствараць саюзы. Толькі што спэцыяльнай расейска -беларускай камісіяй быў падрыхтаваны праект супольнай канстытуцыі Саюзу Беларусі й Расеі, так званага СБІР. Гэты праект, на шчасьце для Беларусаў, не прадугледжвае супольнага прэзыдэнта СБІР, ні новых падаткаў на гэтую структуру. Аднак прадбачвае пасаду старшыні Вярхоўнага Дзяржаўнага Савету, якую на двухгадовы тэрмін паўнамоцтваў будуць займаць па чарзе прэзыдэнты Расеі й Беларусі.

Гэта, у прынцыпе, добрая навіна для Беларусаў, таму што па-першае прэзыдэнт Лукашэнка на заўсёды страціў шанцы заняць пасаду прэзыдэнта новай саюзнай дзяржавы, а, па-другое, гэтая навіна разьвеяла найгоршы сцэнар для Беларусі – што яна стане 90-тым рэгіёнам Расейскай Фэдэрацыі.

Павал Бромскі

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

# "Незалежная Беларусь -- свабоднае і заможнае грамадства"

Рэзалюцыя Усебеларускага сходу інтэлігенцыі

Мы, прадстаўнікі інтэлігенцыі, сабраліся напярэдадні выбітнай падзеі -- 85-й гадавіны Беларускай Народнай Рэспублікі -- на свой першы Усебеларускі сход, каб асэнсаваць сённяшні стан грамадства і краіны і акрэсліць шляхі іх далейшага развіцця.

Наша родная Беларусь перажывае глыбокі сістэмны крызіс.

Стратэгічны курс улад на камандную сістэму кіравання і падаўленне дэмакратычных свабод прывёў краіну да міжнароднай ізаляцыі і паставіў яе эканоміку на мяжу краху.

Прамысловыя прадпрыемствы даводзяцца да банкруцтва. У катастрафічным стане сельская гаспадарка, якая без належнай аддачы паглынае велізарныя матэрыяльныя і грашовыя рэсурсы. Неразумная, грабежніцкая падатковая палітыка і адміністратыўны ўціск вядуць да скарачэння колькасці прадпрыемстваў прыватнага сектару.

Няўхільна пагаршаецца жыццёвы ўзровень насельніцтва. Сёння за рысай беднасці апынулася ўжо больш за палову насельніцтва. Расце беспрацоўе. Скарачаецца фінансаванне чарнобыльскіх сацыяльных праграм, адсутнічае рэальная дапамога насельніцтву па абароне ад радыяцыі. Па працягласці жыцця краіна апусцілася за мяжу, пасля якой пачынаецца выміранне нацыі.

Пастаянна скарачаецца фінансаванне айчыннай адукацыі, навукі, культуры. Ідзе мэтанакіраваны наступ на беларускую мову. Працягваецца сыход з краіны найбольш кваліфікаваных кадраў, асабліва з ліку моладзі.

У краіне парушаюцца асноўныя прынцыпы дэмакратыі і правы чалавека, адсутнічае вяршэнства закона, рэальны падзел і ўзаемакантроль улад. Адсутнасць незалежнага суда і адвакатуры не дазваляе забяспечыць гарантаваных Канстытуцыяй правоў. Пераследу і рэпрэсіям падвяргаюцца тыя, хто выказвае альтэрнатыўныя думкі і прытрымліваецца адрозных ад улады пазіцый. Пазбаўляюцца волі журналісты, знікаюць палітыкі.

Асаблівую небяспеку нясе за сабой непрадуманае развіццё адносін з Расіяй. За гучнымі дэкларацыямі аб братэрстве і партнёрскіх адносінах, пад прыкрыццём стварэння віртуальнай "саюзнай дзяржавы" хаваецца прамая пагроза паглынання эканомікі Беларусі расійскім алігархічным капіталам, знішчэння яе суверэнітэту, што з'яўляецца парушэннем Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і норм міжнароднага права.

У гэтай сітуацыі многае залежыць ад інтэлігенцыі, ад яе мужнасці і прынцыповасці. Аднак, на жаль, многа сярод нас тых, хто займае прыстасавальніцкую пазіцыю, церпіць ганебную хлусню афіцыйных сродкаў масавай інфармацыі, злачынныя маніпуляцыі на выбарах, маўчыць, калі пераследуюць калег і суайчыннікаў.

Мы, прадстаўнікі інтэлігенцыі, якія сабраліся на Сход з усёй Беларусі, заклікаем прадстаўнікоў усіх інтэлектуальных прафесій, усіх грамадзян Беларусі, праявіць цвёрдасць, грамадзянскую свядомасць і волю, скансалідаваць намаганні грамадства па выхадзе з крызіснай сітуацыі.

Мы выказваем рашучы пратэст супраць любых спроб здачы незалежнасці, дзяржаўнага суверэнітэту нашай краіны, дыскрымінацыі беларускай мовы і заяўляем пра сваю гатоўнасць бараніць гэтыя святыя для кожнага грамадзяніна Беларусі каштоўнасці ўсімі магчымымі сродкамі і спосабамі.

Мы выступаем катэгарычна супраць працягу паўнамоцтваў цяперашняга кіраўніка Рэспублікі Беларусь пасля 2006 года.

Мы абвяшчаем пра намер зрабіць усё, каб выбары новага Парламента ў 2004 годзе і новага Прэзідэнта ў 2006 годзе адбыліся па новым выбарчым кодэксе, у адпаведнасці з міжнароднымі стандартамі, без адміністратыўнага ціску на выбаршчыкаў і кандыдатаў, без махінацый і падтасовак падчас галасавання, каб народ Беларусі змог зрабіць свабодны і асэнсаваны выбар.

Мы заклікаем улады Рэспублікі Беларусь звярнуцца да вопыту дэмакратычных пераўтварэнняў у цывілізаваных краінах, распачаць канструктыўны дыялог з прадстаўнікамі ўсіх палітычных плыняў грамадства. У якасці першага кроку на гэтым шляху прапануем прыняць неадкладныя меры да ўсебаковага, дакладнага і выніковага расследавання спраў аб зніkненні Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага, Зміцера Завадскага, Юрася Корбана, перагледзець судовую справу навукоўца Юрыя Бандажэўскага, вызваліць зняволеных журналістаў Віктара Івашкевіча і Паўла Мажэйку, зняць з іх, а таксама з журналіста Міколы Маркевіча судзімасць.

Мы заклікаем кіраўнікоў і сяброў палітычных партый, грамадскіх рухаў і арганізацый спыніць узаемныя папрокі, пераадолець раз'яднанасць і перайсці да ўзгодненых дзеянняў, згуртавацца дзеля вырашэння галоўнай задачы -- вярнуць Беларусь на шлях дэмакратычнага развіцця, забяспечыць ёй годнае месца ў сям'і цывілізаваных і свабодных народаў Еўрапейскага Саюза.

Усведамляючы сваю асабістую адказнасць за лёс Бацькаўшчыны і разумеючы неабходнасць пошуку арганізацыйных шляхоў для выканання пастаўленых задач, мы надаём Арганізацыйнаму камітэту Усебеларускага сходу інтэлігенцыі паўнамоцтвы каардынатара нашай дзейнасці, даручаем яму прадстаўляць нашыя інтарэсы ў Беларусі і за яе межамі, збіраць нас на Сход у выпадку крытычнай для беларускага грамадства сітуацыі, а таксама сфарміраваць Раду беларускай інтэлігенцыі з ліку найбольш выбітных прадстаўнікоў грамадства.

Мінск, 16 сакавіка 2003 г.

# На мяжы гонару

*Цікава, калі гучыць беларускі гімн, вы сябе адчуваеце як і я? Вы таксама ня ведаеце словаў? Я ня ведаю. Калі сумленна, то і ведаць не хачу. Не хачу таму, што ўпэўнены, -- пройдзе нейкі час і будзе новы гімн – той, словы якога я захачу вывучыць. Зь сьцягам будзе тая самая гісторыя, -- вельмі цяжка любіць спалучэньне кумачовага з балотназялёным. І дзецям немагчыма патлумачыць, чаму ён такі дзіўны. Хочацца абсалютна іншага: гледзячы як лунае бел-чырвона-белы, паклаасьці руку на сэрца і сьпяваць "Магутны Божа". Вельмі хочацца.*

Апошнім часам адчуваю ў сабе незразумелыя перамены – ці то адчай, ці то стому. Адчуваньне вялізнага незанятага месца ў таннай прасторы не дае спакою. Непрыняцце цяперашняй улады не ўпускае ўнутр гонар за краіну і радасьць за посьпехі суайчыньнікаў.

Некалькі дзён таму патэлефанаваў брат. Голас на тым баку тэлефоннага дроту захоплена вымавіў: *"Ты чуў, нашыя сталі чампіёнамі Эўропы?"* У галаве чамусьці бег біятланіст і паліў на бягу зь двух ствалоў аўтамата Калашнікава. Я вырашыў праверыць: *"Хто?" "Як гэта, хто?! Зборная па тэнісе – Самсонаў з Шчацініным!"*

Адказ зьбянтэжыў: ведаючы асабіста практычна ўсю эліту настольнага тэнісу краіны, прамаргаць перамогу, да якой нашая зборная ішла з часоў глыбокага застою. Мне стала не па сабе, -- захацелася сьвята. У галаве паплылі лубочныя карцінкі сустрэчы пераможцаў у аэрапорце: бліцы фотакамераў, захопленыя балельшчыкі, стрэлы шампанскага... Праз секунду прымусіў сябе супакоіцца і ўявіў, як мардаваты дзядзька з спорткамітэту расьпіхвае жыватом натоўп і падграбае да нашых чампіёнаў, і апранае аднаму зь іх на шыю вялізны вянок. На вянку стужка, на стужцы надпіс "От Верховного Главнокомандующего и Президента Национального Олимпийского Комитета А.Г. Лука..." далей неразборліва. Ехаць у аэрапорт адразу расхацелася.

Уключаны ў нядзелю вечарам тэлевізар спакусіў у крэсла ліхаманкава вясёлымі пазыўнымі "Мы пачынаем КВН..." Нязьменлівы за апошнія 40 гадоў Аляксандр Масьлякоў аб'явіў склад удзельнікаў: Урупінскі інстытут конегадоўлі, Якуцкі ўнівэрсытэт субтрапічнай гаспадаркі і Беларускі... Дзьве зь лішкам гадзіны барацьба за выхад у адну чвэрць фіналу абяцалі станоўчыя эмоцыі ад некалькіх жартаў і магчымы гонар ад перамогі суайчыньнікаў.

Трэба сказаць, апасеньні пацьвердзіліся – беларусы, як заўсёды, былі лепей за ўсіх. І ў нейкі момант нават падалося, што думкі аб убогасьці нашага быцьця распусьцяцца ў рогаце і ўжо ніколі ня вернуцца... Але жарт пра пажыцьцёвае прэзыдэнцтва Лукашэнкі вярнуў мазгі ў ранейшы стан. Так, у дадатак да гэтага, згадаўся тэкст Масьлякова, які да нядаўняга часу стала гучаў у час рэклямных паўзаў: "Спонсор белорусской команды – Управление делами президента Республики Беларусь".

Беларусы выйшлі на наступную ступень зь відавочнай перавагаю, але радасьць чамусьці не была поўнай, а гонар не запоўніў душэўны пралом.

Давядзеньне любой сытуацыі да абсурду не пакідае ніводнага шанцу нават для намёка на пафас. Нядаўні канцэрт, прысьвечаны памяці Ўладзімера Мулявіна, паспрабаваў забіць ва ўсіх беларусах любоў да легендарнага музыкі.

Склад удзельнікаў канцэрту бянтэжыў: не да месца вясёлая Эдыта Пьеха, стомленая ад жыцьця Нані Брэгвадзэ, грузінскі ансамбль "Арэро", які выйшаў у расход, дый дзіўны аматарскі калектыў, які называе сябе славутым імем "Песьняры". З прычыны татальнай забароны на выступы ў Беларусі адсутнічаў сапраўдны прадаўжальнік традыцыяў Уладзімера Мулявіна -- ансамбаль "Беларускія Песьняры". Адсутнічалі і музыкі, якія доўгі час сябравалі з Мулявіным і ўспрымалі яго, як узор музычнай самадысцыпліны і як чалавека, адданага музыцы да самазабыцьця.

Канцэрт быў па-савецку сумнаваты і па-чынавенску неталенавіты. Убогае сцэнічнае афармленьне вянчала калёнка, а на ёй гітара "Gibson", якая некалі належыла музыку. У фінолі канцэрту, калі, па задуме рэжысэра, на шчаку гледача павінна была нагарнуцца сьляза, твары публікі заліла фарба сораму. На сцэну пацягнуліся гледачы першых шэрагаў з аднолькавымі букетамі кветак, папярэдне раздадзенымі арганізатарамі дзеяньня. Яны ўкладвалі перад гітараю кветкі роўнымі шэрагамі, а некаторыя ўдзельнікі канцэрту цалавалі гітару, успрымаючы яе гуказдымальнікі за стыгматы Хрыста...

Адна думка турбуе мазгі, што прагнуць радасьці, -- гэта толькі я такі палітызаваны і занудны? Ці хваліе кагосьці яшчэ недахоп эмоцыяў, вольных ад рэжымнага ідыёцтва?

Наагул, проста вельмі хочацца адчуць сябе грамадзянінам. Хочацца адчуць тое, што адчуваюць жыхары цывілізаваных краінаў. А пакуль глядзіш на футбалістаў, якія паклалі руку на сэрца і сьпяваюць гімн перад пачаткам матчу, і сэрца напаўняе гонар за Англію, Бразілію, Партугалію... Словам, за ўсе краіны, акрамя адной. І вы яе ведаеце.

# Твар беларускай інтэлігенцыі

**17 студзеня, калі я вяртаўся з пасяджэньня Аргкамітэту па падрыхтоўцы сьвяткаваньня 85-х угодкаў БНР, ля пад'езду майго дому мяне чакаў сіні «Опэль», зь якога непрыкметна выйшлі бандыты і так моцна зьбілі мяне, што я на тры гадзіны страціў прытомнасьць і трапіў у нэўрахірургічнае аддзяленьне бальніцы.**

Праз некалькі дзён Анатоль Кляшчук рабіў маё фота, якое было зьмешчана ў «НН» з надпісам «Твар беларускай інтэлігенцыі». Мой пабіты твар з сумнымі прыпухлымі вачыма стаў як бы сымбалем беларускай інтэлігенцыі. Я ляжаў у бальніцы і думаў: «Дык які ж сапраўдны твар беларускай інтэлігенцыі?»

Пасьля стварэньня прэзыдэнцкай дзяржавы да большасьці насельніцтва Беларусі, у тым ліку і інтэлігенцыі, пачалі вяртацца тыя якасьці, якія былі тыповымі для бальшавіцка-савецкага часу і ад якіх яшчэ не пасьпелі як мае быць адвучыцца. Гэта перш за ўсё пачуцьцё страху — найбольш пашыранае ва ўсім жывёльным сьвеце. А яно вядзе за сабой такія адмоўныя зьявы, як рабскае паслухмянства, халуйства, падхалімства, дэмагогія, дзьвюхдушша і інш.

Як прыклад такога паслухмянства, прывяду нядаўнюю сэсію Агульнага сходу НАН, на якой зацьвярджаўся новы Статут. Кіраўнік дзяржавы вырашыў стварыць у Акадэміі чыноўніцкую вэртыкаль і выдаў загад, якім поўнасьцю ліквідаваў выбарнасьць кіроўных пасад прэзыдэнта НАНБ, віцэ-прэзыдэнтаў, галоўнага вучонага сакратара, Прэзыдыюму, людзей на якія ён цяпер прызначае сам. Сяброў Агульнага сходу зацьвярджае таксама ён, а кіраўнікоў устаноў НАНБ на кантрактнай аснове прызначае Прэзыдэнт акадэміі. Нават пры Сталіну ў АН не адмянялі выбараў. Камісія па падрыхтоўцы Статуту поўнасьцю ўключыла загад у яго праект. Галасаваньне было ня тайным, а адкрытым, і таму ўсе 394 сябры Агульнага сходу, які, праўда, быў на трацiну разбаўлены прадстаўнікамі неакадэмічных устаноў, прагаласавалі «за». Я вельмі зьдзівіўся, калі ўбачыў, што «супраць» толькі я адзін, хоць я добра ведаў, што многія сябры Акадэміі не падтрымліваюць адмены выбараў сваіх кіраўнікоў. Цяпер, паводле Статуту, кіраўніком у Акадэміі можа стаць любы чыноўнік, нават не вучоны.

На жаль, апазыцыйная частка беларускай інтэлігенцыі вылучаецца, асабліва ў апошні час, многімі хістаньнямі, няпэўнасьцю, вялізнай асабістай ці калектыўнай амбіцыйнасьцю, што прыводзіць да сварак. Яшчэ ў час адраджэньня 20-х гадоў мінулага стагодзьдзя мой дзядзька Максім Гарэцкі сказаў: «Ахвярую сваім «Я» ва імя сьвятога ўсім нам адраджэньня». Зьмены існага цяпер сумна-трагічнага твару беларускай інтэлігенцыі можна дабіцца толькі тады, калі кожны нацыянальна сьвядомы жыхар Беларусі (асабліва зь ліку кіраўнікоў беларускіх партый і рухаў) будзе кіравацца запаветамі нашых адраджэнцаў-папярэднікаў. Толькі аб'яднаньне беларускай інтэлігенцыі можа прывесьці да пабудовы сапраўднай незалежнай дэмакратычнай эўрапейскай дзяржавы, і тады кожны жыхар бяз злога ўдару ў твар падтрымае пакліч: «Жыве Беларусь!»

**Радзім Гарэцкі**

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

Калі ласка, не забывыйце
Пераслаць грашовую ахвяру на
Выдавецкі фонд газэты...

# "Жывая я яшчэ сярод жывых"...

Прарочыя словы! Дваццаць год ужо няма сярод нас вялікай беларускай паэткі Ларысы Геніюш, а яе імя, яе слова, яе душа жывыя і ўзнімаюцца ўсё вышэй.

Кола сяброў і прыхільнікаў творчасці слыннай дачкі Беларусі сабралася ў сталічным Доме літаратара на вечарыне яе памяці. У зале было шмат моладзі, якая прыйшла ў гэты свет пасля таго, як Ларысы Антонаўны не стала. Але юначыя сэрцы цягнуцца да спеўнай, напоенай сокамі роднай зямлі, адухоўленай высокай любоўю паэзіі. Ім цікава, якой была ў жыцці гэтая незвычайная, мужная і пяшчотная жанчына, чыю сілу духу, талент і няўхільнасць мары аб вольнай, незалежнай Беларусі не зламалі неверагодныя пакуты і выпрабаванні.

...Народжаная спяваць, яна стала вязніцай савецкага ГУЛАГа. У яе вырвалі з рук пяро, далі замест яго кірку і кайло. Яна аплаквала гібель сяброў па няволі і сама не раз глядзела ў вочы смерці. Але знаходзіла сілы не толькі захаваць у сабе чалавека, а і падтрымліваць, ратаваць іншых. Яе дабрыня, яе з сэрца ідучае паэтычнае слова неслі жыццё, вярталі веру знясіленым і знявераным. Яе ж духоўным посахам была -- і тады, і кожную хвілю на доўгім цярністым шляху -- Бацькаўшчына, любы прынёманскі край. Туды ляцела яна збалелай душой, да землякоў звярталася з-пад штыка, з дарогі, "калючым аплеценай дротам":

Я з вамі ў няволі, я з вамі усцяж
У смелых сваіх летуценнях,
Я з вамі у кожнай гадзіне жыцця,
У кожнай мінуце цярпення.

Аб лёсе паэткі -- лёсе нескаронай душы ў цісках таталітарнага рэжыму, аб тым, як ёй жылося пасля вяртання на радзіму, распавядалі на вечарыне тыя, каму пашчасціла ведаць Ларысу Антонаўну, сустракацца з ёю. З цікавымі ўспамінамі-роздумамі выступілі прыехаўшыя з Гродна паэтка Данута Бічэль-Загнетава, наша госця з Вільні -- колішняя беларуская студэнтка Тацццяна Сапач, літаратар Міхась Скобла і іншыя. І мы нібыта бачылі стары дамок у гарадку Зэльве, дзе, пад пільным вокам КДБ і мясцовых стукачоў, дажывалі свае гады Ларыса Антонаўна і яе муж Іван Пятровіч.

Няволя, толькі ў іншай форме, працягвалася. Няволя нагляду, няволя бязлітаснай цэнзуры. Тое галоўнае, чым яна жыла, што насіла ў сэрцы, -- ідэя нацыянальнай незалежнасці, бел-чырвона-белы сцяг і Пагоня -- усё гэта выкрэслівалася жорсткай рукой ідэалагічных "пастыраў". Яшчэ б: гэтая ўпартая, нязломная жанчына лічыла сябе грамадзянкай Беларускай Народнай Рэспублікі! А савецкага грамадзянства так і не прыняла. І ці не таму, хаця і вернутая з ГУЛАГу, яна не была рэабілітавана той уладай, якая на доўгія годы кідала яе ў гібельнае пекла?

Не, цiхага "дажывання" не атрымалася, ды яна і не імкнулася да яго. Дамок у маленькім, засаджаным кветкамі гародчыку стаў месцам паломніцтва тагачаснай інтэлігенцыі, студэнцтва, у якіх абуджаўся нацыянальны адраджэнцкі дух. Гасцінная гаспадыня радавалася кожнаму, ад душы частавала сціплымі прысмакамі, свежаспечаным хлебам. А разам з ім з печы, як жартавала сама, даставала і новыя вершы, якімі шчодра адорвала наведвальнікаў.

У любых варунках, у любы час яна, сама сатканая з паэзіі, выпраменьвала яе ўсёй сваёй істотай: "брала" вершы з роднага паветра, чэрпала "невадам з Нёмана", вырошчвала з кветкамі ў сваім гародчыку. І лірычныя, і поклічныя, і гнеўныя. Нездарма так цягнуўся да яе другі волат сучаснага беларускага Адраджэння Уладзімір Караткевіч, якому Ларыса Антонаўна прысвяціла глыбокія радкі:

Толькі ведаю: ў хмарнае сёння
Ці ў няведамы заўтрашні час
Не разжалішся ты, не застогнеш,
Не адкінеш з далоняў мяча...

Падаецца: не толькі з адрасатам, а і з намі, сённяшнімі, размаўляе вялікая патрыётка. Нам завяшчае сваю адданасць Беларусі, сваю мужнасць годна жыць дзеля яе, насіць у сваёй душы. Гэтым пачуццём была прасякнута размова на вечарыне пра духоўную Маці Беларусі. Як і яе трапяткія вершы ў вуснах выхаванцаў рэжысёра Валерыя Мазынскага, і песні барда Пятра Русава, і выява аблічча акрыленай паэткі работы скульптара Міхася Інькова.

На жаль (але не дзіўна), зэльвенскія ўлады ўсё ніяк не адважацца даць згоду на ўстаноўку бюста Ларысы Геніюш на яе магіле. Як і сталічныя ўлады не адважваюцца шырока і прыгожа ўшанаваць яе памяць. Хіба не сорам, што дзеля вечарыны ў Доме літаратара, які зараз належыць зусім не літаратарам, а Упраўленню справамі прэзідэнта, грамадскія арганізацыі Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына", Таварыства беларускай мовы імя Скарыны і культурніцкая камісія Партыі БНФ ускладкі збіралі грошы на аплату арэнды залы?

Але, верыцца, не за гарамі той час, калі самыя вялікія і прэстыжныя залы краіны адчыняць дзверы для высокай паэзіі, якой і зараз поўныя сэрцы многіх нашых суайчыннікаў. І загучыць наўсцяж, над апетай паэткай зямлёй яе чараўнічы, ласкавы голас (мы чулі яго запіс на вечарыне), яе споведзь, што "ёсць край адзін пад прамяністым небам, засланы снежна-белым туманом", узорыстая, быццам вытканая на кроснах краса трапляе проста ў сэрца. І што гэты край -- "мой цэлы, цэлы свет!.."

Дзень памяці Ларысы Геніюш быў адзначаны паніхідай ў Петрапаўлаўскім саборы ў Мінску, монаспектаклем у тэатры "Зьніч" Галіны Дзягілевай, паэтычнымі сустрэчамі ў бібліятэках сталіцы і Гродзеншчыны.

Святлана КЛІМЕНЦЕНКА (Н.В.)



# Без веры высахне душа...

Хударлявая, невысокага росту бабулька нібы сышла з вокладкі французскага часопіса мод: элегантная шляпка, па колеру падабраны паліто і хусцінка на шыю. Усё зграбна, акуратна, да твару. Вера Бранкоўская на хвілінку прыпынілася, каб адказаць на маё прывітанне, і даверліва паведаміла: **"У царкву спяшаюся, на богаслужэнне. Чалавеку абавязкова патрэбна вера, бо без яе высахне душа."**

— Чым жа тлумачыцца такая шчырая вера ў Бога, прывязанасць да храма? — пытаю ў яе.

— Перш за ўсё тым, што я прывучана да гэтага з дзяцінства. Нарадзілася ў вёсцы Гірычы Дзятлаўскага раёна 75 гадоў назад у сям'і веруючых. У гады майго дзяцінства дзейнічалі цэрквы ў навакольных вёсках Вензавец і Накрышкі. Памятаю, як у нядзелю бацька запрагаў каня і мы ўсёй сям'ёй ехалі на багаслужэнне. Святыя, чыстыя гадзіны далучэння да веры засталіся ў памяці на ўсё жыццё.

Стаўшы дарослай, набыла прафесію фармацэўта, прадавала людзям лекі. Бог заўсёды жыў у маёй душы... Гэта жанчына кажа святую праўду. Памятаю, шмат гадоў назад у Дзятлаве стаяў невялічкі аптэкарскі ларок. Там і працавала Вера Бранкоўская. Кожнага наведвальніка яна сустракала, як добрага знаёмага, кожнаму старалася дапамагчы. Яе шчырасць, дабрыня, увага запаміналіся надоўга нават тым, хто бачыў і чуў гэту жанчыну ўпершыню.

А потым прыйшла бяда: у ларку выявілі растрату. І хоць яе віна была мізэрная, даказаць гэта не змагла. Тыя, хто былі па-сапраўднаму вінаватыя, засталіся на волі, а ёй прыйшлося адбываць пакаранне.

— Бог наказаў нам цярпець не толькі за свае, але і за чужыя грахі, — гаварыла са смуткам. І цярпела.

— Ведаеце, — працягвае далей Вера — маёй рэлігіяй заўсёды былі дабрыня, самаахвярнасць, уменне і жаданне дапамагчы бліжняму, падставіць плячо ў час выпрабаванняў.

— Зірніце, — паказала яна на покуць аднаго пакоя. Там вісела ўпрыгожаная штучнымі ружамі ікона...

Люблю хадзіць у царкву. Там абагачаецца душа. Не толькі я, але і ўсе веруючыя адыходзяць ад штодзённай мітусні. Няма зайздрасці, сквапнасці, пагоні за нажывай. З радасцю бачу ў людскіх вачах нейкае прасвятленне, прымірэнне. Тут, перад Богам, мы ўсе роўныя. Заўсёды іду дадому з абноўленай душой. І гэтым шчаслівая. Я перакананая, што менавіта вера ў Бога дала мне цярпенне і сілы, жыццёвую энергію...

Я ведаю, пра што гаворыць гэта мудрая жанчына. Яны з мужам выхавалі трох сыноў, але жорсткі лёс распарадзіўся так, што двух ужо няма ў жывых: аднаго забілі бандыты ў Гомелі, а праз некалькі гадоў раптоўна памёр другі... Не дай Бог нікому перажыць такое гора. Але Вера Ігнатаўна не крыўдзіцца на лёс, а мужна нясе свой крыж.

Яна вельмі любіць маляваць. Ужо будучы ў сталым узросце, закончыла Маскоўскі завочны народны універсітэт мастацтваў. Яе работы былі на выставах у Мінску, Маскве, Сочы.

Трэба сказаць, што гэта нястомная, энергічная жанчына мае нямала вартых увагі работ. У яе своеасаблівы погляд на навакольны свет. Малюе прыроду, родныя краявіды, помнікі гісторыі і культуры. Адна з апошніх работ яшчэ без назвы, але яна захапляючая і цікавая: з-за плоту выглядае белы прыгожы конь з доўгай грывай, якая ўецца на ветры. Горда ўзнятая галава, жывая, імклівая поза. Здаецца, хвіліна-другая, і гэты белы прыгажун пераскочыць праз плот і паімчыць у залітае сонцам поле, дзе так хораша пахнуць травы...

Яе сядзіба ў Дзятлаве нічым не выдзяляецца сярод дзесяткаў іншых. Густыя кусты бэзу ля веснічкаў, лаўка. Усё сціпла і проста, ніякай раскошы. І ўсё ж тут жыве вельмі багатая жанчына. Багацце гэта — у яе шчодрай душы, у веры, якую пранесла праз усе выпрабаванні, і якая застанецца ў сэрцы да скону дзён.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ** /Газэта Слонімская/

## НІШТО НЕ ЗАМЕНІЦЬ СВАБОДУ...

### Так разумна кажа Сяргей Законікаў

...А цяпер — пра малаабжытую, галодную і халодную, але ўсё роўна такую прывабную, прыцягальную для смелых, самадастатковых людзей волю. Трэба самакрытычна канстатаваць, што беларускія пісьменнікі ў асноўнай сваёй масе баяцца свабоды. Наша творчая арганізацыя — гэта беларускае грамадства ў мініяцюры. Тая ж самая разгубленасць, безыніцыятыўнасць, абыякавасць да свайго лёсу. Дзеці савецкай сістэмы, якая вылучала пісьменнікаў, адорвала рознымі рэгаліямі, званнямі, кватэрамі, дачамі, выпускам збораў твораў і выбраных і г. д., яны таксама прывыклі спадзявацца, што дзяржава заўсёды будзе клапаціцца пра іх. У сённяшніх абяздоленых, загнаных у кут жабрачага існавання пісьменнікаў і зараз застаецца такі ж утрыманскі настрой.

І ўсё ж у апошнія гады ў інфармацыйнай прасторы Беларусі з'явіліся незалежныя літаратурныя, культуралагічныя выданні. Яны розныя па змесце і якасці. Яны не выдаюцца рэгулярна. Некаторыя з іх больш падобныя да альманахаў. Але гэтыя выданні ёсць і працуюць.

Канешне ж, ва ўмовах суцэльнай русіфікацыі грамадства, абмежаванай колькасці беларускамоўных адданых чытачоў, нагнятання ўладаю варожасці да пісьменнікаў, да іхняга слова пускацца ў свабоднае плаванне страшнавата.

Але я хачу падбадзёрыць сваіх калегаў. Свабода слова патрэбна не толькі пісьменнікам, журналістам ці наогул тым, каго называюць інтэлігенцыяй. Людзі, занятыя іншай, не звязанай са словам працай, думкамі пра хлеб надзённы, таксама не лічаць смелую, праўдзівую літаратуру або журналістыку нейкай раскошаю, без якой можна абысціся. Выказвацца і быць пачутым — гэта спрадвечная патрэба чалавека. Грамадства, якое пазбаўлена свабоднага слова, становіцца псіхічна хворым. Нявыказаныя думкі дэфармуюць, разбураюць чалавечую свядомасць.

Таленавітыя пісьменнікі, якія асмеляцца стварыць незалежныя літаратурныя выданні, знойдуць свайго падпісчыка і чытача. Беларуская мова тут — не перашкода. Тое, што неабходна людзям, яны прачытаюць абавязкова.

У іншых постсавецкіх краінах нашым калегам таксама цяжка працаваць ва ўмовах дзікага рынку, але ўсё ж працэс пайшоў. Улады перадалі ім ва ўласнасць будынкі і памяшканні Саюзаў пісьменнікаў, рэдакцыі літаратурных выданняў, дамы творчасці, кнігарні і г. д. Частка гэтай нерухомасці здаецца ў арэнду, і за вырučаныя сродкі наладжваецца выпуск часопісаў, кніг. Акрамя таго, у многіх дзяржавах урад выдзяляе гранты пад канкрэтныя літаратурныя праекты.

У нас жа ўсё наадварот — улада нахабна, незаконна адабрала пісьменніцкую маёмасць.

Але не трэба падаць духам. Першапачатковы капітал, матэрыяльную базу для стварэння незалежнага выдання знайсці, хоць і з вялікімі цяжкасцямі, можна. Перш за ўсё — гэта свае магчымасці. Яны, безумоўна, невялікія. Тым не менш, нешта сабраць удасца і з нашых, ушчэнт збяднелых кішэняў. Спонсараў, рэкламадаўцаў, якія могуць падтрымаць перспектыўную ідэю, у нас покуль малавата, але ёсць і яны. Акрамя таго, маецца магчымасць звярнуцца па дапамогу да замежных дабрачынных фондаў. Трэба толькі быць больш ініцыятыўнымі і разваротлівымі. Пад ляжачы камень вада не цячэ.

А далей усё залежыць ад таго, як створаныя выданні пакажуць сябе перад падпісчыкамі і чытачамі, ці змогуць прыцягнуць увагу. Вартае — выстаіць, шалупінне, графаманія — адвеюцца. Што б ні было, а, як сказаў адзін з лепшых беларускіх выдаўцоў Міхаіл Дубянецкі: «Трэба рызыкаваць!»

І вось рэзюмэ: беларускім пісьменнікам не застаецца нічога іншага, як абжываць свабоду, напаўняць яе цяплом і святлом сваіх здольнасцей і талентаў.

*************************************************

## ЛАТВІЯ

У Латвіі агучаны статыстычныя звесткі аб нацыянальным складзе насельніцтва. Паводле Рэгістра жыхароў Упраўлення грамадзянства і міграцыі, у краіне налічваецца 2.331.467 чалавек. З іх толькі 58,4 працэнты — латышы па нацыянальнасці. Рускіх зарэгістравана 29 працэнтаў. І менавіта сярод іх найвялікшая колькасць неграмадзян і асоб без грамадзянства: з больш чым 667 тысяч чалавек амаль 321 тысяча — грамадзяне краіны, больш чым 337 тысяч не маюць грамадзянства, а яшчэ 19 тысяч лічацца асобамі без грамадзянства ці замежнымі грамадзянамі. **Беларусы — трэцяя буйная этнічная група (3,9 працэнты ад агульнай колькасці насельніцтва). У Латвіі іх зарэгістравана амаль 91.809 чалавек.** Праўда, толькі 25 тысяч беларусаў з'яўляюцца грамадзянамі краіны. Украінцаў налічваецца больш за 60 тысяч (2,6 працэнта), палякаў — амаль 58 тысяч (2,5 працэнта), літоўцаў — 32 тысячы (1,4 працэнта), яўрэяў — 10 тысяч (0,5 працэнта).

*************************************************

# Не патуранне, а супрацiўленне

Вольга IПАТАВА /Народная Воля/

Усе памятаюць агульны ўздым пачатку 90-х гадоў, нашу шчырую радасць ад абвяшчэння незалежнасці Беларусі і жаданне працаваць і аддаваць усе свае сілы адраджэнню і ачышчэнню роднага краю ад злачынстваў таталітарызму, ад афіцыйнага савецкага двурушша, якое праядала душы, як серная кіслата.

Прайшло амаль два дзесяцігоддзі. Кожны з нас можа з горыччу канстатаваць, што маральныя крытэрыі грамадства, на жаль, яшчэ болей панізіліся і перайшлі ўсе магчымыя чырвоныя папераджальнікі аб тым, што далейшае "смяротна небяспечна". Знік той агульны ўздым, а над духоўным адраджэннем навіслі густыя чорныя хмары.

Смяротна небяспечна для беларускай інтэлігенцыі і далей быць у стане расслабленасці і раз'яднанасці. У стане загнанасці і патурання самым дзікім прыхамацям улады і яе поўнага неразумення якой бы то ні было адказнасці і перад часам, і перад грамадствам. Прыкладаў таму мноства, і яны кожны дзень перад вачыма.

Па тэлебачанні рэкламуецца выстава мэблі, якая праводзіцца ў Палацы Рэспублікі. У тым самым, дзе не знайшлося месца для форуму інтэлігенцыі, хаця накіроўваліся просьбы -- прапановы ў Адміністрацыю прэзідэнта. Улада не адказала ні на адзін ліст аргкамітэта, як не адказвала яна летась на лісты Рады Саюза пісьменнікаў, як не адказвае на патрабаванне сходу інтэлігенцыі г. Мінска расследаваць факты злачыннага нападу на цэлы шэраг знакамітых людзей з ліку творчай інтэлігенцыі краіны. Хто збіваў Адама Мальдзіса, Радзіма Гарэцкага, Юрыя Хашчавацкага, Валерыя Мазынскага і многіх іншых -- нават не надта хаваючыся, нібыта знарочыста дэманстравалі яны сваю сілу і ўпэўненасць у беспакаранасці? Адказу няма, як няма ніводнага злачынцы там, дзе суцэльныя злачынствы!

Бягуць з краіны маладыя спецыялісты, бо нельга існаваць і адукоўваць дзяцей на тыя мізэрныя заробкі, якія атрымліваюць урачы, настаўнікі і інжынеры. З цяжкасцямі шукаюць грошы на сваё існаванне арганізацыі, якія дзяржава мусіла б падтрымліваць і клапаціцца, такія, напрыклад, як Таварыства беларускай мовы і Таварыства беларускай школы. Сапраўды геройчнымі намаганнямі ТБМ здолела выпускаць газету "Новы час", дзе на сённяшні час могуць, хай сабе і без аніякай аплаты, друкавацца незалежныя ад улады пісьменнікі. У холдынгу ж, арганізаваным нібыта з мэтай паклапаціцца пра нацыянальную літаратуру, ідзе самае сапраўднае знішчэнне вольнага пісьменніцкага духу, калі маўчанне купляецца ўжо не за грошы, за ўзнагароды, а -- проста за пасады, проста за права існаваць, цяжкай працай зарабляючы на кавалак хлеба. Мне крыўдна за тых, хто панёс свае творы ў холдынгавыя выданні, дзе безаглядна кладуцца пад уладу і радасна славяць гэтае прыніжэнне. Безумоўна, можна зразумець імкненне пісьменнікаў адчуваць клопат пра сябе, дапамогу ў друкаванні твораў. Але д'ябал, якому прадаюць душу, не заўсёды ўзнікае перад сучасным Фаўстам у выглядзе Мефістофеля, і, значыць, трэба вучыцца ўменню разгледзець ягонае аблічча ў праявах нашага вельмі няпростага жыцця.

Страх страціць працу і, значыць, пайсці на вуліцу паміраць з голаду праследуе цяпер многіх інтэлігентаў. Катастрафічна скарацілася магчымасць уладкавацца на працу ўсім, хто мае беларускую філалагічную адукацыю. Куды, напрыклад, пойдзе пісьменнік, які ў знак пратэсту пакінуў сваю пасаду ў гвалтоўна ўтвораным холдынгу?

Нядаўна я выступала ў школе. Настаўніца, якую даўно ведаю, Хрыстом-Богам маліла, каб я ні словам не зачапіла сённяшнія беззаконні, іначай, як яна казала, яе "тут жа выставяць за браму". І шэптам расказвала, як груба абыходзяцца з настаўнікамі прадстаўнікі райана, калі прыходзяць на ўрокі, як яны крычаць на дырэктара. Мяне ўразіў страх у вачах гэтай немаладой жанчыны, якая на развітанне раптам сказала тое, што я даўно бачу, калі размаўляю з людзьмі: " Жыць -- не хочацца..."

Нежаданне жыць -- а немалую роль у гэтым іграе атмасфера страху, пастаяннай няпраўды і ігнаравання маральных крытэрыяў, па якіх павінна існаваць любое грамадства, -- праяўляецца і ў тым, што ў нас катастрафічна расце колькасць самазабойстваў, псіхічных захворванняў, што жанчыны нашыя не хочуць нараджаць, нягледзячы на тое, што праз колькі гадоў паўстане сур'ёзная праблема -- хто будзе зарабляць ім на пенсіі і сацыяльныя дапамогі?

У нас шмат пішуць пра адчайны стан эканомікі, пра мізэрныя пенсіі і ўсё большую немагчымасць выжыць фізічна. Усё гэта праўда. Але не меншую, а часам і большую ролю ў здольнасці народа выстаяць перад цяжкасцямі грае і стан яго душы і духу. Вось пра што павінна ў першую чаргу дбаць інтэлігенцыя.

Менавіта інтэлігенцыя ведае: калі загнівае народны дух, народ знікае, раствараецца ў больш моцных этнасах. А дух народа ўздымае той, каго Усявышні адарыў здольнасцю творчасці, каму даў энергію дабрыні і святла, спагады і любові, бачанне гістарычнай перспектывы і жаданне служыць ісціне.

Такія людзі звычайна ідуць у навуку, культуру, творчасць, яны складаюць ядро той энергіі, якая адпушчана нацыі.

Але ці кожны з тых, каго воля і адоранасць зрабілі інтэлігентам, адчувае сябе ім і чуе ў сабе, сваёй душы струны, якія чуйна адгукаюца на несправядлівасць і гвалт, на няпраўду і нянавісць? Ці задае ён сабе пытанне, чаму ён служыць у жыцці, што, свядома ці несвядома, выбраў?

За гэтыя гады многія стаіліся. Прыціхлі. Чакаюць, паступова губляючы надзею на тое, што нехта прыйдзе і выцягне іх з багны, дасць іншае, лепшае жыццё. Але не робяць спробы хаця б аднойчы запаліць свечку замест таго, каб сядзець у цемры і скардзіцца на сваё горкае жыццё.

Інтэлігенцыя павінна абудзіць гэтыя санлівыя душы. Каб пачуць тых, хто асвятляе вакол сябе жыццё і робіць часам непрыкметную, але такую патрэбную ўсім справу асветніцтва, хто актыўна працуе і дае народу духоўныя арыенціры. І такіх імёнаў нямала ў нашым асяродзі -- Васіль Быкаў і Янка Брыль, Радзім Гарэцкі, Аляксей і Ірына Марачкіны, Васіль Шарангов іч, Галіна Дзягілева, Адам Мальдзіс і многія, многія іншыя творцы.

Думаю, голас інтэлігенцыі павінен быць адметным ад голасу палітычных партый. Яе сіла і ўлада найперш духоўная, яе зброя -- высокая маральнасць, а не мэтазгоднасць, яе клопат аб вечным і высокім, а не толькі аб сённяшнім і зменлівым. Канешне, вельмі важныя рэчы -- у саюзе з Расіяй ці без яе? За НАТО ці за Ірак і старажытныя яго культурныя каштоўнасці? Ды ўжо праз год сітуацыя будзе іншаю, паўстануць для ўсіх нас, магчыма, зусім іншыя праблемы і прыярытэты.

І таму аб'ядноўвацца інтэлігенцыя павінна не на аснове хуткаплынных тэндэнцый, а на аснове вечных каштоўнасцяў для любога народа -- незалежнасці краіны і высокай маралі.

І яшчэ: выжыванне і, у рэшце рэшт, жыццё беларускага народа, яго традыцыі і мараль, яго адпаведнасць вялікім касмічным законам быцця, стан яго душы, яго дэмаграфічныя параметры, умовы захавання нацыі -- усё гэта павінна хваляваць не толькі сучасную інтэлігенцыю, але і тую, якая стане некалі вызначаць шляхі беларусаў у свеце. Калі мы -- менавіта мы! -- не дамо ператварыць нашу краіну ў Паўночна-Заходні край ці губерні ў іншай дзяржаве. Калі мы пераможам самую галоўную загану інтэлігенцыі -- самасць і хутаранства ў горшым сэнсе гэтага слова. Калі навучымся нарэшце падпарадкоўваць свае справы агульнаму -- беларускаму -- інтарэсу і перастанем самагубна з'ядаць адзін аднаго за драбязу і ўзвялічвацца за кошт аплёўвання суседзяў і братоў.

Для гэтага ёсць усе падставы. А галоўная з іх -- тое, што ў нас ёсць вялікі патэнцыял талентаў і шмат разумных галоў, якія, нарэшце, павінны сабраць у адно наш калектыўны розум і волю да жыцця, як тое на працягу сваёй гісторыі вымушаны былі рабіць і зрэшты зрабілі ўсе нашыя суседзі, якія цяпер смела глядзяць у будучыню, бо адваявалі яе ва ўпартай барацьбе і супраціўленні.

***************************************************

# Закон генаў. Калубовічы

**Спачатку іх падзяліў нямецка-савецкі фронт, пасля — «жалезная заслона». Паміж бацькам і сынам, Аўгенамі Калубовічамі. На працягу дзесяцігодздзяў яны жылі на розных кантынэнтах і нічога ня ведалі адзін пра аднаго.**

Увосень 1990 г. настаўнік Аўген Калубовіч гартаў перад урокам гісторыі часопіс «Спадчына». Нечакана яму на вочы патрапіў тэкст Кастуся Тарасава пра беларускага эмігранта Аўгена Калубовіча, з інфармацыяй пра тое, што ён памёр у ЗША ў 1987 г. Лекцыю настаўнік правёў моўчкі, ходзячы між лаўкамі, а ўжо ідучы дамоў, не стрымаў сьлёзаў…

«Лёс Беларусі — гэта і лёс Аўгена Калубовіча», — пісаў у 1992 г. у газэце «Культура» пра бацьку сын. Ён ужо ведаў, што давялося перажыць Калубовічу-старэйшаму — «нацдэму», вязьню ГУЛАГу, прэм'ер-міністру Беларускай Народнай Рэспублікі.

Аўген Калубовіч нарадзіўся ў мястэчку Ціхінічы на Рагачоўшчыне ў 1912 г. Скончыў пэдтэхнікум і трапіў… у турму. Яго арыштавалі за прыналежнасьць да нелегальнай арганізацыі «альтруістаў». Тры гады ён правёў у савецкіх канцлягерах. Пасьля вызваленьня вярнуўся ў Беларусь, жыў у Менску, скончыў пэдінстытут, стварыў сям'ю. Калі пачалася вайна, Калубовічы выехалі на ўсход: Аўгена мабілізавалі ў Чырвоную Армію, а цяжарная жонка Ніна засталася на Тамбоўшчыне, дзе ў сакавіку 1942-га нарадзіла сына Аўгена. Бацьку не судзілася яго ўбачыць.

Патрапіўшы ў акружэньне пад Масквой, Аўген Калубовіч дабраўся да Беларусі, дзе неўзабаве ўключыўся ў нацыянальны рух.

Легальна працуючы ў беларускіх структурах, А. Калубовіч быў зьвязаны з нацыянальнай падпольнай арганізацыяй, на чале якой стаялі Янка Станкевіч і Вацлаў Іваноўскі. З 1944 г. выехаў на эміграцыю.

На эміграцыі Калубовіч жыў пад прозьвішчам Каханоўскі, спачатку ў Нямеччыне, з 1950 г. — у ЗША. Выкладаў у беларускай гімназіі імя Янкі Купалы, узначальваў Беларускую нацыянал-дэмакратычную партыю. Нейкі час ачольваў Урад БНР, якраз тады, калі сярод эмігрантаў жыла надзея на хуткае вяртаньне на Бацькаўшчыну. Пражыўшы ў ЗША 37 гадоў, ён так і не прыняў грамадзянства гэтай краіны. Адышоўшы ад актыўнай палітычнай дзейнасьці, Калубовіч шмат пісаў: успаміны, больш за 100 дасьледаваньняў гісторыі і культуры Беларусі. Невялікая частка ягоных прац аў была перавыдадзена на Бацькаўшчыне ў пачатку 1990-х.

**Вяртаньне да бацькі**

Эвалюцыя сьвядомасьці Аўгена Калубовіча-малодшага была пакручастай. Ён рос сіратою. У 1945 г. ён разам з маці з Тамбова прыехаў у Менск. Кватэра была разбурана, і яго адправілі да бабулі пад Бабруйск. Уся вёска сабралася паслухаць, як дзіця гаворыць на чыстай расейскай мове. Вучыўся ў Менску ў расейскай школе… Маці ж гаварыла па-расейску. «Я быў звычайны савецкі чалавек, — успамінае ён. — Але ў мяне заўсёды было нейкае ўнутранае супераажываньне, што гіне беларуская мова (хоць сам я ёй тады не валодаў, размаўляў па-расейску). Сьвядомасьць, напэўна, была ў мяне ў генах. Я заўсёды адчуваў, што я беларус».

Калубовіч шкадуе, што яму не давялося ў савецкія часы пазнаёміцца са сьвядомай інтэлігенцыяй. Толькі ў 80-я паступова далучаўся да нацыянальнага руху, сьвяткаваньня беларускіх сьвятаў. Таксама паступова вывучаў мову. Спачатку з слоўнікамі ўважліва перачытваў газэту «Звязда», пасьля загаварыў на «трасянцы», якую хутка пераадолеў. Разам з сынам Зьмітром наведваў курсы беларускай мовы пры ТБМ, выдатна здаў экзамэны і атрымаў дыплём №1, падпісаны Нілам Гілевічам.

**Жыцьцё пад кантролем**

Увесь час жыцьцё Калубовіча-малодшага адсочвалі савецкія спэцслужбы. У 16 гадоў у міліцыі ў яго зьнялі адбіткі пальцаў, пазьней за ім прыглядалі агенты КДБ. Ён ужо ведаў, што прычынай гэтаму быў бацька.

«Пра бацьку я ведаў увесь час, — кажа А.Калубовіч. — Дзед, бабуля ці маці іншы раз казалі: «У цябе бацька такі разумны быў!» Час ад часу пра яго нейкая гаворка заходзіла. Потым прасьлізнула інфармацыя, што бацька быў рэпрэсаваны. Пасьля — што быў «нацдэмам». А ў клясе шостай ці сёмай я ўжо даведаўся пра ягоную дзейнасьць у час вайны. Ня ведаў толькі, жывы ён ці не. Спадзяваньняў, што ён жывы, не было. Пяць ягоных лістоў з войска дзед параіў спаліць: маці ўвесь час была пад наглядам КДБ».

Да яе прыходзілі на працу, пыталіся, ці чула яна што пра мужа. Аднойчы дапытваў сумнавядомы Ваўпшасаў. Ён запомніўся шэрым тварам, на якім не было аніякіх эмоцый. Такімі ж шэрымі, сталёвага колеру вачыма, якія, як падавалася, глядзелі скрозь чалавека... Дзесьці ў 1948 г. чэкісты прымушалі пісаць пад дыктоўку ліст да Аўгена. У МДБ прывозілі і сына, фатаграфавалі. Разьлічвалі, што, калі адшукаюць на Захадзе Калубовіча, ім удасца схіліць яго да вяртаньня ў Беларусь. Ужо праз гады стала вядома, што Аўген Калубовіч у ЗША так і не атрымаў ні лістоў, ні фатаздымкаў…

Аўген жа з маці былі ўпэўненыя, што бацьку забілі. Ведалі пра магчымасьці савецкіх спэцслужбаў, агентаў якіх хапала і ў Заходняй Нямеччыне. Вестка пра тое, што ён застаўся жывы, прыйшла да іх разам зь весткай, што Аўген Калубовіч-старэйшы ўжо памёр…

**Умяшаўся Замяталін**

Як і Калубовіч-старэйшы, Калубовіч-малодшы стаў настаўнікам. Яго цягнула да каранёў, да мінуўшчыны Беларусі. Працаваў у Менску настаўнікам гісторыі, намесьнікам дырэктара па выхаваўчай працы ў 110-й школе, дырэктарам 62-й школы, пасьля зноў настаўнікам. Уладзімер Колас прапанаваў яму працу намесьніка дырэктара Беларускага ліцэю. Умяшаўся Замяталін, тады ўсёмагутны кіраўнік ідэалягічнае вэртыкалі, сказаў, што, калі да Баршчэўскага, Коласа і Вячоркі дадаць яшчэ і Калубовіча, «у ліцэі можна будзе праводзіць соймы БНФ». І сапраўды, Аўген Калубовіч пайшоў па шляху бацькі — у палітыку. Доўгі час быў сябрам Сойму БНФ, узначальваў Койданаўскую Раду Фронту. Сёлета балятаваўся ў дэпутаты Менскага гарсавету. Кажа, што меў добрыя шанцы, бо абышоў тысячы кватэр і шмат дзе сустракаў сваіх былых вучняў. Яму, настаўніку ліцэю №1, неаднаразова прапаноўвалі зьняць сваю кандыдатуру. Урэшце, за дзень да выбараў, зьнялі з дыстанцыі. **Сяргей Ёрш** /Наша Н/

*****************************************************

**Нам надзвычай прыемна ведаць, што нашу газэту чытаюць людзі, якія ўмеюць і хочуць думаць…**

Уладзімір КУЛАЖАНКА, прафесар /Н. Воля/

# ...На вечную адсталасць

Як вядома, адным з аргументаў заўзятых "інтэгратараў" з'яўляецца той факт, што Беларусь, маўляў, маленькая краіна, да таго ж бедная на рэсурсы, і таму трэба імкнуцца да аб'яднання з Расіяй. На гэта можна было б не звяртаць увагі, каб не здавалася адна пазіцыя за другой, каб самая вялікая нацыянальная каштоўнасць -- суверэнітэт -- не пераходзіла ў чужыя рукі.

Вялікая ці малая краіна -- паняцці адносныя. Краіна можа быць вялікай у тэрытарыяльным плане, як, скажам, Расія, але карлікавай у эканамічным сэнсе. Сапраўды, Расія ў 70 разоў перавышае тэрыторыю Вялікабрытаніі, але амаль у 6 разоў адстае ад яе па аб'ёму вытворчасці нацыянальнага прадукту, а ў разліку на аднаго чалавека -- аж у 10 разоў.

Што тычыцца тэрытарыяльнага аспекту, то Беларусь, канешне, нельга назваць вялікай краінай. Але яна і не малая. Як-ніяк, а яе тэрыторыя мае працягласць з поўначы на поўдзень 560 км, а з захаду на ўсход -- 650 км. Тэрыторыя Беларусі большая, чым тэрыторыя трох прыбалтыйскіх краін Літвы, Латвіі, Эстоніі, разам узятых. Так што няма падстаў лічыць Беларусь малой краінай у тэрытарыяльным плане, тым больш што ў Еўропе больш як 10 краін маюць тэрыторыю значна меншую, чым Беларусь.

Наша краіна не бедная і на рэсурсы. Часам заўзятыя "інтэгратары" разводзяць рукамі, маўляў, у нас няма карысных выкапняў. Але гэта не так. У нетрах Беларусі, якія, дарэчы, вывучаны недастаткова, выяўлена шмат месцараджэнняў 30 відаў карысных выкапняў. Асобае месца займаюць калійныя солі. Па іх прамысловых запасах краіна займае адно з першых месцаў у свеце. Практычна невычарпальныя запасы каменнай солі Мазырскага, Давыдаўскага, Старобінскага радовішчаў. Наша краіна багатая нярудными матэрыяламі: гранітамі, даламітамі, мергелем, мелам, глінамі спецыяльнага прызначэння, торфам. Перспектыўным рэсурсам з'яўляецца сапрапель. Беларусь валодае унікальнымі запасамі вады пітнога і бальнеалагічнага прызначэння. Разведаныя запасы нафты пакуль невялікія. Але штогод здабываецца каля 2 млн. тон чорнага золата. Адкрытыя радовішчы бурых вугаляў і сланцаў. Знаходзяцца запасы руды, рэдкіх металаў, алюмініевай і содавай сыравіны, фасфарытаў. Таксама ёсць плошчы, перспектыўныя на алмазы, золата і бурштын.

Не трэба забываць і пра лес. Штогод Беларусь можа нарыхтоўваць не менш як 12 мільёнаў кубічных метраў драўніны, якой хопіць на ўнутраныя патрэбы і экспарт. Акрамя гэтага лясы могуць даваць 25 тысяч тон высакаякаснай жывіцы, 70 тысяч тон грыбоў, 65 тысяч тон чарніц і іншых ягад.

Дык хто можа сказаць, што на прыродныя рэсурсы Беларусь бедная? У нас дастаткова зямлі, каб пракарміць насельніцтва, удосталь якаснай вады, гліны і лесу, каб пабудаваць жыллё. Ёсць матэрыялы для вырабу адзення. Дык у чым справа?

Справа ў тым, што па ўзроўні і тэмпах эканамічнага развіцця Беларусь адстае сёння амаль ад усіх еўрапейскіх краін. Але гэта часовая з'ява, звязаная з заганамі эканамічнай палітыкі, і яе трэба пераадолець.

Безумоўна, Беларусі трэба нарасціць эканамічныя мускулы. і без інтэграцыі тут не абысціся. Толькі не з такой беднай і слабаразвітай краінай, як Расія. Калі знаёмішся з расійскай статыстыкай і з дадзенымі расійскіх аналітыкаў, апаноўвае жах: куды піхаюць беларускі народ заўзятыя "інтэгратары"? Піхаюць на вечную адсталасць, у абдымкі крымінальнага капіталу. Урадавыя колы праз тэлебачанне нядаўна агучылі інфармацыю, што летась сума хабару расійскім чыноўнікам дасягнула 16 млрд. долараў. Сам Пуцін назваў яшчэ адну страшэнную лічбу: летась здзейснена 1,8 млн. злачынстваў супраць асобы.

Альбо чаго вартая наступная інфармацыя. У Нямеччыне прадукцыйнасць працы за адну гадзіну складае 27,7 долара ВУП, а ў Расіі амаль у 4 разы меней -- толькі 7,6 долара. Пры гэтым заработная плата за гадзіну ў Нямеччыне складае 22,7 долара, а ў Расіі -- 1,7 долара. Адпаведна 80% і 20% ад створанага ВУП. Атрымліваецца, што эксплуатацыя працоўных у Расіі ў 4 разы вышэйшая, чым у ФРГ. Дык куды нас цягнуць "інтэгратары"?

Беларусам нічога не свеціць, калі "інтэгратары" даб'юцца новых поспехаў у сваіх намаганнях. Найперш што тычыцца заработнай платы. Напрыклад, сёння ўлады ў Расіі баяцца павысіць сярэднюю заробітную плату да 100 долараў. Афіцыйныя асобы заяўляюць, што калі гэта будзе зроблена, апусцеюць паліцы крамаў. І гэта нягледзячы на тое, што 36 мільёнаў чалавек маюць даходы ніжэй узроўню беднасці, а некалькі мільёнаў чалавек атрымліваюць заробкі ў межах 300 рублёў у месяц (каля 20 тысяч беларускіх рублёў).

Эканамічная інтэграцыя з Расіяй небяспечная для Беларусі яшчэ і таму, што паводле высновы многіх аналітыкаў гэтай краіне пагражае тэхнагенная катастрофа і дэфолт. Сапраўды, у Расіі 150 тысяч кіламетраў газавых труб, якія на 60% зношаны, і можа здарыцца маштабны выхад іх са строю. Між тым загад Пуціна двухгадовай даўніны аб пачатку будаўніцтва на Урале завода па вырабе газаправодных труб не выконваецца. Штогод вядзецца закупка труб за мяжой на 2 млрд. долараў, але гэта мізэр ад патрэбы.

Агульная выснова са сказанага трывожная. Калі заўзятыя "інтэгратары" даб'юцца поспеху, то яны сапраўды ператвораць Беларусь не проста ў малую краіну, а ў мізэрны прыдатак імперыі...

# Дзень Волі — 25-га Сакавіка, не задаволіў

**Сёлетні Дзень Волі прайшоў як ніколі сьціпла. Нацыянальныя сілы не змаглі дамовіцца ды зладзіць у Менску супольныя акцыі. Партыйных правадыроў памірылі ўлады: лідэры фракцый-канкурэнтак трапілі за адны краты.**

**Справу зрабілі**

Калісьці менавіта Дзень Волі яднаў усіх патрыётаў, цяпер — разьядноўвае. Падрыхтоўка да яго не абышлася без скандалаў. Патэнцыйныя ўдзельнікі акцыяў былі дэзарыентаваныя рознымі датамі, многія ўвогуле адмовіліся ад удзелу.

Улады дзейнічалі прагматычна. Ведаючы пра ўпартае нежаданьне апазыцыі мітынгаваць на Бангалёры і Кульман, яны імкнуліся ня даць гэта зрабіць і ў недазволеных месцах. Яшчэ да пачатку акцый затрымліваліся кіраўнікі й актывісты. Даўно міліцыянты і амапаўцы не адчувалі сябе так упэўнена, як падчас сёлетняга Дня Волі. Нешматлікіх і неарганізаваных мітынгоўшчыкаў яны разганялі плянамерна і малымі сіламі. 25 сакавіка плошчу Якуба Коласа «ачысьцілі» нейкія два дзясяткі амапаўцаў...

Весялейшым атрымалася сьвяткаваньне, якое 23 сакавіка ладзіла каля Галоўпаштамту КХП-БНФ. У ім узяло ўдзел каля 200 чалавек. Жанчыны сьпявалі патрыятычныя песьні, Вячаслаў Сіўчык і Юрась Беленькі давалі інтэрвію, міліцыянты прапаноўвалі мітынгоўшчыкам накіравацца на пляцоўку па вуліцы Кульман і тлумачылі выпадковым мінакам, што ўсё адбываецца з нагоды 85-й гадавіны абвяшчэньня незалежнасьці БНР. Ледзьве калёна рушыла па ходніках, яе спыніў АМАП, які некалькі разоў браў актывістаў у кола і праводзіў затрыманьні. Адбыліся і некалькі сутычак, у выніку якіх дасталося і амапаўцам, адзін зь якіх нават апынуўся на асфальце і атрымаў колькі разоў па нырках.

«Мы своё дело сделали», — сказаў Сіўчык парасейску нейкаму знаёмаму, адышоўшы ад эпіцэнтру падзеяў. Сабралі людзей, давялі іх да міліцыі і кінулі на волю лёсу. Многіх затрыманых, пасьля здымкаў на відэа і дактыляскапіі, адпусьцілі, папярэдзіўшы, што 25 сакавіка ад 17 да 21-й «у цэнтры гораду вам непажадана быць, інакш пасадзім».

**«Памяркоўных» пабралі**

25 сакавіка сваё сьвяткаваньне Дня Волі на плошчы Якуба Коласа наладзілі некалькі партый і арганізацый на чале з БНФ «Адраджэньне». Каля 400 чалавек пасьпелі паўдзельнічаць у гэтай акцыі, але многія спазьніліся. Бо мітынг цягнуўся ўсяго некалькі хвілін і складаўся з выступу Вінцука Вячоркі, які павіншаваў прысутных са сьвятам, прапанаваў ускласьці кветкі да помніка Якубу Коласу і разысьціся. Тых, хто не паслухаўся Вячоркі, з плошчы выціснулі амапаўцы. А 18-й усё ўжо было скончана. У пастарунак трапілі 16 чалавек на чале з В.Вячоркам. На паўгадзіны быў затрыманы кіраўнік БСДП (НГ) Мікола Статкевіч, які прысутнічаў зь некалькімі сваімі партыйцамі і на акцыі КХП-БНФ у нядзелю.

Аўторкавы збор на плошчы Якуба Коласа расчараваў ня толькі моладзь (некаторыя маладыя людзі крычалі «Ганьба памяркоўным!»), але і людзей сталых, якія не маглі прыгадаць такога сумнага Дня Волі.

**Сьвята за Менскам**

Сьвяткаваньне ў Менску было азмрочанае таксама заўчаснай сьмерцю Георгія Таразевіча, старшыні Вярхоўнага Савету БССР у апошнія гады яе існаваньня, нацыянал-камуніста, а пазьней сацыял-дэмакрата, што выявіў сваю палітычную прынцыповасьць, падаўшы ў адстаўку з пасады пасла ў Польшчы ў знак пратэсту супраць рэфэрэндуму 1995 г.

Мерапрыемствы, што ладзіліся ў Дзень Волі за Менскам, выглядалі нашмат больш сьвяточна, чым сталічныя.

У Берасьці сябры нацыянальнага руху ўскладалі кветкі да магілаў салдатаў Булак-Балаховіча, а пасьля ўдзельнічалі ў сьвяточным уніяцкім набажэнстве. Сябры КХП-БНФ на Савецкай вуліцы раздавалі сваю друкаваную прадукцыю. «Малады фронт» зладзіў мініфутбольны турнір «Кубак Незалежнасьці». Перамагла маладафронтаўская каманда «Пагоня», якая ў фінале зь лікам 1:0 выйграла ў дружыны Берасьцейскага тэхнічнага ўнівэрсытэту.

Санкцыяваную ўладамі акцыю зладзілі ў Воршы сябры КХП-БНФ. У ёй узялі ўдзел некалькі сотняў чалавек. У Віцебску сябры АГП ладзілі пікет на прывакзальнай плошчы, і ўсе былі затрыманыя міліцыяй. Затрыманьні працягваліся і падчас акцыі КХП-БНФ ды «Маладога фронту». А шэсьце па горадзе, зладжанае ўвечары 25-га Камітэтам грамадзкіх дзеяньняў, прайшло безь перашкодаў.

У Гомелі ў памяшканьні «Грамадзянскіх ініцыятываў» адбылася сьвяточная імпрэза і канцэрт бардаў. Напярэдадні дырэктар гомельскага гатэлю «Кастрычніцкі» нечакана адмовіў у арэндзе актавай залі, пра што была папярэдняя дамова.

У Маладэчна на сьвята завіталі Кася Камоцкая і гурт «Ліцьвіны». Апроч канцэрту, адбылася выстава мясцовых мастакоў. Былі таксама ўскладзеныя кветкі да помніка «Пакутнікам за волю і незалежнасьць Беларусі».

Такога кшталту акцыі ды імпрэзы зьбіралі людзей і ў іншых гарадах ды мястэчках, але многія беларусы нікуды ня йшлі і сьвяткавалі Дзень Волі дома ці ў гасьцёх.

У Празе беларускія суполкі зладзілі пікет ля амбасады Беларусі, выступаючы супраць інтэграцыі з Расеяй ды патрабуючы спыніць палітычныя рэпрэсіі. Сюжэт пра паседжаньне Рады БНР — «белорусского правительства в изгнании» — у Празе і кароткае інтэрвію Васіля Быкава паказаў расейскі тэлеканал НТВ.

У Варшаве сьвяточную імпрэзу ладзіла Беларускае аб'яднаньне студэнтаў. Гданьскія беларусы ўшанавалі памяць нацыянальных дзеячоў, пахаваных на мясцовых могілках, найперш дзеяча БНР Лукаша Дзекуць-Малея. Сябры Беларускага культурнага таварыства «Хатка» адкрылі мастацкую выставу. У чацьвер Інстытут беларускай культуры правёў у Варшаве ўрачыстую вечарыну і канцэрт.

Урачысты сход у кавярні Беластоцкага цэнтру культуры распачаўся з супольнага выкананьня гімну «Мы выйдзем шчыльнымі радамі». З дакладам выступіў прафэсар Алег Латышонак: «Калі хтосьці ня ведае, з чаго і адкуль пачалася дзяржава, у якой ён зьяўляецца прэм'ер-міністрам, дык нічога добрага можна не чакаць. Калі б Кебіч адчуваў сябе пераемнікам Язэпа Варонкі — першага прэм'ера БНР, напэўна, так марна ня скончыў бы ў выбарах з Лукашэнкам. Думаю, што і спадар Лукашэнка, які ня ведае, скуль карані дзяржавы, якой ён кіруе, скончыць таксама, як і Кебіч».

У Вільні сьвяткавалі трыма патокамі. Блізкая да беларускага пасольства арганізацыя Лявона Мурашкі зрабіла школьны канцэрт, чым забясьпечыла поўную залю бацькоў. Варожая гэтай арганізацыі суполка Хведара Нюнькі традыцыйна ладзіла стол і прымала Зянона Пазьняка. Тыя ж беларусы, што стаяць па-за канфрантацыяй гэтых дзьвюх суполак, зладзілі сьвяточны малебен у беларускай царкве, усклалі кветкі да магілы К.Каліноўскага і паслухалі канцэрт Валянціны Кавальчук і Зьмітра Бартосіка.

**Вучыцца сьвяткаваць**

Вулічныя акцыі безумоўна патрэбныя. Найперш для тых людзей, якія пра БНР могуць пачуць хіба з навінаў НТВ. Сьвяткаваньне ў залях ды офісах («рэзэрвацыях» альбо «выспах свабоды», каму што падабаецца) не дае такога прапагандысцкага эфэкту ў грамадзтве, як вулічная акцыі. Дадамо: як акцыі добра прадуманыя, арганізаваныя і як сьлед праведзеныя. Пра менскія падзеі 23 і 25 сакавіка гэтага ня скажаш. Таму трэба вучыцца сьвяткаваць нашае найвялікшае нацыянальнае сьвята.

**Сяргей Ёрш** /Наша Ніва/

****************************************************************

Паважаныя Чытачы!
Шчыра просім пераслаць
Вашую гадавую **Ахвяру**
на Выдавецкі Фонд газэты!

# Усебеларускі Сход інтэлігенцыі

16-га сакавіка ў Менску адбыўся Ўсебеларускі Сход інтэлігенцыі, у якім ўзялі ўдзел больш за 600 дэлегатаў і гасцей з усёй краіны. На Сходзе прысутнічалі прадстаўнікі розных плянаў інтэлектуальнай эліты: літаратары, палітыкі, дыпламаты, навукоўцы, журналісты, тэхнічная інтэлігенцыя. Сустаршынямі аргкамітэту Сходу выступілі кіраўнік Беларускага дзяржаўнага гуманітарна ліцэю, кінарэжысэр У. Колас і мастак А. Марачкін. Сярод прысутных у залі былі такія знаныя ў Беларусі асобы, як Н. Гілевіч, М. Маркевіч, В. Мазынскі, С. Законнікаў, Ж. Літвіна, С. Шушкевіч, М. Чыгір, З. Бандарэнка, П. Краўчанка, В. Вячорка, А.

Лябедзька, В. Фралоў, У. Парфяновіч, Л. Вольскі, А. Курэйчык ды іншыя. На форуме акрэдытаваліся больш за 30 журналістаў беларускіх і замежных СМІ.

З вітальным словам да Сходу звярнуўся паэт Ніл Гілевіч; быў зачытаны таксама зварот да ўдзельнікаў форуму пісьменьніка В. Быкава. ...

З асноўнымі дакладамі на форуме выступілі палітолаг В. Карбалевіч, сустаршыня аргкамітэту Сходу У. Колас і эканаміст Г. Лыч. Прамоўцы канстатавалі "глыбокі сыстэмны крызыс" ва ўсіх сфэрах жыцьця Беларусі і заклікалі інтэлігенцыю краіны ўзяць на сябе адказнасьць за лёс краіны, скансалідаваўшы свае намаганьні дзеля вываду яе з крызыснай сітуацыі.

Праца форуму адбывалася па трох тэматычных накірунках: "Навука, культура, духоўнасьць"; "Эканоміка й сацыяльная сфэра"; "Дэмакратыя й стан грамадства". У межах кожнага з названых тэматычных блёкаў выступалі з прамовамі прадстаўнікі адпаведных прафэсійных сфэраў: гісторыкі А. Грыцкевіч і А. Трусаў, мастак А. Марачкін, тэатральны рэжысэр А. Курэйчык, сьвятар Л. Акаловіч, эканаміст С. Багданкевіч, юрыст В. Страмкоўская, журналісты М. Маркевіч, Ж. Літвіна, палітыкі В. Вячорка, С. Шушкевіч, А. Кароль ды іншыя. Кожны з дакладаў быў папярэдне абмеркаваны й ўзгоднены з удзельнікамі тэматычных сэкцыяў, якія працавалі, кожная па сваім накірунку, падчас падрыхтоўкі да Сходу. Пасьля кожнага з "блёкаў" быў адведзены час для дыскусіі, дзе маглі выказацца дэлегаты й госьці з рэгіёнаў.

Прамоўцы ня толькі канстатавалі факты, якія сьведчаць пра крызыс у розных галінах жыцьця Беларусі, але прапаноўвалі свае бачаньне шляхоў выхаду з яго. Асноўныя тэзы выступаў зафіксаваныя ў выніковым дакумэнце Сходу - Рэзалюцыі. Праект гэтага дакумэнта папярэдне распрацаваў аргкамітэт Сходу. Перад пачаткам форуму тэкст Праекту атрымалі ўсе ўдзельнікі Сходу, каб напрацягу дня прапанаваць рэдакцыйнай камісіі свае папраўкі. Пасьля абмеркаваньня ў канцы дня большасьцю галасоў тэкст Рэзалюцыі быў ухвалены Сходам.



Усевалад КРЫЖАК /Народная Воля/

# Бяззубасць,

## альбо Чаму Усебеларускі сход не спраўдзіў спадзяванняў шырокіх народных мас

Расчараванне... Такія пачуцці, калі гаварыць адным словам, засталіся ў душы ад Усебеларускага сходу інтэлігенцыі, які адбыўся ў мінулую нядзелю.

Хоць спачатку было спадзяванне, што ў рэшце рэшт адбудзецца прарыў. Дэмакратычная грамадскасць чакала: дзякуючы мудрым і практычным ідэям, якія народзяцца ў галовах гонару нацыі, удасца выпрацаваць і прапанаваць формулу яднання дэмакратычных сіл краіны.

Што і казаць, большасць людзей у адчаі, яны стаміласе ад эканамічнага і палітычнага прыгнету аўтарытарнай улады, яе праваага ды маральнага цынізму. Шматгадовая барацьба апазіцыйных партый за дэмакратыю да поспеху не прывяла. Брыдкасці беларускага рэжыму толькі нарастаюць. У той жа час беларускія дэмакратычныя палітыкі са здзіўляючай упартасцю дэманструюць няздольнасць да кансалідацыі шэрагаў, іх асабістыя ды групавыя амбіцыі бесперамена бяруць верх над неабходнасцю згуртавання і ўзгодненых дзеянняў.

З'езд інтэлігенцыі маральным ды інтелектуальным аўтарытэтам сваіх удзельнікаў павінен быў дапамагчы пакласці канец разброду і хістанням дэмакратычных сіл. На гэта спадзяваліся, на гэта разлічвалі тыя, каму не абыякавыя лёс Беларусі, яе суверэнітэт і эканамічнае развіццё.

На жаль, надзеі і разлікі не спраўдзіліся. З'езд аказаўся чарговым дрэнна прадуманым спектаклем, які ў чымсьці нагадваў адышоўшыя ў мінулае дэмакратычныя з'езды ды кангрэсы. Дэлегаты цалкам шчыра агучвалі ўсё, што набалела ў іх душах. Шмат і ўпарта гаварылі аб палітычнай дыктатуры і тупіку, у які яна завяла краіну. Аб развале эканомікі і тым, як яе ратаваць. Аб удушэнні прадпрымальніцкага саслоўя. Аб жудасным матэрыяльным становішчы народа. Аб небяспеках, якія чакаюць Беларусь на шляху лукашэнкаўскай інтэграцыі з Расіяй.

Законна абураліся засіллем рускай мовы, прыцясненнем беларускіх школ. Клеймавалі імперыялістычную палітыку расійскай улады. Выкрывалі Лукашэнку як абаронцу іракскага дыктатара... Здаецца, не было тэмы, якую не закранулі б і густа не арасілі б слязьмі. Адзін з дэлегатаў, вядомы палітык, даючы ў кулуарах адзнаку з'езду, трапна заўважыў: адны стогны, такое ўражанне, быццам сабраліся толькі дзеля таго, каб пастагнаць.

Чыстая праўда. Размовы аб галоўным, аб тым, што і як трэба рабіць для аб'яднання дэмакратычных сіл, палітычных партый у адзіны кулак, на з'ездзе не атрымалася. Не атрымалася дыялога інтэлігенцыі з палітыкамі і партыйнымі лідэрамі, які павінен быў стаць галоўным зместам форуму. Некаторыя палітычныя дзеячы наогул праігнаравалі сход, а тыя, што прыйшлі ў Палац тонкасуконнага камбіната, сціпла адседжваліся далей ад партэра. Яны былі пабочнымі на гэтым мерапрыемстве. Асобныя з іх, як Станіслаў Шушкевіч, спрабавалі вярнуць аўдыторыю да размовы аб галоўным, аднак агульная скіраванасць большай часткай сумных і нудных прамоў і маналогаў засталася непахіснай. Маральны і інтэлектуальны капітал інтэлігенцыі да палітычных колаў данесены не быў.

Тут самы час сказаць аб арганізацыі ды арганізатарах з'езда. Дзякуй тым, каму прыйшла ў галаву ідэя склікаць для нарады інтэлігенцыю краіны. Але дыстанцыя паміж задумай і яе якасным увасабленнем ім пераадолець не ўдалося. Аляксей Марачкін, Уладзімір Колас, Алег Трусаў, Аляксей Кароль і іншыя сябры Арганізацыйнага камітэта, трэба думаць, кіраваліся добрымі намерамі. Але іх намаганняў аказалася недастаткова, каб накіраваць працу форуму ў канструктыўнае рэчышча. Відаць, паўплывала аднабаковасць і палітычная прыхільнасць тых, хто ўзяў на сябе місію тамады Усебеларуская з'езда інтэлігенцыі. Камусьці падасца суб'ектыўным, але ў многіх удзельнікаў высокага сходу засталося адчуванне таго, быццам за ўсім, што адбываецца, вітае густы цень бэнэаўфаўцаў вячоркінскага крыла. У кулуарах з'езда мільгацелі ўсё тыя ж твары, што і пяць, дзесяць год таму падчас тых мітынгаў, сходаў, "круглых сталоў", якія праводзіў Фронт. Адным словам, уражанне такое, быццам у чарговы раз тасавалася зашмальцаваная калода адных і тых жа палітычных ды грамадскіх персанажаў. Новых прыкметных фігур, якія б звярнулі на сябе ўвагу неардынарнасцю мыслення і гатоўнасцю да рашучых дзеянняў, здаецца, ніхто не ўбачыў. Выпадкова ці не, але ў сваіх прамовах выступоўцы часцей за ўсё апервалі даўно вядомымі тэзамі і лозунгамі Фронту. У перапынку адзін з дэлегатаў, вядомы палітык, нават заўважыў: БНФ хоча ў другі раз увайсці ў адну і тую ж раку; згубіўшы свой аўтарытэт, яго лідэры цяпер спрабуюць асядлаць аўтарытэт інтэлігенцыі.

Трэба меркаваць -- гэта перабольшванне. Тым не менш некаторыя інтанацыі, што прагучалі з трыбуны, мелі вельмі характэрную ідэйную афарбоўку. Напрыклад, у адным з выступаў гаворка ішла ні больш ні менш, як аб этнакультурнай класіфікацыі беларускіх грамадзян. Аказваецца, аўтар шляхам глыбокіх даследаванняў адкрыў, што яны дзеляцца на беларусаў, савецкіх беларусаў ды проста савецкіх людзей. Што з гэтых трох катэгорый грамадзян толькі першая валодае, як бы далікатней мовіць, этнакультурнай сапраўднасцю (аўтэнтычнасцю). Астатніх трэба падцягваць ды падцягваць.

Памятаецца, абапіраючыся на падобныя падыходы, Фронт ужо спрабаваў кансалідаваць грамадства ў барацьбе за нацыянальную дэмакратыю. Праз гады вынікі, як кажуць, відавочныя. Дамагаючыся чысціні шэрагаў, гэтая некалі вельмі аўтарытэтная арганізацыя ўмудрылася раскалоцца на дзве канфліктуючыя часткі і згубіць шматлікіх прыхільнікаў.

Нацыянальны эгаізм не зможа дасягнуць агульнанацыянальных мэт, калі частка яго носьбітаў будзе процістаўляць сябе другой частцы толькі на той падставе, што яна лічыць сябе больш аўтэнтычнай.

Арганізатарам з'езда не ўдалося сфармуляваць і пакласці ў аснову яго працы парадак, які б дазволіў адсячы ўсё, што вядзе ў бок ад тэмы збірання палітычных сіл апазіцыі беларускаму рэжыму, вяртання ў краіну дэмакратыі і захавання суверэнітэту. Не атрымалася запаліць дыскусію вакол таго, як не на словах, а на справе аб'яднацца беларускаму грамадству, з тым каб эфектыўна адстойваць свой нацыянальны эгаізм. Як гэта робяць чэхі, прыбалты, палякі, рускія.

Нават прынятая на з'ездзе рэзалюцыя атрымалася пісклявай і бяззубай. Удзельнікі заклікалі Аляксандра Лукашэнку прыглядзецца да вопыту дэмакратычных пераўтварэнняў ды распачаць канструктыўны дыялог з усімі палітычнымі плынямі. Быццам не ведаюць тыя, хто рыхтаваў гэту рэзалюцыю, што за шмат гадоў кіравання краінай Аляксандр Лукашэнка так напрыглядаўся да вопыту замежнай дэмакратыі, што яго аж калоціць, калі ён узгадвае словы "апазіцыя", "дэмакрат", "ліберал". Быццам не ведаюць, што ён паслядоўна вынішчае рэшткі дэмакратычнага ладу жыцця, а на спробы палітычных апанентаў распачаць канструктыўны дыялог, хік гэта было некалькі гадоў таму, адказвае пагрозамі і адмовай рабіць хоць маленкія крокі насустрач. Кіраўнік краіны, які растаптаў яе дэмакратычную канстытуцыю, не дае магчымасці высветліць лёс зніклых палітыкаў, пагражае суверэнітэту Бацькаўшчыны, давёў да ручкі яе эканамічны стан, заслугоўвае не дыялога, а імпічмента. Дэлегаты павінны былі не абмяжоўвацца заклікамі вызваліць зняволеных журналістаў ды палітыкаў, а рашуча запатрабаваць для іх свабоды. І дзеля гэтай мэты той жа сход мог бы пайсці на акцыю, адкрыта скажам, ультыматыўную. Але дэлегатам з'зда і яго ініцыятарам не хапіла духу не толькі для гэтага, але і для таго, каб больш рашуча і настойліва запатрабаваць ад улады доступу апазіцыі да сродкаў масавай інфармацыі, неадкладнай дэмакратычнай перабудовы беларускай выбарчай сістэмы.

Няўжо разумныя людзі спадзяюцца на тое, што ўшчуванне дыктатарскага рэжыму нешта змяніць? Сусветны вопыт сцвярджае: для ўсталявання дэмакратыі неабходны канкрэтныя дзеянні. І не трэба вінаваціць народ, маўляў, яму трэба толькі шклянка "чарніла" ды луста чорнага хлеба. Скажыце людзям, за кім ісці, і калі яны ўбачаць, што гэта сапраўды іх выратавальнік, -- пойдуць.

І Усебеларускі сход інтэлігенцыі, які можа назваць нацыянальным, меў поўнае права назваць беларускага Каштуніцу, які падняў бы сцяг вызвалення. Няўжо дэмакратычная грамадскасць зноў наступіць на старыя граблі: вызначацца з адным кандыдатам у лідэры нацыі будзем за два месяцы да, скажам, галасавання?

Ці не прычына тут у тым, што сённяшнія апазіцыйныя лідэры, якія, шчыра скажам, абанкруціліся, не хочуць саступаць месца новаму чалавеку. Моцнаму духам, шырока адукаванаму, з глыбокай нацыянальнай свядомасцю, не запэцканаму мінулым, які ніколі не быў ні наменклатуршчыкам, ні хаўруснікам сённяшніх улад, якога ніколі не заўважалі ў сувязях з крымінальнымі структурамі. Цяжка знайсці такога чалавека? Няцяжка, трэба толькі захацець. А не цягнуць коўдру толькі на сябе, як гэта робяць некаторыя палітычныя лідэры.

Паўтараю: арганізацыйны камітэт Усебеларускага сходу зрабіў усё, на што ён быў здольны. Але для поспеху мерапрыемства гэтага аказалася мала. Адзнаку яго намаганням выставілі самі ўдзельнікі з'езда. Па падліках мандатнай камісіі, на з'езд прыйшло звыш 400 дэлегатаў і 200 гасцей. Пасля перапынку ў зале засталося 150--200 чалавек.

Роздум аб тым, як беларуская інтэлігенцыя пакуль што не змагла дапамагчы трапіўшай у бяду краіне, я хачу падсумаваць такім пытаннем. Дык што, дарэмная была праца? Не, не дарэмная. Дарэмнымі былі толькі празмерныя чаканні тых, хто верыць у лепшую будучыню Беларусі. Нядзельны ўрок заключаецца ў тым, што беларуская інтэлігенцыя яшчэ не сказала сваё слова. Але яна, у рэшце рэшт, дала зразумець, што не збіраецца далей маўчаць.

# Дык Аргкамітэт ці Рада?

## Мабыць жа, трэба вызначыцца?

16 сакавіка адбылася важная падзея ў грамадскім жыцці краіны -- першы Усебеларускі сход інтэлігенцыі. Ён быў арганізаваны і праведзены сіламі самой інтэлігенцыі, без удзелу дзяржаўных улад. Ацэнкі гэтай падзеі ў друку неадназначныя.

Асабіста я лічу, што размова адбылася сур'ёзная і змястоўная, у інтарэсах будучыні Беларусі. Сход засведчыў, што патрыятычная інтэлігенцыя ў нас ёсць, што яна глыбока разумее ўвесь драматызм становішча, у якім апынуліся Беларусь і беларускі народ, нацыянальная эканоміка, навука, культура, беларуская мова. І Рэзалюцыя на Сходзе прынята досыць сур'ёзная. Хто сумняваецца -- хай уважліва прачытае. Падам тут толькі адзін абзац: "Мы выказваем рашучы пратэст супраць любых спроб здачы незалежнасці, дзяржаўнага суверэнітэту нашай краіны, дыскрымінацыі беларускай мовы і заяўляем пра сваю гатоўнасць бараніць гэтыя святыя для кожнага грамадзяніна Беларусі каштоўнасці ўсімі магчымымі сродкамі і спосабамі".

Можа, для пачатку, для першай размовы гэта і нямала? Усё ж -- наперадзе! І другі сход, і трэці, і пяты, і пошукі форм працы з інтэлігенцыяй і інтэлігенцыі з народам... Зрэшты, будуць зроблены і ўрокі -- як з арганізацыі Сходу, так і з яго выніковых дакументаў.

Слабым, належна не прадуманым аказаўся апошні абзац Рэзалюцыі, які датычыць Аргкамітэта і Рады. Чытаем: "...мы надаём Арганізацыйнаму камітэту Усебеларускага сходу інтэлігенцыі паўнамоцтвы каардынатара нашай дзейнасці, даручаем яму прадстаўляць нашыя інтарэсы ў Беларусі і за яе межамі, збіраць нас на Сход у выпадку крытычнай для беларускага грамадства сітуацыі, а таксама сфармаваць Раду беларускай інтэлігенцыі з ліку найбольш выдатных прадстаўнікоў грамадства".

Калі Аргкамітэту нададзены такія найвышэйшыя паўнамоцтвы -- дык для чаго Рада, якія яе паўнамоцтвы, яе абавязкі? Пра гэта -- ані слова. І хто ў яе павінен увайсці? Ну, напэўна ж, самыя вядомыя і аўтарытэтныя навукоўцы (рознага профілю), пісьменнікі, мастакі, кампазітары, артысты, архітэктары, юрысты, педагогі, медыкі, журналісты і іншыя. Каб пры неабходнасці прагучаў аўтарытэтны голас беларускай інтэлігенцыі, каб іншыя грамадзяне маглі сказаць: так лічыць і заяўляе наша інтэлігенцыя -- значыць, гэта праўда, бо гэта -- голас сумлення, голас людзей высокай патрыятычнай свядомасці, маралі і культуры. Зразумела, такую Раду выбраць не зусім проста. Відочна, што яна не можа быць і малалікай.

Адсутнасць дакладнасці ў гэтым пытанні не забавілася сказацца. 28 сакавіка Аргкамітэт Сходу вырашыў: Рада будзе складацца з 9 чалавек, гэтых 9 трэба выбраць з 14 названых кандыдатур (пяць "пацерпяць паразу"). У ліку назначаных "прэтэндэнтаў" -- 9 пісьменнікаў, 4 навукоўцы, 1 кінарэжысёр. I -- ніводнага мастака, артыста, настаўніка, медыка і г.д. Чаму ў Радзе павінна быць 9, а не 79 сяброў, чаму трэба выбіраць з 14, а не са 114, -- невядома. У канцы красавіка, пішуць газеты, выбраныя дзевяць нават пройдуць праз рытуал прыняцця нейкай прысягі. Нават аж гэтак!..

Не ведаю, як каму, а мне такое рашэнне Аргкамітэта здаецца проста несур'ёзным. Нейкай, прабачце, гульнёй, калі не горш. Камусьці захацелася пазабаўляцца? Ці паздзекавацца з самой ідэі Рады ды і з інтэлігенцыі?

Спадзяюся, Аргкамітэт Сходу збярэцца нанава і, памеркаваўшыся, прыме рашэнне сапраўды канструктыўнае. Тым больш што рашэнне ад 28 сакавіка -- нелегітымнае: за яго прагаласавала ўсяго 13 чалавек (а ў складзе Аргкамітэта -- 51).

Да ведама сяброў журналістаў, якія паспяшаліся апублікаваць імёны "прэтэндэнтаў": маёй згоды "балатавацца" ў такую 9-асабовую Раду не было і не будзе па зразумелых з гэтага тэксту прычынах.

Ніл ГІЛЕВІЧ. /Н. В./

*****************************************************************

# Быць сабою

Я цяжка стомлены беларускім адрачэнствам, усенароднымі намаганнямі не быць нацыяй. Баязлівасцю перад палякамі, комплексам патомнага мужыка-халопа мець над сабою абавязкова пана. Гэтак жа абрыд мне і польскі нацыяналізм з яго каталіцкім фанатызмам. У свае пад семдзесят гадоў гадоў бачу, што гэтыя чалавечыя заганы будуць у нас вечнымі, незнішчальнымі. Таму мяне ні трохі не засмучае грамадская катастрофа Беласточчыны, зарастанне травою (бацькаўшчыны).

Як доўга можна жыць у няволі сваіх слабасцяў? Доўга, як сухотнік у сухотах.

У гэту зіму, трагічную мне, я быў вымушаны пашукаць сваякоў, каб было каму праводзіць маю Маці на той свет (пажыла 93 гады). І на сваё здзіўленне я застаў у жывых усяго невялікі гурт парахнеючых цётак і пару хілых дзядзькоў. А дзе іх дзеці? Аказваецца, раз'ехаліся па свеце. У каго дачка – замужжам у Швейцарыі, а ў каго другая – асела ў Італіі, у кагосьці сын плавае матросам (яшчэ не быў у Аўстраліі). Няма сем'яў; у Крынках вечарамі сабакі не маюць на каго брахаць.

Наслухаўся ганарыстых аповедаў старых пра лёсы маладых. Крынкі разляцеліся – ад Фінляндыі па Амерыку ды Партугалію з Бразіліяй. Цікава, што пра нікога з іх не пачуў, каб хто разжыўся ў Расіі або хоць у Рускай Беларусі (РБ). Туды, на ўсход, якасьці не ляцяць, хаця за царом перліся на расійскі дабрабыт, на пірагі. Адных Яновічаў тады засела на сібірскіх чарназёмах цэлае племя, удала канкуруючае з непаваротлівымі "кацапамі"; тых крынкаўскіх багацеяў, што баржамі на Волзе прадавалі пшаніцу, павыстрэльвалі потым басаногія бальшавікі. Там толку няма, і не будзе. Такая ўжо раса, парода гультаёў.

У нашым мястэчку ёсць аптэка. Але чуваць, што будзе яшчэ адна. Дзве аптэкі на тры тысячы жыхароў. Як тое разумець? А вельмі проста: у крынскім мястэчку, поўным старых і хворых, добры збыт лякарстваў. Усё кагосьці хаваюць на могілках, праваслаўных і каталіцкіх. Рух!

Лягчэй робіцца на душы ад таго, што маладыя з Крынак паробяцца швейцарцамі, амерыканцамі, ангельцамі, фінамі, італьянцамі, французамі, немцамі (мой сваяк Лёва злуецца, калі ў тэлефон не гаварыць да яго ў Вестфаліі па-нямецку, а Ева дбайна выпрацоўвае ў Ратэрдаме нідэрландскі акцэнт). Усе яны, незалежна ад краіны пражывання, паводзяць сябе дакладна так, як у маё пакаленне хлопцы і дзяўчаты хварэлі шчырай польскасцю. Ім жа, новым, тая польскасць ужо пяройдзены этап, лішняя, цяпер нешляхтаватымі лепшымі панамі на лонданскіх ці рымскіх вуліцах. І там знікнуць яны, іх роды, бы ранішні туманец над лугамі пад супраскай пушчай...

Адкуль мая задаволенасць еўрапейскім паваротам тутэйшага лёсу? Раптам адкрыты нашаму чалавеку свет даў яму магчымасць зажыць па-людску, замест грызьы за косткі з панскага стала ў настрой каланіяльнай нянавісці да самога сябе. Не трэба шкадаваць прападаючых вёсак ды мястэчак, хай іх яма заваліць, бо ў іх не было як жыць, у гэтых гадзюшніках усходняга фанатызму і нацыяналізму, уедлівага паланізму і зняважлівага русізму, у слінапырскіх завідлівасці. Тут, хаця б цікім беларусам небяспечна быць, закаркаюць, бы тую белую варону! Дык лепей ужо няхай Пан Лес укрые нашу нялюдскую зямлю.

***Сакрат Яновіч*** /Беласточчына/

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

# Гэта было так...

*Лявон БАРШЧЭЎСКІ, /Н. В./*

дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 12-га склікання (1990--1996 гг.)

Крывавая ноч

У ноч з 11 па 12 красавіка малпападобныя бандыты жорстка расправіліся з дэпутатамі-патрыётамі.

Пачну з перадгісторыі. Многія чытачы, бадай, памятаюць тое выступленне на сесіі Вярхоўнага Савета дэпутата-рабочага Сяргея Антончыка. Быццам бомба ўзарвалася ў Авальнай зале Дома ўрада. Прыводзячы канкрэтныя факты, ён паказаў, што пасля першых беларускіх прэзідэнцкіх выбараў улада не памянялася: да яе рычагоў атрымала доступ групоўка ранейшых "непатапляльных". Тых самых, што прывыклі свае асабістыя інтарэсы выдаваць за інтарэсы народа і дзяржавы, а жыццё канкрэтнага чалавека трактаваць як вялікую ласку, падораную яму ўладай.

Сяргей Антончык разварушыў страшэнны вулей. І ён наіўна верыў, што людзі яго зразумеюць і стануць на ягоны бок. Улада ж адразу паказала: нічога зразумець людзям яна не дасць. І як вынік -- ужо ў снежні 1994 года, літаральна праз некалькі тыдняў, з'явіліся "белыя плямы" ў газетах, а ў сакавіку 1995-га гвалтоўным чынам быў адхілены ад пасады галоўнага рэдактара "Народнай газеты" дэпутат Вярхоўнага Савета Іосіф Сярэдзіч.

Потым былі, узгадайма: недапушчэнне да працы новага законна прызначанага парламентам рэдактара "Народнай газеты", закрыццё радыёстанцыяў і газет, што выказвалі альтэрнатыўныя ўладным думкі, яшчэ пазней адзін журналіст бясследна знік, рэдактары і журналісты недзяржаўных выданняў сталі трапляць на "хімію" і... можна толькі здагадвацца, з чым незалежныя СМІ могуць сутыкнуцца далей.

Самай, аднак, вялікай косткай у горле апекуноў і дарадцаў улады была беларуская дзяржаўнасць -- як у гістарычным плане, гэтак і ў сучасным. Беларуская мова, нацыянальныя сімвалы (бел-чырвона-белы сцяг і "Пагоня") вельмі хутка маглі стацца пазнавальнымі знакамі гэтай дзяржаўнасці не толькі ў досыць вузкім інтэлігенцкім коле, але і ў шырокіх масах. Гэта ніяк не ўваходзіла ў планы імперцаў у суседняй дзяржаве і тых, хто шукаў іхняй апекі ў Беларусі. Бо немагчыма знішчыць дзяржаўніцкія настроі ў думаючай частцы народа, які прайшоў паўнавартасны працэс нацыянальнай самаідэнтыфікацыі. Ударыць па мове і нацыянальных сімвалах было найпрасцей, бо вынішчаліся і душыліся яны стагоддзямі, а новае адраджэнне было пяцігадовым дзіцём.

Вось тут і трэба шукаць карані падзей, якія адбыліся ноччу з 11 на 12 красавіка 1995 года. Нагадаю, што ў канцы сакавіка таго года прэзідэнт А.Лукашэнка ўпершыню абвясціў пра свой намер правесці рэферэндум па пытаннях фактычнай ліквідацыі дзяржаўнасці беларускай мовы, вяртання дзяржаўнай сімволікі савецкага ўзору, падтрымкі яго заяў аб эканамічнай інтэграцыі з Расіяй і атрымання ім права аднаасобна распускаць Вярхоўны Савет. Неўзабаве ў прэсе з'явілася заява досыць вялікай групы дэпутатаў, у якой яны прасілі прэзідэнта з'ініцыяваць рэферэндум па пытанні надання рускай мове статусу дзяржаўнай і змены дзяржаўнай сімволікі.

Асабіста я размаўляў са шмат якімі падпісантамі той заявы. Высветлілася цікавая рэч: прыкладна палова з іх гаварыла, што яны за беларускую мову як адзіную дзяржаўную, але супраць сімволікі, якая ім здавалася то "літоўскай", то "фашысцкай"; другая ж палова сцвярджала, што, наадварот, не мае нічога супраць несавецкай сімволікі, але баіцца абавязковага характару беларускай дзяржаўнай мовы.

У вышэйзгаданай заяве, аднак, усё было звалена ў адну кучу: адных проста "прыплюсавалі" да другіх. Ініцыяванне рэферэндуму самае меншае па двух пытаннях было антыканстытуцыйным: згодна з Канстытуцыяй, рэферэндумы, якія мелі б на мэце вырашэнне канстытуцыйных пытанняў, не могуць праводзіцца ў апошнія шэсць месяцаў паўнамоцтваў дзейнага Вярхоўнага Савета. Пытанні змены статусу дзяржаўнай мовы і вызначэння таго, хто мае права распускаць парламент, адназначна патрабавалі змен у Канстытуцыі.

Выбары ж у новы Вярхоўны Савет былі прызначаныя на 14 мая таго ж года -- гэта значыць заставалася менш як два месяцы пасля першых вусных выказванняў прэзідэнта пра неабходнасць рэферэндуму. Вынясенне першага з названых вышэй пытанняў на рэферэндум, акрамя таго, выразна супярэчыла артыкулу 3 дзейнага тады "Закона аб народным волевыяўленні (рэферэндуме) у Рэспубліцы Беларусь".

Аднак ужо тады было зразумела, што парушэнне Канстытуцыі не магло спыніць тых, хто праектаваў рэферэндум: падобна, што для кагосьці з іх гэта была канстытуцыя чужой ім дзяржавы. На жаль, на бок парушальнікаў Канстытуцыі тады выразна стала фракцыя ПКБ у Вярхоўным Савеце. Мяркую, што паважаны Сяргей Калякін пазней усё-такі пашкадаваў (калі, вядома, не забыўся) пра тое, што яго партыя яшчэ ў 1995 годзе, мякка кажучы, заплюшчыла вочы на відавочнае ламанне дзяржаўнага права.

10--11 красавіка 1995 года пытанне аб разглядзе ініцыятывы прэзідэнта А.Лукашэнкі наконт правядзення рэферэндуму 14 мая было вынесена на чарговае пасяджэнне Вярхоўнага Савета 12-га склікання -- сесіі, што планавалася як самая апошняя. У першы дзень дэбатаў я, з прычыны хваробы (высокая тэмпература), удзел у дэбатах прыняць так і не змог і сачыў за падзеямі па прамой, якая вялася з пасяджэння парламента, радыётрансляцыі (апошні пакуль што ўсплёск нябачанай цяпер дэмакратыі!).

Назаўтра раніцай, наглытаўшыся аспірыну і вітамінаў, я ўсё-такі паехаў у Вярхоўны Савет і зайшоў у залу пасяджэнняў якраз у тую хвіліну, калі лідэр фракцыі БНФ Зянон Пазьняк з трыбуны заклікаў прысутных абвясціць галадоўку ў знак пратэсту супраць запланаванага відавочнага парушэння Канстытуцыі. Можна сказаць, не паспеў я заняць сваё месца ў парламенцкай ложы, як адразу давялося скіравацца да трыбуны, дзе побач са мной галадоўку распачалі яшчэ 18 дэпутатаў з фракцый БНФ і Сацыял-дэмакратычнай Грамады. Сярод галадоўцаў былі людзі розных прафесіяў і ўзростаў: ад 34-гадовых журналістаў Сяргея Навумчыка і Ігара Герменчука (якога, на жаль, сёння ўжо з намі няма) да філолага і дыпламата Пятра Садоўскага, інжынераў Уладзіміра Заблоцкага і Мікалая Крыжаноўскага, якім на той час ужо даўно пераваліла за 50.

Пачатак галадоўкі быў нечаканым не толькі асабіста для мяне, але і для парламенцкай большасці: шмат хто з дэпутатаў схамянуўся, узгадаў, што каму, як не ім, трэба бараніць нядаўна (і не без праблем) прынятую Канстытуцыю, за якую, дарэчы, тады так горача агітаваў дэпутат Лукашэнка.

Выступ кіраўніка камісіі Вярхоўнага Савета па заканадаўстве Дзмітрыя Булахава (які падчас прэзідэнцкіх выбараў актыўна працаваў у камандзе будучага прэзідэнта) расставіў неабходныя акцэнты. У выніку ніводнае з пытанняў, вынесеных прэзідэнтам, -- акрамя невыразна сфармуляванага пытання пра падтрымку захадаў прэзідэнта дзеля эканамічнай інтэграцыі з Расіяй, -- не было зацверджанае большасцю парламента!

Спікеру Мечаславу Грыбу трэба было паставіць на галасаванне пытанне аб завяршэнні дэбатаў па гэтым пытанні і прапанаваць перайсці да наступнага пытання парадку дня. Аднак Аляксандр Лукашэнка пачаў усялякімі спосабамі ціснуць на парламенцкую большасць, якая, трэба зазначыць, знаходзілася ў падважаным стане: ніхто не быў упэўнены ў сваёй будучыні пасля маючых адбыцца выбараў 14 мая. Таму пагроза паўторнага вынясення на разгляд ініцыятывы аб рэферэндуме заставалася абсалютна рэальнай, і намі калектыўна было вырашана: галадоўку не спыняць.

Пасля заканчэння сесіі ў 18 гадзін мы засталіся ў зале пасяджэнняў. Побач з намі напачатку было некалькі журналістаў з розных выданняў. Потым яны па чарзе загадкавым чынам пачалі знікаць. Пасля 21 гадзіны каля тэлефона ў "бакоўцы" залы пасяджэнняў заставалася толькі карэспандэнтка Радыё "Свабода" Алена Радкевіч. Але каля 23 гадзін да яе падышло некалькі невядомых асоб у цывільным, якія вывелі Алену з залы.

Ужо ў той момант стала зразумела, што, хутчэй за ўсё, застацца ў зале нават да наступнай раніцы нам ужо не дадуць. Перш чым тэлефон у "бакоўцы" быў адключаны, нам яшчэ ўдалося перадаць журналістам адпаведную інфармацыю і папрасіць іх не адыходзіць ад будынка Дома ўрада. На жаль, як выявілася пазней, недзе пасля 0 гадзін 12 красавіка яны ўсе разышліся па дамах. Шлях да ўжывання грубай сілы быў, гэткім чынам, фактычна адкрыты.

Каля паўночы ў залу ўвайшла група асоб у чорных скураных куртках на чале з тагачасным кіраўніком службы аховы прэзідэнта, былым дэпутатам Міхаілам Цесаўцом. Апошні абвясціў, што паступіў сігнал, нібыта ў будынку закладзеная бомба, і таму ўсе з будынка павінны быць эвакуяваныя. Цікава, што хвілін за дваццаць да гэтага мы ў зале якраз абмяркоўвалі сцэнарый нашага выдалення з Дома ўрада і гаварылі пра тое, што тут будуць шукаць "бомбу". Таму выступ Цесаўца не быў для нас нечаканым, і мы прапанавалі яму прывесці сапёраў і пры нас агледзець усё, што яны толькі захочуць. Цесавец, ведаючы, што ніякай бомбы ў будынку няма, аддаў загад сваім падначаленым выводзіць нас з залы, але мы ўсе дружна выцягнулі з кішэняў свае дэпутацкія пасведчанні, выразна папярэдзілі людзей у скуранках, што за парушэнне недатыкальнасці дэпутатаў кожны з іх персанальна будзе несці адказнасць -- аж да крымінальнай. І, о дзіва! Падначаленыя адмовіліся выконваць загад свайго шэфа. Цікава, што калі праз некалькі хвілін хтосьці з калег выйшаў у фае залы, ён праз вокны ўбачыў, што ў

некалькіх памяшканнях і правага, і левага крылаў будынка гарэла святло, а каля правага пад'езду стаяла "іншамарка", над радыятарам якой развяваўся сцяжок (яшчэ бел-чырвона-белы!). Значыць, тут былі розныя людзі, у тым ліку высокія кіраўнікі, якія не баяліся аніякіх бомбаў!

Зрэшты, сапёры з'явіліся і, натуральна, нічога не знайшлі, пра што і склалі адпаведны акт. Наступныя паўгадзіны былі адносна спакойныя, і мы дамовіліся, што можам прылегчы адпачыць тут жа каля цэнтральнай трыбуны залы пасяджэнняў (балазе падлога была засцеленая лямцавым паласам); пры гэтым адзін чалавек (па чарзе) будзе дзяжурыць і ў выпадку чаго ўсіх пабудзіць.

Я адчуў, што ў мяне зноў паднялася тэмпература і, накрыўшыся зімовай курткай, лёг падрамаць злева ад галоўнай трыбуны. Каля трэцяй гадзіны мяне і іншых абудзіў рэзкі крык дэпутата Валянціна Голубева, які перад гэтым прыадчыніў дзверы ў фае: "Ваенныя з аўтаматамі і ў масках!". Мы хутка паўскоквалі і расселіся ў ложы, дзе звычайна сядзелі члены Прэзідыума Вярхоўнага Савета. Валянцін сказаў нам, што ў фае, выстраіўшыся некалькімі шарэнгамі, стаяць вайскоўцы ў форме, узбраенні, у масках з адгазнікамі: агулам "чалавек пяцьсот альбо шэсцьсот". На балконах залы пасяджэнняў зноў з'явіліся людзі з відэакамерамі (як мінімум двое). Тут ужо ні ў кога не было сумненняў, што нас будуць выдаляць з залы. Таму мы хуценька дамовіліся: будзем супраціўляцца, ухапіўшыся адзін за аднаго, а калі ім удасца разарваць наш ланцуг, пачнем зрываць з іх маскі і чапляцца -- колькі будзе сілы -- за сталы і крэслы.

Толькі мы паспелі гэта абгаварыць, як у зале запалілася святло і з усіх пяці дзвярэй да нас кінуліся "малпападобныя" -- людзі ў чорных, спартыўнага кшталту, касцюмах, адгазніках (для чаго яны ім былі -- не разумею па сёння). Пачуліся крыкі... Унурыўшы галаву ў каўнер зімовай курткі, я моцна аберуч ухапіўся за руку Пятра Садоўскага.

Моцна мацюкаючыся і лямантуючы, нападаючыя імкнуліся мяне адарваць ад яго, але я даволі доўга не даваў ім гэтага зрабіць. Бакавым зрокам яшчэ ўбачыў, як Ігар Германчук сарваў усё ж такі маску з аднаго "малпападобнага", і той... імгненна адбег убок і кінуўся на падлогу! Тым часам нападаючыя пачалі круціць другую руку Садоўскага, якая была ў яго раней зламаная (нагадваю, што ён меў яшчэ недатыкальнасць і як Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Беларусь) -- і я мусіў адпусціць яго.

Людзі (калі іх можна назваць людзьмі) у чорным імгненна закруцілі мне рукі за спіну, прычым так, што мой падбародак апынуўся ніжэй каленяў. Мяне пацягнулі паўкругам папярэчнага праходу, што ішоў уздоўж задняга шэрагу дэпутацкіх крэслаў. Каля крэслаў ланцугом стаялі вайскоўцы ў камуфляжы і поўнай амуніцыі, і кожны з іх імкнуўся ботам пацэліць мне ў твар. Шмат каму гэта ўдавалася, з разбітага твару ішла кроў, і -- шчыра скажу -- у тую хвіліну я ўжо развітаўся з жыццём. "Значыць, -- праскочыла думка, -- усе тармазы адключаныя, а калі гэтак можна збіваць дэпутата, дык потым павінны забіць, каб нікому не расказаў...".

Прапусціўшы гэтак праз шыхт вайскоўцаў, мяне павалаклі долу па сходах, што вялі да выхаду ў задні двор Дома ўраду. Там стаялі уазікі-"варанкі" з адчыненымі заднімі дзвярыма. Мяне падцягнулі да адных дзвярэй і, нібы бервяно, укінулі ўнутр машыны. Тут жа на падлозе ляжалі штабелем Ігар Гермянчук, Аляксандр Шут, Пётр Садоўскі, Алег Трусаў. Дзверы за мной, апошнім, зачыніліся, і машына памчала з месца.

Каб крыху ачомацца, спатрэбілася хвіліна, але першым апрытомнеў Алег Трусаў. Прыняўшы сяк-так вертыкальнае становішча, ён агледзеўся, што ў машыне, акрамя збітых дэпутатаў, толькі спераду сядзіць кіроўца, а справа яго -- нейкі чалавек у форме (што была за форма -- у цемры разгледзець было немагчыма). І тут Алег пачаў крычаць, а мы адразу да яго далучыліся хорам: "Калі не хочаце сесці, вязіце адразу ж у пракуратуру! У Генеральную!" І, давёзшы нас да скрыжавання праспекта Скарыны і вуліцы Янкі Купалы, кіроўца павярнуў-такі налева, потым яшчэ раз налева -- і мы апынуліся каля будынка Пракуратуры Беларусі.

Выскачыўшы з машыны і пакінуўшы там (каб "трымаў машыну"!) Ігара Герменчука, мы кінуліся ў будынак і ў настойлівай форме запатрабавалі ад дзяжурнага па будынку выклікаць тагачаснага Генеральнага пракурора Васіля Шаладонава. Яго знайсці з невядомых нам прычын не ўдалося. Але ўжо праз 7--10 хвілін з'явіўся дзяжурны пракурор, які прыняў ад нас афіцыйную заяву як ад пацярпелых у выніку жорсткага збіцця людзьмі ў вайсковай форме і выклікаў "хуткую дапамогу".

Пасля таго, як мяне крыху перавязалі, я выйшаў на ганак будынка і паклікаў з машыны Ігара Герменчука, якому таксама патрабавалася медыцынская дапамога. Тут было зроблена глупства (зрэшты, апраўдальнае ў стрэсавай сітуацыі): я папрасіў Алеся Шута заняць яго месца ў машыне. Потым высветліцца, што Алеся вывезуць у парк Янкі Купалы і, нанёсшы яму некалькі ўдараў, выкінуць там на зямлю (так, дарэчы, зрабілі з нявольнымі "пасажырамі" іншых трох аўтамашын -- толькі вывозілі іх у больш аддаленыя месцы горада).

У той жа момант мы, хто знаходзіўся ў будынку, атрымалі рэкамендацыю ад супрацоўнікаў "хуткай дапамогі" -- адпраўляцца ў клініку так званай "лечкамісіі", каб атрымаць больш кваліфікаваную дапамогу і зафіксаваць там атрыманыя пабоі. Гэта было зроблена цягам наступнай гадзіны, прычым дактары "лечкамісіі" гаварылі нам, што фіксуюць нашыя пабоі, выразна ўсведамляючы сабе магчымыя негатыўныя для сябе наступствы гэтага ўчынку.

Як высветлілася пазней, наша "пяцёрка" дэпутатаў, дамогшыся неадкладнага звароту ў Пракуратуру, крыху сапсавала першапачатковыя планы арганізатараў садысцкай акцыі. Знаёмыя супрацоўнікі тагачаснай аховы Дома ўрада пазней расказвалі некаторым калегам-дэпутатам, нібыта каля 4 гадзін 30 хвілін той самай ночы дзяжурны па Доме ўрада атрымаў званок ад нейкага быццам бы "сведкі", які сказаў, што ў раёне плошчы Незалежнасці адбываецца бойка паміж людзьмі, некаторых з якіх ён раней "бачыў па тэлевізары". Але, калі гэта і праўда, спланаваная правакацыя спрацаваць ужо не магла. Дарэчы, назаўтра нават урадавая "Звязда" надрукавала афіцыйную інфармацыю Пракуратуры Беларусі пра тое, што пяцёра дэпутатаў звярнуліся з заявай пра здзейсненае ў дачыненні да іх злачынства каля 3 гадзін 10 хвілін ночы з 11 на 12 красавіка. Як кажуць беларусы, грэх не схаваеш у мех...

На жаль, падкантрольныя ўладам ужо ў той час СМІ у цэлым не спыніліся перад адкрытай хлуснёй на адрас дэпутатаў-удзельнікаў галадоўкі. Вядома ж, і журналісты, і рэдактары тагачаснай "Советской Белоруссии" ды Беларускага тэлебачання не верылі таму, што пішуць або паказваюць. Не верыў уласным словам, прамоўленым у сваё апраўданне на сесіі, Міхаіл Цесавец (у гэты час запомніўся выкрык Мікалая Іванавіча Дземянцея, першага спікера Вярхоўнага Савета 12-га склікання: "Правильно! Мало им дали!"). Але ў кожным з іх перамагла іх савецкасць, дзеянне паводле прынцыпу: "Думай адно, гавары другое, рабі трэцяе".

Мяркую, аднак, што 12 красавіка кансалідаваныя дзеянні тагачаснага Вярхоўнага Савета маглі сітуацыю змяніць. Раніцай яго Прэзідыум заняў досыць радыкальную пазіцыю: было прапанавана наступнае пасяджэнне правесці ў будынку Вярхоўнага Савета і паставіць пытанне аб дачыненні канкрэтных службовых асоб да антызаконных брутальных дзеянняў супраць дэпутатаў. Шчыра скажу, што калі б гэта здзейснілася, асабіста мне не было б надта істотным, ці атрымаюць па заслугах арганізатары і выканаўцы начнога разбою. Куды важнейшым было б тое, што ў гэткай сітуацыі пытанне правядзення рэферэндуму 14 мая аўтаматычна знікала б з парадку дня.

Спадзяванні на прынцыповасць большасці парламента, аднак, не спраўдзіліся. Прэзідэнт запрасіў Старшыню Вярхоўнага Савета Мечаслава Грыба на "размову" ў сваю рэзідэнцыю. Мне здаецца, што Мечаслаў Іванавіч імем Прэзідыума павінен быў дамагчыся сустрэчы з усім складам Прэзідыума -- і менавіта ў будынку парламента. Кажу гэта таму, што пасля сустрэчы з прэзідэнтам наш спікер зрабіўся іншы, больш памяркоўны. Пасяджэнне Вярхоўнага Савета было прызначанае на 12 гадзін дня ў будынку Дома ўрада. Туды дэпутатам -- ахвярам начнога нападу прыйшлося прабівацца праз ахову сілай (!). Паступова рабілася ўсё больш зразумелым, што большасць вырашыла ахвяраваць меншасцю, каб атрымаць гарантыі сваёй будучыні. Кошт гэтых гарантыяў ведае цяпер і Мечаслаў Грыб, якому ў 1996 годзе забаронiяць нават займацца адвакацкай практыкай і пазбавяць заслужанай пенсіі як былога кіраўніка дзяржавы. Ведаюць яго і Анатоль Лябедзька, і Васіль Лявонаў. І Міхаіл Марыніч, і Валерый Ціхіня, і шмат хто яшчэ...

Дарэчы, пра Валерыя Ціхіню. Пасля таго, як раздаўлены, дэмаралізаваны Вярхоўны Савет 12 красавіка ўсё-такі "прагаласаваў" за прызначэнне рэферэндуму па прэзідэнцкіх пытаннях, камісія Вярхоўнага Савета па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны ў поўнай адпаведнасці з Канстытуцыяй і Законам аб Канстытуцыйным судзе звярнулася да яго як старшыні Канстытуцыйнага суда з запытам наконт канстытуцыйнасці прынятага Вярхоўным Саветам вышэйзгаданага рашэння. Валерый Ціхіня ўхіліўся ад разгляду гэтага пытання. Напэўна, цяпер ён добра разумее, што менавіта тут пачалася дарога да будучага падпарадкавання Канстытуцыйнага суда выканаўчай уладзе і да ягонай уласнай адстаўкі.

Сітуацыю, што склалася тады, ужо тым больш не мог пераламаць сумленны следчы па асабліва важных справах Пракуратуры Беларусі Язэп Бролішс. Ён зафіксаваў усе паказанні пацярпелых, дамогся, каб абсалютная большасць з іх прайшла медыцынскі агляд у спецыялізаванай клініцы, запатрабаваў відэаматэрыялы, якія б расказалі ўсё. Але завяршыць следства яму не далі, напэўна ж, вельмі ўплывовыя асобы...

Падзеі снежня 1994 года (выступленне Сяргея Антончыка з антыкарупцыйным дакладам) -- красавіка 1995 года (збіццё дэпутатаў у зале Вярхоўнага Савета) пачалі эпоху выразнай дэградацыі законнасці і дэградацыі маральнасці ў нашай роднай краіне. Не магу ў сувязі з гэтым не ўзгадаць таго, што я асабіста меў магчымасць назіраць 26 сакавіка гэтага года ў судзе Савецкага раёна горада Мінска. У гэты дзень судзілі ўдзельнікаў абсалютна мірнай і вельмі кароткай паводле часу акцыі, што праводзілася напярэдадні ў гонар 85-й гадавіны БНР на плошчы Якуба Коласа.

Каля 12 гадзін у будынак суда трое дужых міліцыянераў прывялі, трымаючы за плечы, пругожую, зграбную дзяўчыну. Як я ў той дзень даведаўся, 18-гадовая адзінаццацікласніца адной з мінскіх школ Тацяна Елавая была затрыманая за тое, што, прыйшоўшы на плошчу, не перапыняла там руху транспарту, не спрачалася з міліцыянерамі, не чапляла праходжых -- карацей, не зрабіла нічога такога, што б давала падставы кідаць яе ў сумнавядомую турму на вуліцы Акрэсціна.

У судзе Тацяна сказала, што 25 сакавіка было, ёсць і будзе для яе галоўным святам і што яна свядома прыйшла на плошчу Якуба Коласа. І што ж зрабіла суддзя -- таксама, дарэчы, маладая жанчына -- Наталля Скугарава? Яна абвясціла прысуд: пяць сутак арышту! Выдатна, як я мяркую, разумеючы, што для школьніцы заключэнне ў турму -- гэта не сродак выхавання, а элементарная знявага гонару і годнасці.

Што ж, спадарыня Скугарава ўяўляе сябе правадзейным суддзёй, уладаром лёсаў, забываючы: "Ёсць Божы суд".

У той самы час каля будынка таго самага суда з ужываннем грубай сілы быў затрыманы, выцягнуты з аўтамабіля з нанясеннем цялесных пашкоджанняў сын затрыманага напярэдадні актывіста БНФ Уладзіміра Кішкурны Антон, які прывёз свайму бацьку перадачу. Магу меркаваць (хай мяне абвергне прысутны пры гэтым намеснік начальніка Савецкага РУУС г.Мінска сп.Гуранкоў), што прычынай такога абыходжання была налепка з выявай "Пагоні" на задняй шыбе аўтамабіля.

Дык вось, для мяне відавочна: гэткага разгулу беззаконня і амаральнасці сёння не было б, калі б 12 красавіка 1995 года падзеі завяршыліся іншым чынам, калі б парушальнікі закона былі пастаўленыя на месца.

Цяпер наконт нас, саміх удзельнікаў той памятнай галадоўкі. Героямі я і мае калегі, вядома ж, не былі. Абвяшчаючы гэтую форму пратэсту ў зале Вярхоўнага Савета як акт адчаю, мы дзейнічалі ўжо не як палітыкі. Кожнаму з нас уяўлялася, што, калі мы гэтага не зробім, мы здрадзім не... не сённяшнім сваім выбаршчыкам. Мы здрадзім перадусім Янку Купалу, Максіму Багдановічу, Максіму Гарэцкаму, здрадзім тым пакаленням змагароў і тых, хто проста марыў пра свабодную, незалежную, беларускую Беларусь. Гэта пераважыла ў нас над прагматычным чыннікам -- больш плённа рыхтаваць грамадскую думку, дый актыўней працаваць з тымі самымі дэпутатамі. Напэўна, таму пратэставаць супраць гвалту 12 красавіка на мінскія вуліцы выйшла ўсяго некалькі соцень ці, можа, з тысячу чалавек. Непрафесійна, на мой погляд, паводзіла сябе ў тую памятную ноч абсалютная большасць журналістаў; з гэтай прычыны яна не мела неабходнай інфармацыі, каб выразна паказаць людзям тое, што насамрэч адбывалася ў зале Вярхоўнага Савета, даць гэтаму інтэрпрэтацыю хоць бы згодна са здаровым сэнсам. Таму далейшае галадаванне сэнсу не мела.

Разам з тым, не варта забываць, што грамадскі спад у 1995 годзе менш чым праз год змяніўся грамадскім уздымам -- "гарачай вясной" 1996 года, намаганнямі новаабранага Вярхоўнага Савета і Канстытуцыйнага суда абараніць падмурак законнасці ў краіне. Цяпер жа, відаць, не "гарачыя вёсны" прадвызначаюць тое, што будзе ў Беларусі праз 10, 20 і 30 гадоў. Мы зноў перажываем няпросты час. Зноў шмат хто з нас яшчэ не разумее, што аддаючы сваё дзіця ў беларускі клас, вучачы яго паважаць не прыдуманыя двума выпадковымі чалавекамі, а выпакутаваныя стагоддзямі сімвалы, гэтым самым мы ствараем шанец займець сваю будучыню. Нам усім трэба вучыцца быць салідарнымі, жыць не толькі для сябе, не займацца пустым самаедствам і не губляць чалавечай -- як і нацыянальнай -- годнасці. Ні пры якіх варунках.

...Некалькі гадоў запар у маіх снах з'яўляліся падобныя да нейкіх паўмістычных малпаў істоты -- чорныя з ног да галавы. Яны з дзікім віскам беглі да мяне, хапалі за галаву, за ногі, за рукі. Цягнулі некуды ўбок, кідалі пад ногі ўжо абсалютна рэальным, у камуфляжы, "спецназаўцам", якія чамусьці не толькі мелі адгазнікі на тварах, але з галавы да ног былі абвешаныя зброяй.

Яны каванымі ботамі пачыналі люта біць мяне ў твар. Я пачынаў захлынацца крывёю і... прачынаўся. А прачнуўшыся, пачынаў цяміць, што гэта быў зусім не сон. Гэта была праўда. Гэта мая зрокавая памяць "зняла" фільм. Бо фільма, які тае самае начы здымаўся рэальнай відэакамерай (магчыма, не адной), людзі не ўбачылі. Насуперак абяцанням А.Лукашэнкі... Напэўна, цяпер мне і не надта хацелася б, каб яго бачылі. Бо не хочацца губляць надзеі, што нехта пакаецца...

**Андрэй Вашкевіч** /Куфэрак Віленшчыны/

# ВАЦЛАЎ ПАНУЦЭВІЧ У БЕЛАРУСІ АМАЛЬ НЕВЯДОМЫ

"Эгаізм чалавека ёсць прычынай панавання над другім, усіх здзекаў і няволі. Гэты эгаізм з адзінкі пераходзіць на групы, класы і народы і хоча існаваць і жывіцца іншымі. У сіле, у звярынасці бачыць справядлівасць, якая яму прыносіць карысць. Вось гэты эгаізм і засланяе вочы людзей, туманіць розум, творачы тэорыі расізму і шавіністычнага нацыяналізму і барацьбы класаў і народаў". Гэтыя глыбокія словы былі напісаныя ў 1938 годзе, напярэдадні самай крывавай у сусветнай гісторыі вайны, чалавекам, якому лёсам наканавана было апынуцца ў віры падзеяў 1939 -1945 гг. і ў выніку іх назаўсёды пакінуць Беларусь. Ні пры жыцці, ні пасля смерці Вацлаў Пануцэвіч не быў шырокавядомай на Бацькаўшчыне асобай, а вось у беларускіх эміграцкіх колах, асабліва Нямеччыны, ЗША і Канады, яго ведалі як выдатнага гісторыка, выдаўца, рэлігійнага, грамадскага і палітычнага дзеяча.

Толькі на працягу апошніх шасці-сямі гадоў у беларускіх газетах і часопісах пачалі з'яўляцца працы Вацлава Пануцэвіча. Яго навуковая спадчына (а гэта найперш работы, прысвечаныя старажытнай і навейшай гісторыі Беларусі) стала даступнай шырокаму чытачу ў нашай краіне. Перадрукі даследванняў В.Пануцэвіча з'яўляліся ў "Спадчыне", "Беларускай мінуўшчыне", "Нашай Веры", найбольш значную работу "Гарадзеншчына ў нацыянальным руху ў 1918-1919 гадох" друкавала ў першай палове 1994 года гарадзенская "Пагоня". І вось у канцы 2000 года ў Полацку асобнаю кнігай выйшла грунтоўнае даследаванне Вацлава Пануцэвіча "Сьвяты Язафат", прысвечанае асобе уніяцкага рэлігійнага дзеяча, святога Язафата Кунцэвіча. На жаль, рэдакцыйныя артыкулы, што папярэднічаюць працам В.Пануцэвіча, не вылучаюцца багаццем інфармацыі аб жыцці і дзейнасці аўтара. Агулам складаецца ўражанне, што біяграфія Вацлава Пануцэвіча для чытачоў і нават даследчыкаў беларускай гісторыі працягвае заставацца белаю плямай, хаця ў гістарычнай літаратуры цяпер можна нярэдка знайсці спасылкі на працы, напісаныя В.Пануцэвічам. Гэты артыкул ёсць спробай абагульніць усе сабраныя аўтарам факты біяграфіі В.Пануцэвіча ў больш-менш цэльную карціну яго жыцця ў Беларусі і па-за яе межамі. Хочацца таксама заклікаць усіх тых, хто валодае больш грунтоўнай інфармацыяй пра дзейнасць Вацлава Пануцэвіча, адклікнуцца і расказаць ведамае ім. Тым больш, што яго творы пачынаюць прабіваць сабе дарогу да чытача на Беларусі.

Найперш неабходна патлумачыць, што сапраўднае прозвішча спадара Вацлава не Пануцэвіч, а Папуцэвіч. Адну літару ў сваім прозвішчы ён памяняў ужо напрыканцы вайны, калі знаходзіўся ў Нямеччыне, хутчэй за ўсё, каб пазбегнуць прымусовай рэпатрыяцыі ў Савецкі Саюз. Каб не трапіць у чорныя спісы савецкіх спецслужбаў (а тыя актыўна пераследавалі асобаў, што супрацоўнічалі ў час вайны з нямецкімі акупацыйнымі ўладамі), падобны крок здзейснілі многія беларускія дзеячы. Адсюль вядзе свой пачатак блытаніна, калі ў падзеях 1935-1944 гг. нам вядомы Вацлаў Папуцэвіч, а ўжо ў Нямеччыне напрыканцы 1945 года і пазней у ЗША мы сустракаем грамадскага дзеяча і гісторыка Вацлава Пануцэвіча.

Дакладныя месца і дата нараджэння Вацлава Пануцэвіча дагэтуль невядомыя.
Нарадзіўся ён хутчэй за ўсё недзе ў другой палове 1910 – першай палове 1911 гадоў. Аўтары некаторых выданняў, у якіх змешчаны невялікія занатоўкі пра Вацлава Пануцэвіча (а гэта ў першую чаргу зборнік "Беларускія рэлігійныя дзеячы XX стагоддзя"), сцвярджаюць, што радзімай В. Пануцэвіча была Віленшчына. Аднак ніхто не называе канкрэтнае месца нараджэння. Існуе і іншая версія. Як паведамляла гарадзенскаму таварыству скаўтаў яшчэ ў першай палове 1990-х гг. жыхарка Чыкага Вера Рамук (Жызнеўская), што было асабіста знаёмая з Вацлавам Пануцэвічам з часоў знаходжання ў лагеры для перамешчаных асобаў у Нямеччыне другой паловы 1940-х гг., Вацлаў Пануцэвіч нарадзіўся ў вёсцы Гожа, што каля Горадні. Цяпер праверыць гэтае сцвярджанне даволі цяжка, найперш з-за адсутнасці звестак пра яго маладыя гады, аднак трэба адзначыць, што ў Горадні ды бліжэйшых ваколіцах прозвішча Папуцэвіч сустракаецца даволі часта.

Наступная згадка пра Вацлава Пануцэвіча з'яўляецца ў другой палове 1935 года. Ён – студэнт Віленскага ўніверсітэта Стэфана Баторага, навучаецца на юрыдычным факультэце. Адсюль, а таксам з Віленскай каталіцкай духоўнай семінарыі (Вацлаў Пануцэвіч быў выключаны з яе за беларускую працу) вядзе свой пачатак грунтоўная філалагічная падрыхтоўка спадара Вацлава, асабліва ў галіне лацінскай мовы, веданне якой значна дапамагло яму падчас працы з сярэднявечнымі помнікамі пісьменнасці, што датычыліся гісторыі Беларусі.

У гэты ж самы час адбылася падзея, якая вырашальным чынам паўплывала на ўвесь далейшы жыццёвы шлях Вацлава Пануцэвіча – знаёмства з дзеячамі найбольш уплывовай беларускай нацыянальнай партыі ў міжваеннай Польшчы – Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Дамо тут слова самому Вацлаву Пануцэвічу: "У канцы 1935 г. я асабіста запазнаўся з кс. Гадлеўскім ды да верасня 1939 быў яго супрацоўнікам. Перш я сустрэўся з кс. Адамам Станкевічам ды ягонымі супрацоўнікамі, што гуртаваліся пры вуліцы Завальная №1, дзе была друкарня і ўсе ўстановы БХД. Кс. Гадлеўскі ў гэтым часе вельмі крытычна адносіўся да ідэалагічнай дзейнасці кс. Станкевіча і ягонай групы... В.Гадлеўскі на мяне зрабіў прыцягаючае ўражанне. Таму я таксама далучыўся да ягонай групы. Я адчуваў у ім чалавека глыбока веруючага, перанятага лёсам свайго народу ды незалежніка. Усё гэта мне болей падабалася, чымся дзейнасць кс. Станкевіча і ягонай групы".

Паспрабуем патлумачыць гэтую цытыту на шырэйшым гістарычным матэрыяле. У другой палове 1930-х гг. у Еўропе ўжо пачуваўся подых новай вайны і значныя змены ў знешнепалітычнай сітуацыі не маглі паўплываць на ўнутраную палітыку еўрапейскіх дзяржаваў, у тым ліку і Польшчы. Татальная мілітарызацыя краіны, абмежаванне грамадзянскіх правоў насельніцтва па канстытуцыі Другой Рэчы Паспалітай, прынятай у красавіку 1935 года, новая хваля польскага шавінізму, сімвалам якой быў створаны на беларускіх землях канцэнтрацыйны лагер у Бярозе-Картузскай, перарвалі апошнія ніці, пры дапамозе якіх яшчэ можна было наладзіць беларуска – польскае ўзаемапаразуменне. Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя, бясспрэчнымі лідэрамі якой былі ксяндзы Адам Станкевіч І Вінцэнт Гадлеўскі, хаця і заяўляла дасягненне поўнай незалежнасці Беларусі як канчатковую мэту дзейнасці партыі, да сярэдзіны 1930-х гг. фактычна арыентавалася на палітычную барацьбу, што не выходзіла за межы канстытуцыі (г. зн. прызнавала цэласнасць польскай дзяржавы). У новых палітычных умовах пачалася барацьба за рэформу БХД, тады і выявіліся супярэчнасці паміж двума галоўнымі ідэолагамі партыі. Кс. Адам Станкевіч імкнуўся надаць БХД агульнанацыянальны характар, адкрыць шляхі да супрацоўніцтва з усімі антыфашыстоўскімі партыямі Польшчы, у тым ліку і КПЗБ. Менавіта такую палітыку праводзіла ўтворанае кс. А.Станкевічам і яго бліжэйшымі супрацоўнікамі Адольфам Клімовічам і Янкам Шутовічам Беларускае Народнае Аб'яднанне. Кс. В.Гадлеўскі у сваю чаргу застаўся на цвёрдых антыкамуністычных пазіцыях і бачыў перспектыву ў супрацоўніцтве беларусаў з краінамі Восі ў выпадку новай вайны... Пасля расколу БХД летам 1936 года групоўка В.Гадлеўскага стварыла ўласную арганізацыю – Беларускі Народны Фронт. Можна меркаваць, што Вацлаву Пануцэвічу больш імпанавала выразная нацыянальная (ці нават нацыяналістычная) пазіцыя В. Гадлеўскага, таму ён і далучыўся да яго групоўкі. Аднак канчатковае палітычнае размежаванне дзеячаў былой БХД адбылося толькі праз паўгода пасля таго, як Вацлаў Пануцэвіч пазнаёміўся з ксяндзамі Гадлеўскім і Станкевічам. У канцы ж 1935 га – першай палове 1936 гадоў ён паспеў яшчэ прыняць дзейсны ўдзел у працы структураў рэфармаванай і пакуль што яшчэ адзінай БХД–БНА.

1 снежня 1935 года Вацлаў Пануцэвіч разам з А.Дасюкевічам, А.Смаршчком і М.Канцэлярчыкам згадваецца як сябра рэдкалегіі "Студэнцкай трыбуны" (моладзевага дадатку да газеты "Беларуская Крыніца" – галоўнага інфармацыйнага выдання БХД). У наступных нумарах "Студэнцкай трыбуны" друкуецца некалькі невялікіх артыкулаў, падпісаных літарамі В.П. Першы так падпісаны артыкул з'явіўся 15 снежня 1935 года пад назвай "Студэнцкае сьвята" і быў прысвечаны святкаванню 15-й гадавіны Беларускага Студэнцкага Саюзу. Вацлаў Пануцэвіч заставаўся актыўным супрацоўнікам гэтага выдання да вясны 1936 года. Яшчэ адным важным накірункам яго дзейнасці ў гэты перыяд з'яўляецца праца ў Беларускім Інстытуце Гаспадаркі і Культуры (БІГіКу). БІГіК як і Таварыства Беларускай Школы займаўся асноўным чынам пытаннямі культуры асветніцкай работы сярод шырокіх мас насельніцтва Заходняй Беларусі, але ў адрозненні ад ТБШ знаходзіўся пад уплывам дзеячаў хрысціянска-дэмакратычнага накірунку ў беларускім нацыянальна-вызваленчым руху. 26 лютага 1936 года Вацлаў Пануцэвіч (тады яшчэ Папуцэвіч) у якасці сакратара присутнічае на сходзе Віленскага аддзелу БІГіКу, дзе быў абраны сакратаром краязнаўчай секцыі гэтага аддзела інстытута, а таксама ўвайшоў у склад Урада (праўлення інстытута) у якасці гаспадара (заўхоза). У пачатку траўня таго ж года Вацлаў Пануцэвіч згадваецца "Беларускай Крыніцай" ужо як намеснік сябра Цэнтральнага ўрада БІГіКу. Удзельнічае В.Пануцэвіч і ў культурных мерапрыемствах, што арганізоўваліся БІГіКам. Так 25 красавіка 1936 года В.Пануцэвіч і студэнт Бабок з навуковай пункту погляду баранілі існаванне Бога, супраць іх выступаў В.Тумаш. Такое цікавае мерапрыемства мела шырокі розгалас сярод віленскай грамадскасці.

Аднак ужо ў чэрвені 1936 года з выхадам у свет першага нумара газеты "Беларускі Фронт" раскол БХД–БНА стаўся фактам. З гэтай нагоды рэдактар "Беларускага Фронту" В.Гадлеўскі пісаў: "Бяручы пад увагу факт, што ў шырокіх грамадскіх колах маё прозвішча часта атаясамліваецца з БНА (раней БХД), а таксама з некаторымі яго кіраўнікамі, падаю да агульнага ведання, што ў апошнім часе, у сувязі са зменай палітычнай лініі БНА, сувязі такой няма і за цяперашні накірунак БНА не нясу адказнасці перад беларускім народам і гісторыяй". Лінію Гадлеўскага падтрымалі Мікалай Шкялёнак, інж. Лявон Дубейкаўскі і студэнт Вацлаў Пануцэвіч. Вацлаў Пануцэвіч прымае абавязкі выдаўца "Беларускага Фронту". Усяго да верасня 1939 году выйшла 50 нумароў газеты. Выданне неаднаразова канфіскоўвалася, а рэдактар і выдавец падвяргаліся рэпрэсіям з боку ўладаў. Так за артыкул "Дзяржаўная незалежнасць Беларусі" (жнівень 1938г.) В.Пануцэвіч атрымаў год астрогу. Праўда, пакаранне было хутчэй за ўсё завешана, бо ў 1938-39 акадэмічным годзе В.Пануцэвіч працягвае навучанне ва ўніверсітэце. Выдае і рэдагуе В.Пануцэвіч таксама і студэнцкі часопіс "25 сакавіка". Разам са "Студэнцкай Думкай "25 сакавіка" быў адным з самых значных выданняў беларускай моладзі напрыканцы 1930-х гг. Як пісала "Хрысціянская Думка", "часапіс гэты да беларускіх нацыянальных і сацыяльных праблемаў спрабуе падыходзіць з гледзішча хрысціянскага". Да канца 1938 года выйшла 4 нумары "25 сакавіка". І "Беларускі Фронт", і "25 сакавіка" знаходзіліся ў апазіцыі да прэсы, што кантралявалася Ад.Станкевічам – "Хрысціянскай Думкі" і "Шляху Моладзі" – і прапагандавала неабходнасць стварэння Беларускай Народна-Радыкальнай Партыі, галоўнай мэтай якой павінна было быць падтрыманне ідэі незалежнай Беларусі.

З выбухам вайны 1 верасня 1939 года Вацлаў Пануцэвіч быў змабілізаваны ў польскае войска, прычым служыць павінен быў у 81 пяхотным палку гарадзенскіх стральцоў імя Стэфана Баторага, які размяшчаўся ў Горадні. Дарэчы сказаць, гэты полк польскай арміі быў тэрытарыяльным, у ім служылі толькі ўраджэнцы Гарадзеншчыны, што яшчэ раз сведчыць на карысць другой версіі аб месцы нараджэння Вацлава Пануцэвіча. У свой полк трапіць В.Пануцэвіч хутчэй за ўсё не паспеў (яшчэ ў канцы жніўня 81шы полк пакінуў Горадню, каб потым прыняць удзел у баях з усходнепрускай групоўкай нямецкіх войскаў) і 22 верасня трапіў у савецкі палон разам з іншымі салдатамі гарадзенскай групоўкі войскаў, якія спрабавалі прабіцца на тэрыторыю нейтральнай Літвы.

Звесткі аб жыцці Вацлава Пануцэвіча ў перыяд з восені 1939га па чэрвень 1941 года значна разыходзяцца. Як сцвярджае польская даследчыца Алена Глагоўская ў каментарах да ўспамінаў Анэлі Катковіч (Беласток, 1999), Вацлаў Пануцэвіч разам са сваёю жонкаю Ірэнаю Будзькаю (дачкою знакамітага "нашаніўца" Эдварда Будзькі) жыў і працаваў настаўнікам у Будславе.

"Цікавую" версію абгрунтаваў сумнавядомы сваімі выкрывацельствамі "Политический собеседник" (1989, №12). У часопісе параўноўваліся два фотаздымкі, на першым група актывістаў Саюза Беларускай Моладзі пачатку 1930-х гг. (хаця СБМ быў заснаваны толькі падчас другой сусветнай вайны, а гэтае фота было надрукавана "Беларускай Крыніцай" у пачатку 1936 года, на ім была Рада рэфармаванай БХД), на другім група палонных беларусаў з польскага войска падчас рэгістрацыі ў ваколіцах Магдэбургу, чэрвень 1940 года (дзеячы Беларускай Нацыянал – Сац. Партыі з дазволу немцаў сапраўды адбіралі беларусаў сярод палонных польскага войска). В.Пануцэвіч, А.Дасюкевіч і Мядоўскі на першым фотаздымку параўноўваюцца з асобамі ў фашысцкай форме на другім. Сапраўды цікавае, хаця і бязглуздае меркаванне.
Найбольш пэўнаю з'яўляецца інфармацыя самога Вацлава Пануцэвіча, што з восені 1939 па чэрвень 1941 года ён жыў у Горадні, дзе працаваў настаўнікам разам са сваёю жонкаю. Вацлаў Пануцэвіч знаходзіўся ў няпростым становішчы. Кс. В. Гадлеўскі заклікаў з акупаванай немцамі Варшавы да барацьбы з бальшавікамі, а яго былы супрацоўнік увесь час быў пад наглядам НКВД. В Пануцэвіч прыгадвае адзін выпадак, калі пад выглядам сувязнога з Варшавы да яго прыйшоў савецкі агент. "Я пры спатканні незнаёмага выведніка быў насцярожаны ды павёў так гутарку, каб даведацца больш аб дзейнасці беларусаў у Нямеччыне й Варшаве, у асабліваці групы кс. Гадлеўскага, чымся выказаць сваю згоду на пераход у Польшчу ці паказаць тут нашу патрыятычную дзейнасць. Паколькі ў крыжовым агні маіх пытанняў выведнік супярэчліва ці наогул не хацеў адказваць, я ўпэўніўся, што ён на савецкім баку. Тады заявіў яму, што я не жадаю мець з групай кс. Гадлеўскага й варшаўскім камітэтам ніякіх дачыненняў. Паколькі я праслядзіў гэтага выведніка, калі ён выйшаў з майго памяшкання, што пайшоў проста ў галоўнае

НКВД у Горадні, дык я пайшоў у раённы аддзел (дзе я жыў) і заявіў аб бытнасці ў мяне выведніка з Нямеччыны. Тут здарылася даволі смешная справа. Дзяжурны нкавудыст (жаўнер) добра не дачуў майго апавядання аб выведніку, а зразумеў, што я маю нейкія прэтэнзіі да чалавека, які мяне адведваў і якога я надаваў рысапіс. Ён умяшаўся ў гутарку і сказаў мне:

- Што вы хочаце ад гэтага маладога чалавека? Ён працуе ў нас".

22 чэрвеня 1941 года Вацлаў Пануцэвіч таксама сустрэў у Горадні. Ужо ў канцы лета ён актыўна далучыўся да працы Беларускага нацыянальнага камітэта, арганізаванага беларускімі дзеячамі ў ліпені 1941 г. у Беластоку. Як паведамляе ў сваіх успамінах Язэп Малецкі, у пачатку кастрычніка інжынер Аляксандр Русак і Вацлаў Пануцэвіч прыязджалі ў Вільню, каб наладзіць сувязь з віленскім БНК. У Горадні жа да пачатку лістапада 1941 г. былі створаныя зачаткі беларускай паліцыі, а таксама ваявыя настаўніцкія курсы, якія і ўзначаліў В.Пануцэвіч. Планавалася стварэнне беларускай праваслаўнай духоўнай семінарыі, аб чым звяртаўся 27 кастрычніка 1941 г. у гарадзенскі БНК япіскап Антоній. У кастрычніку В.Пануцэвіч быў нават прызначаны бургамістрам Горадні і на працягу аднаго месяца павінен быў пераняць справы ў паляка Гарбачэўскага, аднак далучэнне Беластоцкай акругі да Усходняе Прусіі звяло ўсе намаганні беларускіх дзеячоў на нішто.

У сярэдзіне лістапада 1941 года В.Пануцэвіч і разам з ім каля 100 чалавек выехалі з Горадні для беларусізацыі адміністрацыі акругаў Баранавічы, Слонім, Наваградак, Ліда. В.Пануцэвіч пасяліўся ў Баранавічах, дзе пражыў да лета 1944 года. Дзейнасць яго хутчэй за ўсё была звязана са школьніцтвам, бо ў верасні 1942 года ён наведваў беларускага школьнага інспектара ў Лідзе. Некалькі разоў сустракаўся з кс. Гадлеўскім, але актыўнага ўдзелу ў перыпетыях палітычнай барацьбы не прымаў.

Падзеі ліпеня 1944 года вымусілі Вацлава Пануцэвіча падацца ў выгнанне. Наступны раз мы сустракаем яго ўжо ў другой палове 1945 года як аднаго з арганізатараў беларускага жыцця ў лагеры для перамешчаных асобаў Ватэнштэт, што знаходзіўся ў Ангельскай зоне акупацыі Нямеччыны (за 10 км ад Браўншвайгу, Ніжняя Саксонія). Лагер быў даволі вялікі, у пачатку 1948 года ў ім было 716 беларусаў-уцекачоў з БССР. Ужо 15 лістапада 1945 года ў лагеры была адкрыта гімназія імя Максіма Багдановіча, якая працавала аж да ліквідацыі лагера ў лютым 1950 года. Першым дырэктарам стаў Вацлаў Пануцэвіч, ён жа выкладаў лацінскую мову, яго жонка – прыродазнаўства. Навучанне ў гімназіі адыграла значную ролю ў выхаванні некалькі дзесяткаў маладых беларусаў, адарваных ад Бацькаўшчыны. Цяжка пераацаніць ролю Вацлава Пануцэвіча ў арганізацыі скаўцкага руху сярод беларусаў у Нямеччыне. У 1946 годзе ён арганізаваў першы злёт беларускіх скаўтаў, прыняў удзел у выданні часопісаў "Шляхам жыцця" і "Напагатове". У Флёнбургу В.Пануцэвіч выдаў дапаможнікі для скаўцкай работы: "Скаўцкая кніжка", "Праца ў звязе", "... для кіраўнікоў скаўтаў". Скаўты мелі добрую арганізацыю і гуртавалі вакол сябе значную частку беларускай моладзі. Ужо ў красавіку 1946 года Вацлаў Пануцэвіч узначаліў Згуртаванне Крывіцкіх Скаўтаў на Чужыне (ЗКСЧ), якое ў лютым 1950 года аб'ядноўвала маладых беларусаў з Англіі, Аўстраліі, Аргентыны, Бельгіі, ЗША, Бразіліі, Канады, Нямеччыны і Францыі. У лагеры Ватэнштэт, як адзіным ва ўсёй Нямеччыне, арганізавалася беларуская каталіцкая парафія, пробашчам якой быў а. Міхась Маскалік. З красавіка 1948 года ватэнштэцкі парафіяльны камітэт выдаў уласны часопіс "Беларуская Думка", рэдагаваў яго В.Пануцэвіч.

Аднак з канца 1949 года беларускае жыццё ў лагерах для перамешчаных асобаў паступовa пачынае заціхаць. Страціўшы надзею ў хуткім часе вярнуцца на Радзіму, беларусы-эмігранты пачынаюць устаткоўваць сваё жыццё на чужыне. Вясной 1950 года Вацлаў Пануцэвіч разам з сям'ёй ад'язджае ў ЗША. Сорак гадоў, пражытых Вацлавам Пануцэвічам на амерыканскай зямлі, сталі самым плённым перыядам у яго навуковай і грамадскай працы. Ужо ў траўні 1959 года ў Нью-Йорку было заснавана Беларуска-Амерыканскае Каталіцкае Таварыства, якое за кароткі час згуртавала вакол сябе 150 беларускіх сем'яў. Старшынём арганізацыі стаў Станіслаў Грынкевіч, віцэ-старшынём – Вацлаў Пануцэвіч. Дэлегацыя таварыства была нават прынята вядомым сваімі антыкамуністычнымі поглядамі кардыналам Спэлманам. Актыўны ўдзел у жыцці беларускай каталіцкай парафіі ўсходняга абраду ў Чыкага і выданне часопіса "Беларуская Царква" (1956-1965ггю) прынеслі В.Пануцэвічу вядомасць як значнага рэлігійнага дзеяча беларускай эміграцыі. У палітычнай працы дзейнасць В.Пануцэвіча звязана з Беларуска-Амерыканскай Нацыянальнай Радай, у склад якой увайшлі яе беларусы даваеннай і пасляваеннай хваляў эміграцыі, у тым ліку і слынны Язэп Варонка. Вацлаў Пануцэвіч у гэтай арганізацыі выконваў абавязкі сакратара. Рада выдавала свой бюлетэнь, спрабуючы звярнуць увагу амерыканскага грамадства на сітуацыю ў БССР.

Працягвалася праца В.Пануцэвіча і ў галіне скаўтынгу. У 1951 годзе ў Чыкага ім была заснавана моладзевая дружына "Пагоня", а пасля – "Арлы".

Выключна багатую спадчыну пакінуў Вацлаў Пануцэвіч у галіне гістарычнай навукі. Ягоныя работы шырока ахопліваюць старажытную і сярэднявечную гісторыю Беларусі. Толькі пералічым назвы буйнейшых яго работ: "Жамойдзь і Літва: розныя краіны і народы" (1953-1954), "З гісторыі Беларусі, або Крывіччыны-Літвы" (1965), "Пачаткі хрысціянства на нашых землях з часоў Ізяслава" (1959), "Польская мова ў XIV-XVIII ст.ст. і каталіцкі касцёл у Вялікім княстве Літоўскім" (1967). Гэтыя кнігі, а таксама часопіс "Litva" (выходзіў з 1966 г.), друкавала заснаваная Вацлавам Пануцэвічам на пачатку 1960 -х гадоў Беларуская Выдавецкая Сябрына. Гістарычныя тэорыі Вацлава Пануцэвіча, хаця і бясспрэчныя далёка не заўсёды, аднак вылучаюцца арыгінальнасцю, грунтоўным апрацаваннем, а колькасць выкарыстаных гістарычных крыніц, асабліва на лацінскай мове (вось дзе сказалася грунтоўная універсітэцкая падрыхтоўка), выклікае зайздрасць у любога гісторыка. З найбольшай увагай даследуе В.Пануцэвіч паходжанне назоваў Крывія, Літва, Жамойдзь, Яцвязь і па сутнасці першым сярод беларускіх гісторыкаў ставіць пытанне пра тое, як тэрмін Літва перамясціўся з цягам часу на тэрыторыю Жмудзі і як славяне-ліцвіны сталіся беларусамі. Як і Павал Урбан у сваёй кнізе "Да пытання аб этнічнай прыналежнасці старажытных ліцьвінаў" , Вацлаў Пануцэвіч абгрунтоўвае славянскую этымалогію назова Літвы, падтрымліваючы ідэю аб тоеснасці старажытных ліцвінаў з люцічамі. Надзвычай арыгінальна, але ізноў жа вельмі доказна, выглядае сцверджанне В.Пануцэвіча аб тым, што напярэдадні "хрысціянізацыі" ў канцы XIV ст. Літва была не паганскай, а яе насельніцтва вызнавала нейкую хрысціянскую ерась усходняга паходжання накшталт маніхейства.

Памёр Вацлаў Пануцэвіч 25 жніўня 1991 года. Апошні дзень яго жыцця стаў першым днём незалежнай Рэспублікі Беларусь. Застаецца толькі пашкадаваць, што і праз 10 гадоў імя яго працягвае заставацца на Беларусі амаль невядомым. А шлях да адраджэння – гэта ў першую чаргу шлях да сваёй гістарычнай памяці і да прынцыпаў унутранай свабоды, сфармуляваных Вацлавам Пануцэвічам: "Адрадзіць сваё "Я", гэта значыць пераламаць самога сябе і прыняць, што ня толькі існую "Я", але існуе гэткае самае "ня Я" – другі чалавек з такімі самымі прыкметамі, асабовасцю і правамі. Сваё думанне асвяціць вышэйшаю праўдай хрыстовае навукі, што ўсе людзі – браты і што творым адну велізарную грамаду чалавецтва".

**************************************

# Ці будуць унесеныя змяненьні ў закон аб мовах?

**Сяргей КАРАЛЕВІЧ** /Зьвязда/

Моўнае пытанне працягвае заставацца для Беларусі актуальным. Пасля заканадаўчага афармлення роўнасці беларускай і рускай моў сфера ўжытку першай працягвае звужацца дастаткова вузкай. Размова аб магчымасці выпраўлення сітуацыі, у тым ліку і праз унясенне змяненняў і дапаўненняў у Закон «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь», вядзецца ўжо даволі даўно. У гэтым годзе абмеркаванне праблемы пэўным чынам актывізавалася. Свой праект змяненняў прапанавала Таварыства беларускай мовы. У Палаце прадстаўнікоў паведамляюць, што законапраект можа быць падрыхтаваны да першага чытання ўжо чарговай сесіі, якая пачнецца на пачатку красавіка. Якія ж змены могуць быць унесеныя ў закон аб мовах?

Таварыства беларускай мовы накіравала свае прапановы Старшыні Савета Рэспублікі Аляксандру Вайтовічу, намесніку Старшыні Палаты прадстаўнікоў Уладзіміру Канаплёву, старшыні парламенцкай камісіі Ігару Катлярову, членам дэпутацкай групы «Рэспубліка». Неабходнасць унясення змяненняў тлумачыцца тым, што пасля моўнага рэферэндуму дзяржава не зрабіла прыкметных захадаў па рэалізацыі выказаных грамадзянамі пажаданняў, галоўнае з якіх — забеспячэнне роўнасці беларускай і рускай моў у афіцыйным жыцці. У прыватнасці, справаводства дзяржаўнага апарату практычна цалкам вядзецца на рускай мове. Тое ж можна сказаць пра вышэйшую і сярэднюю спецыяльную адукацыю, прафесійна-тэхнічныя вучылішчы. Вымушае жадаць лепшага становішча беларускай мовы на радыё, телебачанні, у кінематографе.

Паводле даных ТБМ, колькасць вучняў у школах, якія працягваюць вучыцца па-беларуску, скарацілася з 75 працэнтаў у 1994/1995 навучальным годзе да 26,3 працэнта. Адпаведна скарацілася і падпіска на беларускамоўныя выданні. І гэта пры тым, што падчас апошняга перапісу насельніцтва 86 працэнтаў жыхароў Беларусі назвалі беларускую мову сваёй роднай, а 37 працэнтаў засведчылі, што кожны дзень размаўляюць па-беларуску. І яшчэ некалькі лічбаў. Падчас тэлепраграмы «Выбар», прысвечанай будучыні беларускай мовы, з 26 тыс. прагаласаваўшых па тэлефоне 65 працэнтаў выказаліся ў падтрымку развіцця беларускай мовы.

Спачатку эканоміка, потым мова?

Пракаментаваць магчымыя змены ў закон аб мовах, а таксама расказаць аб сваім бачанні моўнай праблемы «Звязда» папрасіла старшыню Камісіі па адукацыі, навуцы і навукова-тэхнічнаму прагрэсу Палаты прадстаўнікоў Ігара КАТЛЯРОВА.

**— Ці назіраецца сёння раўнапраўнае ўжыванне беларускай і рускай моў?**

— Гэта амаль што філасофскае пытанне, на якое вельмі цяжка адказаць канкрэтна. Сёння ў Беларусі склаліся аб'ектыўныя ўмовы, пры якіх руская мова з'яўляецца больш ужываемай, бо ёй карыстаецца большая частка насельніцтва. Мне неаднаразова прыходзілася праводзіць сацыялагічныя даследаванні: за дзве дзяржаўныя мовы ў краіне стала выказваюцца больш як чатыры пятыя насельніцтва. Большасць гаворыць менавіта па-руску. У той жа час у нас створаны ўсе ўмовы, каб кожны жадаючы мог карыстацца беларускай мовай. Але тое, што беларускую мову можна рэдка пачуць на вуліцы, гэта, безумоўна, недахоп.

**— Тым не менш, магчыма, ужыванне мовы патрэбна пачаць з «вярхоў»?**

— Я лічу, што кожны культурны чалавек у Беларусі павінен ведаць беларускую мову — без гэтага немагчыма інтэлектуальнае і культурнае развіццё краіны. Патрэбна стварыць аб'ектыўныя ўмовы, каб людзі былі зацікаўленыя ў валоданні сваёй нацыянальнай мовай. У той жа час прымушаць да гэтага недапушчальна. У свой час у камісіі па правах чалавека і нацыянальных адносінах Вярхоўнага Савета мы паспрабавалі распрацаваць сістэмную канцэпцыю заканадаўчага забеспячэння развіцця беларускай мовы. Яна прадугледжвала матэрыяльныя стымулы, ідэалагічную работу, прынцыпе шэрагу законапраектаў. На жаль, гэта прапанова не знайшла падтрымкі.

**— Што вы разумееце пад аб'ектыўнымі ўмовамі?**

— Пачнём з таго, што хацелася б, каб чалавек, які выхоўваецца ў дзіцячым садку і размаўляе на беларускай мове, пайшоў у беларускую школу. Потым, каб яго веды былі карыснымі ў вышэйшай навучальнай установе, каб ён усё жыццё размаўляў менавіта на беларускай мове. У нас атрымліваецца зусім іншая сітуацыя. У дзіцячым садку чалавек размаўляе на беларускай мове, а потым стала размаўляць на ёй не можа.

**— Наколькі я ведаю, вы рыхтуеце змены ў закон аб мовах.**

— Цяпер цэлы шэраг суб'ектаў, у прыватнасці, Таварыства беларускай мовы, прапануе змяненні ў закон аб мовах. На гэтым тыдні мы ў камісіі вырашылі выкарыстаць разумныя прапановы Таварыства беларускай мовы, свае напрацоўкі, заўвагі настаўнікаў, дзеячаў культуры, пісьменнікаў, абагульніць іх і распрацаваць праект змяненняў у закон. Дарэчы, цяперашні закон даволі дэмакратычны. Але закон — заўсёды кампраміс. Ён прымаўся адразу пасля рэферэндуму. Таму цяпер ёсць дастаткова цікавых, правільных прапаноў, якія, безумоўна, трэба вынесці на разгляд парламента. Акрамя таго, нам паступіў і шэраг прапаноў, якія недапушчальныя ў цяперашні час.

**— Якія прапановы вы падтрымліваеце, а якія не?**

— Калі грамадзянін Беларусі звярнуўся ў дзяржаўныя органы з заявай на беларускай мове, адказ ён павінен атрымаць менавіта на гэтай жа мове. З гэтай прапановай Таварыства беларускай мовы я цалкам згодны. У свой час мы вырашылі, што ўсе геаграфічныя назвы павінны запісвацца на беларускай мове. Гэта было ўспрынята нармальна. Верагодна, што і надпісы на аўтобусах, на цэнніках павінны быць таксама на беларускай мове. Аднак зрабіць жыццяздольнымі некаторыя прапановы з-за наяўнасці эканамічных праблем немагчыма. Напрыклад, у адной са школ майго рэгіёна ў 11 класе вучацца толькі два чалавекі. Адзін жадае вучыцца на беларускай мове, другі — на рускай. Нам што — раздзяляць клас? У нас і так хапае праблем: не можам купіць камп'ютар і г. д. Магчыма, праз пэўны прамежак часу, калі будуць вырашаны эканамічныя праблемы, перадумовы для вырашэння шэрагу іншых моўных праблем усё ж такі будуць створаны. Таксама я не падтрымліваю прапанову аб тым, што ўсе гуманітарныя дысцыпліны павінны выкладацца на беларускай мове.

**— Парламент прымае законы, за рэдкім выключэннем, на рускай мове. Адна з папраўак у Закон «Аб Нацыянальным сходзе РБ», якія рыхтуюцца да прыняцця ў другім чытанні, датычыцца накіравання законаў у парламент на дзвюх мовах. Ці будзе гэта папраўка ўлічаная?**

— Мы не супраць прапановы, каб усе законы ўносіліся і на рускай, і на беларускай мовах. Аднак тут адразу ўзнікае праблема: патрэбны цэлы штаб перакладчыкаў у парламенце, міністэрствах, ведамствах. Напрыклад, толькі ў Палаце прадстаўнікоў неабходна было б павялічыць штат на 12 чалавек. Афіцыйны пераклад патрабуе зусім іншай структуры. Мы абмяркоўвалі

пытанне на Савеце Палаты прадстаўнікоў. Улічвалася тое, што трэба затраціць шмат сродкаў, якія можна накіраваць на вырашэнне эканамічных, культурных праблем. Гэта стала асноўнай прычынай таго, што мы палічылі за лепшае пакуль не ўносіць змяненні ў рэгламент, якія датычацца прадстаўлення ў парламент законаў на дзвюх мовах. Хаця, у прынцыпе, калі б былі адпаведныя эканамічныя ўмовы, упэўнены, што 99 працэнтаў дэпутатаў падтрымалі б гэту прапанову.

**— Калі вы збіраецеся ўнесці законапраект на разгляд?**

— Спадзяюся, што праект будзе падрыхтаваны да першага чытання недзе напрыканцы гэтай сесіі.

**— Як вы ставіцеся да стварэння беларускага нацыянальнага універсітэта?**

— У цэлым я стаўлюся да гэтага станоўча. Але я прапаноўваю спачатку стварыць прыватны нацыянальны універсітэт. Калі ўсё будзе добра: прыйдуць людзі, будуць выкладчыкі, — праз два-тры гады можна надаць універсітэту статус дзяржаўнага, дзе ўсе дысцыпліны будуць выкладацца толькі на беларускай мове. Сёння ж мы нават не маем уяўлення, хто там будзе вучыцца і выкладаць.

**Як не абмежаваць правы?**

Прапановы ТБМ разглядзелі і ў Савеце Рэспублікі. У прыватнасці, экспертна-прававому ўпраўленню было даручана падрыхтаваць даведку па гэтых прапановах. Як адзначыў у размове з карэспандэнтам «Звязды» старшыня верхняй палаты беларускага парламента Аляксандр Вайтовіч, асобныя прапановы Таварыства маюць права на жыццё, іншыя прыняць немагчыма. У прыватнасці, да апошніх можна аднесці тую, згодна з якой грамадскія арганізацыі павінны карыстацца толькі беларускай мовай. «Гэта будзе антыканстытуцыйна, — паведаміў А. Вайтовіч, — у нас дзве дзяржаўныя мовы. Грамадская арганізацыя мае права выбраць любую. Тым больш што ў асобных грамадскіх арганізацый могуць увогуле быць толькі рускія па нацыянальнасці». Што ж датычыцца прапаноў па прымяненню беларускай мовы ў рабоце дзяржаўных органаў, то гэта разумна. «Я лічу, — адзначыў Старшыня Савета Рэспублікі, — калі грамадзянін звяртаецца ў дзяржаўны орган на беларускай мове, адказ ён павінен атрымліваць таксама на ёй. Гэта права грамадзяніна — карыстацца той мовай, якой ён жадае. Дзяржаўны орган тут абслуговы». Па гэтай пазіцыі, як бачна, погляды прадстаўнікоў палат парламента супадаюць.

А вось наконт прыняцця законапраектаў, у тым ліку і на беларускай мове, А. Вайтовіч заявіў наступнае: «Мая цвёрдая пазіцыя заключаецца ў тым, што законы павінны прымацца заканадаўчым органам улады адразу на дзвюх дзяржаўных мовах. Прыняцце на адной дзяржаўнай мове ўшчамляе канстытуцыйныя правы грамадзян. Напрыклад, у судзе разглядаецца нейкае пытанне. Грамадзянін валодае беларускай мовай і хоча, каб пасяджэнне таксама вялося на беларускай мове. Гэта яго канстытуцыйнае права. Аднак закона на беларускай мове мы не маем. Суддзя, такім чынам, не зможа весці працэс на беларускай мове. Нават калі і існуе пераклад, ён не будзе мець сілы афіцыйнага заканадаўчага акта».

Аб рашэнні Савета Палаты прадстаўнікоў, аб якім паведаміў нашай газеце І. Катляроў, А. Вайтовіч даведаўся непасрэдна ад карэспандэнта «Звязды». Паводле яго слоў, «падчас мінулай сесіі прэзідыум Савета Палаты прадстаўнікоў разглядаў гэта пытанне і пакідаў пункт аб прыняцці законаў на дзвюх мовах. Гэта я чую ўпершыню. Наконт павелічэння расходаў. Ніякіх асаблівых расходаў тут няма. Асноўныя расходы ідуць на паперу.

Якія яшчэ расходы? Калі ёсць экспертна-прававое ўпраўленне ў Палаце прадстаўнікоў, то там знаходзяцца дзяржаўныя чыноўнікі. А дзяржаўны чыноўнік павінен ведаць дзве дзяржаўныя мовы. І яму павінна быць без розніцы, на якой мове распрацоўваць закон. Гэта яго абавязак.

Калі мы зноў пойдзем на тое, каб абмяжоўваць прымяненне беларускай мовы падчас заканадаўчай работы, фактычна гэта будзе абмежаванне канстытуцыйных правоў грамадзян».

Кастусь Харашэвіч

# УСПАМІНЫ

## *ВАЙНА 1941–1945 гг. АКУПАЦЫЯ*

Як звычайна ў такой сітуацыі кіраўніцтва краіны аб'яўляе ўсеагульную мабілізацыю. Ужо 23 чэрвеня 1941 г. мужчыны адпаведнага ўзросту пачалі збірацца ехаць у Маладэчна на прызыўныя пункты райваенкамата. Паехаў на фурманцы з суседам і мой бацька, якому на той час ішоў 43-ці год. Жанчыны залямантавалі, ідучы за вазамі, трымаючыся за драбіны. Потым доўга яшчэ стаялі на ўскраіне вёскі. Хто ведае, калі яшчэ давядзецца сустрэцца каму з мужам, бацькам або сынам? Пачалася вайна, напэўна, самая бязлітасная, якую зведала грамадства за ўсю гісторыю свайго існавання.

Але на той час на фронт з нашых вяскоўцаў ніхто не папаў, за выключэннем тых, хто ўжо служыў у савецкай, а да таго яшчэ і ў польскай арміі. Імклівае наступленне немцаў выклікала паніку ва ўрадавых установах горада. Пачалася эвакуацыя. Усе, у тым ліку і мой бацька, неўзабаве вярнуліся дадому. Надышоў час ваеннага безуладдзя. Гэта калі ранейшая ўжо не дзейнічае, а новая яшчэ не ўсталявалася. Звычайна ў такі перыяд здараюцца ратункі дзяржаўнай, а часам і грамадскай маёмасці, крымінальныя ўчынкі, забойствы. Але я не памятаю, каб што-небудзь такое адбывалася ў нашай мясцовасці ні восенню1939 г., ні ўлетку 1941 г. Праўда, больш спрытныя ўсё ж паспелі за адзін дзень схадзіць у Маладэчна. Там разбіралі гандлёвыя склады і крамы. У нашай вёсцы толькі разабралі соль, газу і запалкі з махоркай у мясцовай краме сельпо. Бо больш там нічога і не прадавалася. Усе былі ў чаканні. За майстрам і дырэктарам малаказавода прыехала цяжаровая аўтамашына. Яны хуценька пагрузіліся і ад'ехалі. Удзельнікі ўпаўнаважаны Ефімаў, таксама партыйны чалавек з усходу, вымушаны быў застацца з сям'ёю. Моцна захварэлі дзеці, і ён сам мэнчыўся з нагою.

А немцы з'явіліся 26 чэрвеня ў другой палове дня. Я ў той час пасвіў сваю карову на лузе недалёка ад дарогі. Убачыўшы клубы пылу на ёй з боку станцыі Валожын, падыйшоў бліжэй, каб паглядзець што там такое. Неўзабаве з'явіліся чорныя запыленыя трохкалёсныя матацыклы з кошыкамі-каляскамі. На кожным – па трое жаўнераў у сталёвых касках на галаве, акулярах і шэра-зялёных плашчах з капюшонамі. На грудзях аўтаматы, зусім не падобныя на савецкія, а ў таго, што ў кошыку, – яшчэ і ручны кулямёт напагатове. Я здагадаўся, што гэта, пэўна, ўжо немцы. Да дарогі падышлі яшчэ хлапчукі, якія бавіліся непадалёку. На скрыжаванні дарог насупраць нашай хаты матацыклы спыніліся. Было іх больш пяці, дакладна не памятаю. Пачалі агледацца. Маторы пэўны час працавалі. Затым, не звяртаючы ўвагі на нас, з пярэдняга матацыкла сышоў жаўнер. Дастаў з-пад плашча планшэтку з мапай. Пагледзеў на яе, штосьці прамовіў на нямецкай мове да кіроўцы і пачаў з кошыка даставаць прадаўгаватыя завостраныя з аднаго канца дошчачкі. Выбраў адну з іх, невялікім малаточкам цвікамі прыбіў яе да аднаго клёніка ля дарогі. Закурылі. Павеяла зусім незнаёмым нам тытунёвым пахам. Гэта былі іх цыгарэты, акуркі якіх мы потым падабралі і прынеслі дадому паказаць сваім. Цыгарэт у той час яшчэ ніхто не бачыў, акрамя махорачных карашкоў і папірос "Север" і "Беламорканал".

А немцы тыя, не спяшаючыся, завялі маторы і рушылі далей на ўсход у бок Літвы і Палачан. Калі яны зніклі за пагоркам, мы падышлі і на дошчачцы той прачыталі: "Nach Molodeczno".

Вось так даволі празаічна з'явіліся ў нашай вёсцы Гарадзілава першыя нямецкія акупацыйныя злучэнні. Бацькі папярэдзілі, каб больш не падбягалі да дарогі. Мала што можа здарыцца. Але цікавасць перамагала. І хоць цераз шчыліну ў плоце я назіраў за дарогай.

А па ёй крыху пазней цэлы тыдзень, а мо і больш, амаль безупынна рухаліся аўтамашыны з пяхотай, танкеткі, коннікі і нават веласіпедысты. Гучала розная, пераважна незнаёмая нам, гаворка, калі атрады спыняліся на адпачынак. Бачылі мы не толькі немцаў, але і італьянцаў, іспанцаў, мадзяр, румын. Здавалася, уся Еўропа заходняя рынулася на ўсход. А вось чырвонаармейцаў у тыя дні даводзілася бачыць толькі на балоце, ля ракі. Групоўкамі па двое, трое яны днём сядзелі ў чароце і сушылі памытую бялізну. Зброі мы ў іх не бачылі. Напэўна, хавалі і рухаліся на ўсход, выходзячы з акружэння, відаць, толькі ноччу ўздоўж ракі. Калі мы прыходзілі да ракі лавіць рыбу або заганяць кароў ці коней дадому, яны пыталіся, ці многа немцаў прайшло цераз нашы вёскі. Звычайна мы бралі з сабой больш хлеба і што-небудзь яшчэ і давалі гэтым акружэнцам. Часам, зняўшы гімнасцёрку, у адной белай кашулі і басяком хто-небудзь з іх адважваўся і днём заходзіць у нашы хаты, калі на пэўны час на дарозе было пуста. Іх кармілі, хто чым мог. Давалі і з сабой.

Калгасаў у нас яшчэ не было, таму ў кожным доме быў хлеб і да хлеба. Паколькі ўзброеных сутычак у нашай мясцовасці не было, то і вёскі засталіся цэлыя, і ніхто з грамадзян не загінуў.

Толькі аднойчы высока ў небе з'явіліся над дарогай савецкія бамбардыроўшчыкі. Нават скінулі дзве бомбы. Я быў тады на панадворку ля сваёй хаты. Адчуў, як зямля захісталася пад нагамі. Затым раздліся адзін за другім моцныя выбухі. Азірнуўся ў той бок і ўбачыў чорныя слупы дыму, якія ўзняліся за дарогай на полі. Не стрымаўся і пабег паглядзець. А з глыбокіх ямаў ад бомбаў яшчэ віліся струменьчыкі дыму, і зямля была цёплая. Бачыў, як па гэтых самалётах білі нямецкія зеніткі, што стаялі ля вёскі Канюхі і прыкрывалі дарогу. Але ні ў адзін самалёт, а іх было ля дзесяці, не папалі. А тыя больш не вярталіся. На чым і скончылася ўся бамбёжка.

Калі нам, падлеткам, не сядзелася ў хаце, і было жаданне як мага больш усяго пабачыць, то дарослыя і жанчыны без асаблівай патрэбы не выходзілі на вуліцу, па якой рухаліся калоны немцаў. Толькі дзівіліся, дзе дзелася тая сіла, якая ў верасні 1939 г. па гэтай дарозе рухалася на захад. Успаміналі першую сусветную вайну і тагачасных немцаў, аб якіх нічога дрэннага не маглі сказаць, паколькі ніякіх злачынных дзеянняў адносна мірнага насельніцтва з іх боку ў час акупацыі не назіралася.

Мой бацька ўспамінаў, як будучы на фронце пад Крэвам, хадзілі ў час перамір'я ў іхнія акопы "братацца". Частаваліся шнапсам і галетамі. А вось што ўяўляюць цяперашнія немцы, як і сама Германія, ніхто дакладна не ведаў. Таму і адносіны да іх на першы час у нас былі неакрэсленыя. Ад савецкага камуністычнага кіраўніцтва за два гады іх панавання ў Заходняй Беларусі таксама нічога дрэннага пра гэту краіну і яе рэжым мы не чулі. Нават у той час, калі Гітлер пачаў захопліваць у Заходняй Еўропе адну краіну за другой, Сталін пасылаў яму віншаванні з нагоды чарговых ваенных перамог. Ведалі нашы людзі і пра тое, як пасля разгрома Польшчы, пры сустрэчы ў Брэсце, савецкія і нямецкія афіцэры пілі на брудэршафт шампанскае, чулі і пра Мірны Дагавор з Германіяй. Таму, відаць, не дзіва, калі дзе-ні дзе ў беларускіх вёсках сустракалі немцаў з хлебам і соллю, аб чым сведчаць дакументы. У нашым сельсавеце такое не назіралася. Але і яўнай варожасці ў большасці вяскоўцаў на першы час да іх не было.

Калі нямецкія вайскоўцы спыняліся ў нашых вёсках на адпачынак, мы кружыліся ля іх, каб што-небудзь прыдбаць. І гэта часам удавалася. Я марыў мець губны гармонік, на якім яны даволі добра ігралі. І мелодыі нямецкія мне падабаліся. Нейкія пявучыя, захапляючыя. Аднаго разу мне пашанцавала. Калі з гарадзілаўскага маёнтка з'ехала нейкае злучэнне, мы там падабралі сёе-тое, у тым ліку і невялікі губны гармонік. І хаця ён крыху хрыпеў, я быў шчаслівы. Хутка пачаў падбіраць на ім свае беларускія мелодыі. Перападала нам часам і шакаладных цукерак, пячэння, а то і смачнага ліманаднага напою. Розныя былі тыя нямецкія франтавікі. Маладыя танкісты, вясёлыя, бесклапотныя. Яны, напэўна, так верылі свайму фюрэру, што не сумняваліся ў хуткай перамозе і што жывымі вернуцца ў свой Фатэрлянд. Памятаю адзін эпізод, якому мы ў той час не знаходзілі тлумачэння. Сабіралася наша хлапчукоўская кампанія больш за ўсё ля сваёй школы. Мы там ганялі пікара або гулялі ў лапту, калі былі вольныя ад гаспадарчых абавязкаў. Непадалёку на лузе стаяла на рамонце некалькі нямецкіх лёгкіх танкаў. У той час цяжкіх, кшталту "Тыгр" або "Фердынанд" у немцаў не было. Гэта ў савецкай арміі практыкаваліся пераважна цяжкія бронемашыны, у тым ліку і такія суперцяжкія, як "КВ" – "Клімент Варашылаў". Савецкая танкавая армада, як цяпер стала вядома, была па колькасці большая за нямецкую.

А адступаць усё ж давялося.

Зайшлі ў той дзень нямецкія танкісты і ў нашу школу. А там у класах, як віселі партрэты правадыроў, так і віселі. Бачым, выносяць немцы партрэт Сталіна, Молатава, Берыі на панадворак. Глядзім, што яны з імі будуць рабіць. Пачалі ставіць ля сцяны і шпуляць у іх фінскімі нажамі, гучна смяючыся, калі хто-небудзь пападаў. І тут падышоў, магчыма, іхні афіцэр і, узяўшы партрэт Молатава, сказаў: "Молётов найн, найн" – і кінуў яго ў калідор школы. Чаму Молатава "найн", мы не разумелі. Магчыма, Молатаў быў у іх на асобым рахунку за падпісанне Рыбентропам сакрэтнага пратакола да Мірнага Дагавора, аб чым у той час ніхто з нас не ведаў.

Паступова рух на дарозе пачаў спыняцца. Абышлося ўсё без асаблівых стратаў. Толькі драўляны масток цераз рэчку зусім разбурыўся і, аб'язджаючы яго, немцы здратавалі некаторыя палеткі збажыны. Але гэта лічылася дробязь. Пайшла гаворка пра ўсталяванне пэўнай мясцовай улады. Думалі, што на гэтым жахі сучаснай вайны і скончыліся і што Германія атрымае перамогу. Вельмі ўжо бадзёра паводзілі сябе вайскоўцы. І ваеннае ўзбраенне было надзвычайнае. Нам, хлопцам, засталося толькі падбіраць і цягаць дадому розныя рыштункі, віткі дроту, скрынкі, бляшанкі ад розных напояў і усялякае жалеззе. Здаралася знаходзіць баявыя патроны і нават артылерыйскія снарады. Тады мы іх цягалі ў якую-небудзь канаву і разбіралі, каб дабыць порах. З дапамогай яго мы рабілі самастрэлы і розныя выбуховыя штучкі. Некаторым не шанцавала. Заставаліся калекамі, а то і гінулі.Але ў тыя чэрвеньскія і ліпеньскія дні гэта здаралася не часта. Гранат і зброі немцы стараліся не пакідаць. Відаць, быў строгі наконт гэтага загад.

Пачыналася жніво. Усе пайшлі ў поле на працу. Бавіць час асабліва не даводзілася. Пры аднаасобнай гаспадарцы ўсім хапала занятак. Я быў старэйшы з дзяцей у нашым доме. Мне споўнілася 14 год. Часта даводзілася хадзіць у Літву па каня. Ён быў у нас агульны з дзедам Мікалаем. Звычайна садзіўся на яго і дабіраўся ўжо верхам. Але не заўсёды ўдавалася такім чынам даехаць аж да хаты. Конь у нас быў мангольскай пароды, невялікі, каржакаваты і вельмі хітры.Застаўся ён нам ад савецкай конніцы, калі яна ў 1939 г. рухалася на захад. Забраўшы ў нас здаровага, узамен пакінулі гэтага кульгавага на адну нагу. Бацька яго выхадзіў. Толькі да сялянскай працы, да хамута ён не быў прызвычаены, і на першы час з ім было нямала турбот. А вось вярхом на ім ездзіць было добра. Але ўмеў скідаць з сябе ездака так спрытна, што не агледзішся, як апынешся на зямлі. Гэта калі ён задумае паласавацца канюшынай па дарозе. А потым сам прыходзіў дахаты.

Паколькі малодшаму брату Валерыю спаўняўся толькі год, а сястры Рыце – шосты, усёй падмогай па гаспадарцы быў я. і карову загнаць у поле, і адпаску адбыць, сенакосам сушыць і звозіць сена ў гумно. Спрабаваў ужо і сам касіць. Маці звычайна з малымі дзецьмі ля дому, а я з бацькам па ўсёй астатняй рабоце. Цяжкавата было часам. Асабліва калі пачыналі капаць уручную торф на балоце. У кожнага вяскоўца была свая дзялянка і пуня, дзе ўжо сухія брыкеты торфа складалі, а толькі зімою, калі замярзала рака, вывозілі. Звычайна бацька жалезным разаком выкідваў з ямы на паверхню цяжкія мокрыя брыкеціны, а мая справа была кідаць іх на саначкі і адцягваць далей на прасушку, складаючы ў пірамідкі. Так працягвалася тыдзень, а то і больш. Затым патрэбна было хадзіць і сушыць, перакладаючы пірамідкі знізу ўверх. А хадзіць даводзілася за 3 кіламетры пад Баркі, невялікай вёсачкі па дарозе на мястэчка Валожын. Там нават была нейкая невялікая панская сяліба. Адно радавала, што капалі торф непадалёку ад нашай ракі Беразіны, вельмі прыгожай і рыбнай на той час. Вада ў ёй была празрыстая, як слязінка. Можна было піць. Звычайна я браў з сабой вуды і закідваў іх у зручным месцы. Затым, у час адпачынку ад працы, хадзіў і здымаў рыбу. Пападаліся і плоткі, і акунькі. Напэўна, з таго часу я і палюбіў рыбалку вудаю (раней мы ў невялікай рэчцы, што ўпадае ў Беразіну, рыбу лавілі звычайна кошыкамі). Сліжыкаў усякіх і пескароў заўсёды можна было налавіць на патэльню. А дарослыя з нашай вёскі і суседняй у нядзелю, калі ніякай іншай працай нельга было займацца, збіраліся гуртом і таптухамі праходзілі аж да Беразіны. Кожны прыносіў па торбе рыбы. Вось і ў тое лета ваеннае, таксама ў нядзелю, выходзілі на рыбалку. Памятаю, як нямецкія вайскоўцы куплялі злоўленую рыбу за нейкія маркі, на якія нічога нельга было тады ў вёсцы купіць. Хадзілі нават да дзядзькоў глядзець на тыя грошы. А аднойчы бачыў, як жаўнеры басякам на балоце паміж купін лавілі зялёных жабаў. Затым ножыкам адцінаі ў іх заднія лапкі і кідалі ў бляшанку ад процівагаза. Аказваецца, яны потым смажылі гэтыя лапкі і елі, што вельмі нас здзівіла. Хадзілі мы ў тое лета і ў грыбы, але стараліся доўга не бавіцца. Рэч у тым, што з першага і да апошняга дня нямецкай акупацыі існаваў каменданцкі час. З прыцемкамі ўсе цывільныя грамадзяне павінны былі быць дома, у сваіх хатах. Калі ўлетку гэта нязручнасць не так заўважалася, то пад восень, а затым глыбокай восенню і зімою цяжка было прызвычаіцца да такога рэжыму.

А нямецкае войска тым часам усё далей і далей рухалася на ўсход. Даходзілі чуткі, што яно ўжо за Смаленскам і падходзіць да Масквы. Інфармацыю пэўную мелі і ад часовых пастаноў і інструкцый. У адной з іх гаварылася, што патрэбна ствараць мясцовую ўладу, якая павінна падтрымліваць і дамагацца выканання ўсіх загадаў кіраўніцтва вышэйшага, якое фармуецца ў Менску. З'яўляліся праклмацыі, у якіх сцвярджалася, што Германія сваімі ворагамі лічыць бальшавіцкі рэжым у Маскве, камісараў і палітработнікаў, а таксама ўсіх камуністычных актывістаў і яўрэяў. Загадвалася выкрываць і здаваць у камендатуру камуністаў, камсамольцаў і тых, хто пры савецкай уладзе займаў значныя пасады.

Пачынаўся перыяд правентыўных рэпрэсій супроць асоб памяненай катэгорыі. Збіралі яўрэяў па вёсках і мястэчках і кудысьці звозілі, а часам знішчалі на месцы. Аднойчы на нашай дарозе спынілася нямецкая аўтамашына, а ў кузаве – некалькі яўрэйскіх сем'яў з катомкамі. Сярод іх я ўбачыў знаёмую дзяўчыну, яўрэйку, якая хадзіла ў нашу Гарадзілаўскую школу. Яе бацькі жылі ў в.Дземяшы. Займаліся гандлям і дробным рамяством. Я падышоў бліжэй і без падазронасці спытаў: "Куды ты едзеш, Соня?" Імгненна з кабіны аўтамашыны выскачыў нямецкі карнік, схапіў мяне за плечы і стаў нюхаць галаву, прыгаворваючы: "Юда, юда!" Я стаяў, нічога не разумеючы, нават спужацца не паспеў. Валасы ў мяне тады былі чорныя як смоль, ды яшчэ віліся на вісках. У школе часам цыганом абзывалі. А немец падумаў, што я яўрэй, калі яшчэ спрабаваў загаварыць з імі. Але падышоў паліцай, які да гэтага стаяў на прыступках кабіны, адхіліў мяне ад немца і, штурхануўшы ў плечы, загадаў ісці дадому. Ён ведаў нашу сям'ю. А нейкі дзядзька, праходзячы, бачыў усю гэтую валтузню. Разумеючы ў чым справа, ён зайшоў у нашу хату і расказаў усё як было. Тры дні мяне наогул не выпускалі нават на панадворак. А калі з'яўлялася якая-небудзь аўтамашына на дарозе, загадвалі лезці пад ложак і там ціха сядзець. А тых яўрэяў і Соню, як я потым высветліў, расстралялі ў той жа дзень у пясчаным кар'еры за вёскай Баркі, што па дарозе на Валожын.

А ў адзін спякотны летні дзень з боку мястэчка Лебедзева падняліся чорна-шэрыя густыя клубы дыму, а ў паветры адчуўся нейкі нязвыклы пах гары. Лёгкім воблакам даходзіла ўсё гэта аж да нашай вёскі. Неўзабаве даведаліся: у гумне палілі ў той час лебедзеўскіх яўрэяў. Гэта мяне вельмі ўразіла. Сталі больш панурымі нашы людзі. Такога яшчэ не было ў нашай мясцовасці. І хаця да яўрэяў ставіліся па-рознаму, але спаленне чалавечай істоты было па-за межамі нашага ўяўлення. Давялося бачыць у тыя дні і калону савецкіх ваеннапалонных, якія, рухаючыся па дарозе, хапалі часам конскія каўцякі, выкалупліваілі з іх зерне і клалі сабе ў рот. Гэта калі я ездзіў з бацькам у Маладэчна да радні. Доўга ў памяці былі шэрыя, змэнчаныя твары чырвонаармейцаў, даведзеных да такога стану.

Затым дайшла чарга да партыйных актывістаў і камсамольцаў. Але калі з яўрэйскімі сем'ямі было зразумела, іх рэпрэсі-авалі пагалоўна, то з партыйнымі здаралася па-рознаму. Напрыклад, у Палачанах па пададзенаму карнікам спісе, камсамольцаў, якія там былі, немцы расстралялі. Расстралялі і былога старшыню Гарадзілаўскага сельсавета Сіняўскага, жыхара вёскі Парэчча. Мой бацька яго ведаў як недрэннага чалавека. Але, напэўна, хтосьці данёс на яго асабіста. У час камуністычных рэпрэсій за перыяд з 1939-41 гг. нямала нашых грамадзян таксама нявінна пацярпелі. Сіняўскі быў партыйцам і як старшыня сельсавета не мог ухіліцца ад загадаў вышэйшага тагачаснага начальства. А вось з камсамольцамі ў нашым сельсавеце абышлося без расстрэлаў. Солтысам быў абраны жыхар вёскі Дземяшы Галавач, даволі прыстойны чалавек. Памятаю, як ён прыйшоў да майго бацькі і, відаць, паведаміў што патрабуюць спіс камсамольцаў, сярод якіх быў і малодшы брат маёй маці Лявон Саўлавец. Што рабіць? Скончылася гэта тым, што разам са святаром Гарадзілаўскай царквы Аляксеем Маеўскім, які таксама карыстаўся павагай і даверам у людзей, зрабілі так, што камсамольцаў у нас быццам бы і не было. Пазней я даведаўся, што для гэтага спатрэбілася пэўная колькасць залатых манет. Затое хлопцы засталіся жывымі. Не падалі спіса і на ўсходнікаў, якія вярнуліся з эвакуацыі, бо не паспелі адʼехаць далёка, не падалі і на савецкага ўчастковага міліцыянера Ефімава, таксама партыйнага, але даволі памяркоўнага чалавека. Яны так і пражылі разам з намі ўвесь перыяд акупацыі, за што былі ўдзячны.

А вось самога Галавача за тое, што быў солтысам, пасля вайны ўсё ж рэпрэс-авалі і вывезлі ў Сібір. За яго, відаць, ніхто не змог заступіцца.

Цяжка было на душы ў тое лета 1941 г., уяўляючы, як гараць людзі ў агні, як стаяць перад ямай, чакаючы кулі ў патыліцу, або ад голаду трацяць чалавечае аблічча. Мы яшчэ тады не ведалі пра масавыя расстрэлы ў СССР, пра рэпрэсіі і лагеры, дзе гінулі пераважна таксама ні ў чым невінаватыя людзі. Лічылі мы, што гэткія зверствы ўлачсцівы толькі цяперашнім немцам, якія так нечакана хлынулі на краіну. Але бліжэй да восені сітуацыя пачала крыху нармалізавацца. Пайшла гаворка, што збіраюцца адкрываць школу. Стварылася нейкая мясцовая ўправа. Выйшаў загад адчыняць з 1-га кастрычніка нашу школу і ў абавязковым парадку адпраўляць у яе дзяцей ва ўзросце ад 7 да 14 год. З'явіліся нават аб'явы: "Хто не будзе пасылаць дзяцей у школу, будзе пакараны па законах ваеннага часу". А ў дадатковай інструкцыі гаварылася, што асноўнай мовай навучання павінна быць беларуская з абавязковым выкладаннем беларускай мовы не менш як 6 гадзін на тыдзень. Дапускалася вывучэнне і польскай мовы, дзе была адпаведная колькасць грамадзян, якія лічылі сябе палякам. Толькі выкладанне на рускай мове было цалкам забаронена . Нават урокаў па рускай мове ўжо не было.

Такім чынам, дзесьці ў палове кастрычніка месяца, я ахвотна пайшоў у сваю школу, ужо ў 7 клас. Многія юнакі і дзяўчаты прыйшлі тады ў школу нават старэйшага ўзросту. Настаўніцкі калектыў застаўся ранейшым. Нават настаўніцы, якія прыслалі да вайны з усходу і якія не паспелі або проста не пажадалі эвакуявацца, таксама прыйшлі працаваць у школу. Выкладалі ўжо не рускую мову і гісторыю СССР, а батаніку, заалогію, а часам і геаграфію. Зарплаты нікому ніякай не было. Але нашы людзі дапамагалі ўсім настаўнікам як маглі. Яны не галадалі.

Кніжкамі карысталіся ўсялякімі – і савецкімі, і нацдэмаўскімі віленскага выдання. Я асабліва любіў пераглядаць "Геаграфію Беларусі" Смоліча. Там былі цудоўныя краявіды роднага краю.

У пачатку 1942 г. з'явілася перыядычнае выданне "Беларуская школа" ў дзвюх рэдакцыях – для вучняў і настаўнікаў. Гэта замест савецкіх падручнікаў. Ніхто не ведаў, акрамя маіх бацькоў, што на гарышчы нашай хаты знаходзіцца многа вартасных кніжак на польскай, рускай і беларускай мовах. Набыў я гэтую бібліятэку даволі своеасаблівым чынам. У мяне былі добрыя стасункі з сынам тэхнічкі нашай школы, адзінокай жанчыны, якая і жыла ў маленькім пакойчыку пры школе. Бацькам Яўгена, так звалі таго хлопца, быў настаўнік Посах, які ў свой час працаваў у Гарадзілаўскай школе. Менавіта да Посаха ў школу і прыходзіў Янка Купала з Яхімоўшчыны.

Мая маці нават памятала, калі паэт заходзіў да іх у клас. Пазней у Расеі Посах і пазнаёміў Я. Купалу з Максімам Горкім. Яшчэ пры Польшчы ў школе была бібліятэка, і не малая. А калі ўсталёўвалася савецкая ўлада, Яўген, каб кніжкі не прапалі, знёс іх на гарышча школы. Затым школьная бібліятэка стала папаўняцца кніжкамі савецкіх выданняў, сярод якіх было таксама даволі многа вартасных зборак. А калі ў 1941 г. з'явіліся немцы, ён зноў, каб іх не расцягалі, занёс на гарышча. Аднаго разу паклікаў мяне на тое гарышча і сказаў: "Ведаю, што любіш літаратуру, пішаш вершы, збіраешся стаць паэтам. Выбірай, якія табе кніжкі да спадобы, і нясі дадому. Толькі нікому не паказвай і не гавары, як яны ў цябе з'явіліся." Некалькі дзён я кошыкам насіў тыя кніжкі і хаваў у скрынках. Маці хвалявалася. А раптам немцы зробяць вышук. Але нікому ў той час да іх не было справы.

З польскай літаратуры былі ў мяне творы Адама Міцкевіча, Станіслава Высляньскага, Юліюша Славацкага, Генрыка Сянкевіча, Мар'і Канапніцкай, нават Баляслава Пруса, Жэромскага і Элізы Ажэшкі. Я ўдзячны лёсу, што многія творы мне былі знаёмы ў арыгінале, бо польскай мовай валодаў свабодна. Паколькі ў той час не было ні радыё, ні тэлевізіі, толькі чытаннем можна было і займацца, асабліва ў самотныя зімовыя вечары пры завешаных шчыльна вокнах.

Цікавыя былі выданні па гісторыі Польшчы. У той час я ўжо ведаў пра Тадэвуша Касцюшку, Юзэфа Панятоўскага, Канстанціна Каліноўскага і больш дакладна пра Юзэфа Пілсудскага, які нарадзіўся на Беларусі ў маёнтку Жулоў на Гарадзеншчыне. У гісторыі Польшчы ёсць нямала падзей, звязаных з нашым краем, і мяне гэта цікавіла. Памятаю выдатныя ілюстрацыі да гістарычных старонак графіка Гротгера і мастака Матэйкі.

Але авалодаўшы рускім і беларускім чытаннем, я ў той час ужо меў магчымасць пазнаёміцца з творамі Пушкіна, Лермантава і самога Гогаля, ад якога я быў у захапленні, асабліва чытаючы "Вечера на хуторе близ Диканьки" і фантастычную аповесць "Вий". І ўсё ж бліжэй да душы і розуму мне былі творы Янкі Купалы, Якуба Коласа, М. Багдановіча і нават Эдуарда Самуйлёнка і Янкі Маўра. "Курган", "Сымон-музыка", "Новая зямля" – былі маімі настольнымі кніжкамі, на якіх і выхавалася мая грамадзянская і патрыятычная пазіцыя.

Пэўнай нацыянальнай свядомасці садзейнічала і тое, што акрамя беларускамоўнага навучання ў тагачасных школах, як пачатковых, так і сярэдніх, значная ўвага надавалася ўрокам гісторыі нашай Бацькаўшчыны. Мы даведаліся, што ў сярэднявеччы існавала на нашай тэрыторыі Вялікае Княства Літоўскае, што мова беларуская ў ім была дзяржаўнай. Гаварылася і пра дзеячоў вызвольнага руху, пра гаротнае жыццё нашых продкаў пад гнётам акупантаў як з усходу, так і захаду.

Аб усім гэтым мы даведваліся як з кніжак, так і апавяданняў саміх настаўнікаў, якія да вайны вучыліся ў беларускіх настаўніцкіх гімназіях і семінарыях. У Гарадзілаўскай школе такім быў Георгі Вяршыцкі, родам з вёскі Дубіна Валожынскага раёна. Ён пасля некалькі год павучыцца ў Віленскай настаўніцкай семінарыі. А як вядома, Вільня да 1939 г. была цвярдыняй беларускага адраджэнскага руху ў Заходняй Беларусі. Даведаліся, што нацыянальная гісторычная сімволіка – герб "Пагоня" і бел-чырвона-белы сцяг, якія неўзабаве былі ўсталяваны ў класах школы замест партрэтаў правадыроў. Своеасаблівым гімнам і нават малітвай сталі радкі верша Канстанцыі Буйлы "Люблю наш край, старонку гэту". Пелі і "Зорку Венеру" Максіма Багдановіча.

Штосьці вельмі блізкае да душы закрадалася ў мяне ў той час. У сваіх вершах, якія я працягваў пісаць у школьную насценную газету, пачалі з'яўляцца патрыятычныя ноткі. Маляваў каляровымі алоўкамі, як карыкатуры, так і карцінкі з прыроды. Але мастаком стаць не марыў.

1942 год у час вайны запамятаўся мне больш спакойным жыццём. Фронт адышоў далёка на ўсход. Спыніліся карныя акцыі. Магчама, гэтаму садзейнічала тое, што Цэнтральная і Заходняя Беларусь мела цывільнае кіраўніцтва, у той час, як Усходняя яе частка да апошняга дня была пад уладай ваенных. Нашы грамадзяне свабодна апрацоўвалі сваю зямлю. Падаткі і розныя паборы былі на першы час не большыя, чымсь пры Саветах.

Уладкоўваліся на працу дзе хто мог. Праўда, адзін дзень на тыдзень патрэбна было адбываць прымусова працу. То па рамонце дарог або будоўлі ўмацаванняў пры чыгунцы, то ў Яхімоўшчыне на бровары, а часам ездзілі ў Маладэчна на рамонт дэпо. Часам я замяняў бацьку, якому хапала працы пры гаспадарцы. Людзі жаніліся, спраўлялі вяселлі, хрысцілі дзяцей, адзначалі рэлігійныя і народныя святы. У нядзелю моладзь хадзіла на танцы. Звычайна збіралася ў нашай школе, бо ахвотнікаў было не мала. Пачалі з'яўляцца ў вёсках былыя савецкія чырвонаармейцы. Гэта калі немцы пачалі распушчаць некаторыя лагеры для ваеннапалонных. Бралі іх да сябе ў асноўным тыя грамадзяне, у якіх была патрэба ў дапамозе па працы. Затрымліваліся яны і ў адзінокіх жанчын. А часам прымалі ў дом, каб людзі маглі неяк выжыць. Ведалі, колькі іх загінула ў першыя месяцы вайны ў нямецкіх канцлагерах ад голаду, холаду і розных хвароб.

Менавіта ад іх, а затым бежанцаў з усходу, мы даведаліся аб жыцці ў Савецкім Саюзе, якім яно было на самой справе. Нават не верылася, што ў СССР даўно ўжо існуюць лагеры і праводзяцца расстрэлы. І што ў калгасах жыццё не заўсёды такое, як пяецца ў песнях або паказваецца ў кіно. Хаця пасля ўз'яднання за два гады сутнасць савецкага таталітарнага рэжыму ўжо пачала праяўляцца і ў Заходняй Беларусі. Намі ўсё яшчэ лічылася, што гэта часам нейкае непаразуменне, калі чалавека ні за што ссылаюць у лагер. Вінаватымі лічылі больш самаўпраўнае начальства мясцовае, чымсь вышэйшае маскоўскае кіраўніцтва. Памятаю, як прыходзілі да майго бацькі і прасілі напісаць пісьмо Сталіну ў Маскву, каб разабраўся ў той ці іншай судовай справе. Але бацька ў Маскву не пісаў. Ён ужо адчуваў, што сутнасць у іншым. Напэўна, таму ў часе акупацыі заняў нейтральную пазіцыю. Не пайшоў працаваць у гміну, калі прапанавалі, але і не збіраўся выступаць супраць немцаў. Многія нашы грмадзяне так сябе паводзілі ў той час. Выжыць у гэтае ваеннае ліхалецце і пракарміць сваю сям'ю лічылася галоўным клопатам для іх.

А праблем хапала, нягледзячы на тое, што сітуацыя ў нашай мясцовасці была крыху лепшая ў параўнанні з Усходняй Беларуссю, у прыфрантавых, а потым і партызанскіх зонах. Адчуваўся востры недахоп адпаведных лекаў і медыцынскай дапамогі. У нашай хаце закватэраваў на пэўны час чалавек з вёскі Хоўхлава, які займаўся ўрачаваннем. Браў за паслугі толькі прадуктамі харчавання. Але яго магчымасці былі

вельмі абмежаваныя. У Маладэчне існаваў шпіталь для цывільных, а для ваенных – асобна. Некаторыя прэпараты можна было дастаць таксама за натуру. Паміралі дзеці і дарослыя, калі восенню 1941 г. прайшла эпідэмія тыфусу. Памятаю, як стараліся не заходзіць у тыя хады, дзе гэта хвароба панавала. Не было цукру. З'явіўся сахарын. Гэта такія белыя таблеткі, ад якіх вада станавілася салодкай. Але празмернае яго ўжыванне дзейнічала на зрок. Сталі садзіць больш цукровых буракоў і рабіць з іх штосьці накшталт саладкаватага джэму. Нястача была туалетнага і гаспадарчага мыла. Карысталіся каўстычнай содай, якая была небяспечнай для скуры рук. Таму часцей у цёплую ваду сыпалі попел, рабілі луг і ім мылі бялізну. Дзяўчаты спрабавалі мыць твары малаком, ад якога быццам бы скура рабілася мяккай і празрыстай. Замест гузікаў прышывалі драўляныя біркі. Курцы садзілі самасад, бо не заўсёды можна было дастаць махорку, а нямецкія цыгарэты лічыліся слабымі. З хлебам на вёсцы асаблівай праблемы не было. Стараліся, каб яго хапала да новага ўраджаю. А вось у гарадах і мястэчках у людзей, якія не мелі сваёй зямлі, нястача хлеба заўсёды адчувалася. У Маладэчне была пякарня. Хто працаваў на прадпрыемствах горада або ўстановах, па картках мог атрымаць свой паёк. Але хлеб выпякаўся часам разам з драўлянай мукой – гэта калі дабаўлялі туды апілкі. Жывучы пазней у Маладэчне, я таксама еў такі хлеб.

Адзінае, што можна было набыць нават за маркі, – гэта соль, газа, сярнічкі і асобныя сялянскія прылады. Былі такія гандлёвыя кропкі ў Маладэчне і вясковых крамах. Вельмі быў распаўсюджаны абмен асобных прадуктаў: яек, масла, сала – на ніткі, іголкі, гузікі, адэкалон і ўсякую галантарэйную дробязь у немцаў-чыгуначнікаў, якія ў вольны ад дзяжурства час хадзілі па хатах і прапаноўвалі свой тавар. Звычайна гэта былі даволі пажылыя нямецкія грамадзяне, змабілізаваныя ў армію. Некаторыя з іх умо другі раз на Беларусі. Часам спрабавалі весці гаворку, ведаючы пэўную колькасць беларускіх слоў. Мянялі яны прысланыя ім пасылкі з дому і на самагон, які ў той час многія гналі, бо ніхто не забараняў гэта рабіць, а дзяржаўных спіртных напояў не было. Здараліся выпадкі атручвання самагонам, калі нядобрасумленныя людзі прадавалі падробленую, для моцы, гарэлку. Таму для сябе кожны стараўся мець гарэлку свайго ўласнага вырабу.

Надыходзіла вясна 1942 г., а з ёю і канец заняткам у школе. Што будзе далей, ніхто не ведаў. Не было асаблівай турботы наконт гэтага і ў мяне. Я жыў сам сабой. Як пацямнее, залазіў на гарышча і пераглядаў сваю бібліятэку. Гэта давала мне вялікае задавальненне. Выбіраў з кніг для спадобы і чытаў у вольны час.

Надыходзіў час расставання са школьнымі сябрукамі і сяброўкамі. Напэўна, у кожнага юнака, а то і дзяўчыны ў раннім юнацтве бывае сваё каханне. Было яно і ў мяне. Мне падабалася дзяўчына з вёскі Журэвічы, якая сядзела за першай партай непадалёку ад настаўніцкага стала. І ўсё ж удавалася нават на ўроках перадаць ёй запіску з вершаванымі радкамі. Гэта было ўсё, на што я мог адважыцца. Начытаўшыся паэтычных твораў, такіх як "Сымон-музыка" Я. Коласа, "Мцыры" М. Лермантава, "Том Сойер" Марка Твэна, я ўяўляў яе самай-самай дасканалай дзяўчынай на гэтым свеце, баючыся нават дакрануцца да гэтага боскага стварэння. Рамантыка паглынала мяне цалкам і спадарожнічала на працягу амаль усяго жыцця, прыносячы часам горыч расчаравання. Але гэта было пазней. У тыя 15 год я наогул усё ўяўляў у ідэале. Востра адчуваў прыгажосць прыроды. Думаў, што большасць людзей такія, як героі твораў, з якімі мне давялося пазнаёміцца ў той час. Мая маці лічыла, што мне рана чытаць такія кніжкі, што да іх разумення патрэбна пэўная сталасць. Дзесьці яна мела рацыю. Таму што асобных аўтараў пазней я ўжо разумеў па-іншаму, больш змястоўна і карысна для сябе. Але польскіх класікаў у арыгінале мне так і не давялося паўтарыць, бо напрыканцы вайны згарэла мая бібліятэка. Турбавалася маці і за мой зрок. Чытаць даводзілася больш вечарам, калі быў вольны час і ад школы, і ад гаспадарчых спраў. А належнага святла не хапала. Газавая лямпа, і то не на поўны кноцік, дзесьці ў куточку на цёмнай печы – вось і ўсё асвятленне ў зімовыя працяглыя вечары. Там я і засынаў да раніцы, да таго часу, калі маці пачынала распальваць печ.

Я з дзяцінства і па сённяшні дзень прачынаюся і ўстаю даволі рана, нягледзячы на пару года. Улетку – гэта да ўсходу сонца. Калі на вёсцы, то абавязкова назіраю, як з-за гарызонта падымаецца чырвоны круглы дыск гэтага свяціла, прыносячы пэўную радасць і бадзёрасць.

А зімою люблю наглядаць, як загараюцца ў печы дровы, складзеныя з вечара. Як агеньчык паступова займае ўсё больш і больш паленняў, а святло з печы яшчэ ў ранніх прыцемках здаецца нейкім чароўным дзеяннем. Сялянскі быт на аднаасобнай гаспадарцы быў суровы, працоўны. Жанчынам патрэбна было выпаліць печ досвіту, нарыхтаваць сняданне сабе і жывёліне. Рана ўставалі мужчыны і дарослыя дзецюкі. Крыху пазней малыя дзеці. А вось падлеткам прыходзілася ўставаць рана, асабліва летам, выганяць на пашу скаціну, а то і з расою, ў руках на вяроўках, папасвіць да сняданку. Усё гэта знаёма і мне, заўсёды самаму старэйшаму з дзяцей у нашай хаце. Але мне лёгка давалася ранняе ўставанне. Я ахвотна гнаў карову на пашу, бо ведаў, што абавязкова нешта цікавае адбудзецца для мяне ў гэты дзень.

Людзі ў нашых вёсках таго часу таксама былі адметныя, непараўнальная з сённяшнім сялянствам. Не магло быць і гаворкі пра нейкую разбэшчанасць. Свая зямелька, хай сабе яе і нямнога, была пэўным гарантам выжывання. Гаспадар быў у адказе за яе, за сваю сям'ю. Калі хто і любіў выпіць часам чарку, то гэта ніколі не рабілася ў будні дні, тым больш у перыяд збору ўраджаю. Гультайства хутка карала чалавека. А каму хацелася пайсці ў жабракі?

Строга адносіліся да сваіх абавязкаў і жанчыны. А ім было таксама нялёгка, часта здараліся мнагадзетныя сем'і. Напрыклад, у сям'і маёй маці было 11 дзяцей. Не ўсе выжывалі. Але чатыры сыны – Андрэй, Пятро, Янка і Лявон – і дзве дачкі – мая маці Вераніка і малодшая сястра Ірына – выжылі, былі здаровымі і пражылі доўга. Вось толькі Лявон у 19 год загінуў на вайне на рацэ Одэр.

Здаралася і так, што рожаніца з поля прыносіла дзіця ў падоле. Нашы суседзі Апалі ў Гарадзілаве мелі 12 дзяцей. Выжыла 7, у тым ліку і той, якога маці нарадзіла ў жніво пад снапамі збожжа. У гэтай сям'і, дарэчы, малазямельнай, быў сын, сёмы па ліку, якога хрышчоным бацькам лічыўся тады Прэзідэнт Польшчы Масціцкі. Хлопец меў пасведчанне і пэўную грашовую дапамогу.

П'яніц-жанчын, а тым больш алкагалічак, я наогул не памятаю, не ў прыклад сённяшнім рэаліям вясковага жыцця, якое даводзіцца назіраць, жывучы на лецішчы. А пачалося ўсё, калі ў вёсцы ўсталявалася калгаснае жыццё, а грамадзяне сталі парабкамі ў дзяржавы.

Раней дзед Аляксандр Саўлавец, як многія, меў звычку ў нядзелю або іншыя святочныя дні аглядаць сваю гаспадарку. Хадзілі па сваіх гонях, бралі ў рукі калоссе збажыны, меркавалі віды на ўраджай. Гэта было іх багацце, іх дабрабыт, ад чаго залежыў і дабрабыт усёй сям'і. Наколькі памятаю, цвярозы стан жыцця вяскоўцаў выяўляў многа талентаў, часам нават у малаадукаваных людзей. Гралі на дудках або пішчалках. Былі аматары сплесці кошыкі або капелюшы з саломы, майстраваць колы і сялянскую вупраж.

Усе стараліся пасеяць лён. Затым у зімовы перыяд ставілі кросны ў хаце і ткалі палатно, ручнікі, кашулі. Вязалі з бавоўны шалікі і світэры. Сёння няма патрэбы карпець над калаўротам. Усё неабходнае можна набыць у краме. Яно і добра было б, каб не катастрафічнае падзенне маралі і, што самае жахлівае, – сярод вясковай моладзі.

Кожнае сённяшняе лета мне даводзіцца назіраць, як ля вясковага возера ў Гарадку гуртуюцца школьнікі: хлопцы і дзяўчаты загараюць, гуляюць у карты, асобныя з іх кураць і часам нават маленькімі кілішкамі п'юць гарэлку. І гэта, гавораць, лічыцца нормай, абы наркотыкамі не займаліся, выпадкі чаго ўжо здараюцца і ў так званай глыбінцы.

У адзін дзень 1942 г. у нашу хату зайшоў настаўнік Георгі Вяршыцкі. Ён паведаміў, што з восені 1942 г. у Маладэчне павінна адкрыцца сярэдняя навучальная ўстанова, і што мне варта было б вучыцца далей, маючы пэўныя здольнасці. Калі мае бацькі згодны, каб я вучыўся ў той школе, то ён можа ўжо зараз забраць ад мяне заяву, а потым паведаміць, калі з'явіцца на экзамены, паколькі адкрываюцца адначасова 2 курсы і патрэбен пэўны адбор вучняў на базе не менш як 7 кл. пачатковай школы. Бацькі згадзіліся.

А ў жніўні гэты ж настаўнік, які сам сабіраўся працаваць у Маладэчанскай сярэдняй школе, прывёз мне позву на экзамены. Некалькі дзён мы жылі ў двухпавярховым будынку Беларускай Народнай Самапомачы (БНС) на плошчы насупраць царквы з паўднёвага боку. Спалі па двое на жалезных ложках. На ўсё жыццё засталося ў памяці святло ад электралямпачкі, якое і запальвалася імгненна, і асвятляла ўвесь пакой. Я да таго часу не бачыў такога электрычнага святла ў хатах. Менавіта на экзаменах я ўпершыню ўбачыў Барыса Уладзіміравіча Кіта, дырэктара і галоўнага арганізатара гэтай школы. Ён быў тады яшчэ малады, сярэдняга росту, з інтэлігентным абліччам. Заходзіў у наш часовы інтэрнат. Дапытлівым, добразычлівым позіркам карых прыгожых вачэй углядаўся ў сваіх будучых навучэнцаў, пытаўся, хто адкуль і якія прадметы больш падабаюцца.

Не ведалі мы ў той час, што гэты чалавек, якому споўнілася 33 гады, ужо мае за плячыма багаты вопыт асветніцкай справы. Навучэнец Беларускай навагародскай гімназіі, затым Віленскага ўніверсітэта імя Стэфана Баторыя, ён да 1939 года працаваў выкладчыкам матэматыкі ў Віленскай беларускай гімназіі. Пэўны час быў нават яе дырэктарам. Пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з Усходняй і калі Вільня адышла пад Літоўскую Рэспубліку, вярнуўся ў Навагародак, а затым стаў інспектарам школ па Баранавіцкай акрузе, прычыніўся да стварэння беларускамоўных школ у многіх вёсках і мястэчках гэтай акругі. Адначасова працаваў выкладчыкам у Баранавіцкім пединстытуце, дзе пазнаёміўся са студэнткай Нінай Корсак з мястэчка Лебедзева. У 1941 г. нарадзіўся ў іх першы сын Валодзя. Але ў 1941 годзе гітлераўская Германія напала на СССР. Немцы так імкліва занялі Баранавічы, што пра эвакуацыю на ўсход не было гаворкі. Да таго ж з маленькім дзіцем на руках. Але і ў Баранавічах заставацца было небяспечна. Рэпрэсіі з боку нямецкіх улад былі на ўсёй Беларусі. Барыс Кіт да кампартыі не належыў. Але быў адметнай асобай у той перыяд. Калі карнікі расстралялі інспектара вячэрніх школ, пачаў прабірацца да бацькоў жонкі на Маладэчаншчыну. Ішоў палявымі сцяжынкамі далей ад дарог, па якіх рухаліся калоны нямецкіх войскаў. Ішоў некалькі дзён. Апынуўшыся ў Лебедзеве, па першым часе Барыс Кіт працаваў у мясцовай школе, выкладаў матэматыку і нямецкую мову. Ён ужо ў той час свабодна валодаў французскай, польскай, украінскай і расейскай мовамі.

Маючы звесткі, што немцы дазволілі адкрываць не толькі пачатковыя, але і вузкапрафесійныя сярэднія школы, гэты няўрымслівы прыхільнік асветніцкай справы вырашыў рызыкнуць і адкрыць у Маладэчне настаўніцкую семінарыю. Дзеля гэтага патрэбн было атрымаць дазвол нямецкіх акупацыйных уладаў. Такі дазвол ён атрымаў, пабыўшы ў Мінску. У мясцовай друкарні былі надрукаваны і распаўсюджаны абвесткі пра адкрыццё ў Маладэчне настаўніцкай семінарыі. Падалі заявы каля 300 маладых людзей. Нават ужо збіраліся пачаць заняткі ў былым будынку педвучылішча. Аднак нямецкі камісар Вілейскай акругі, да якой адносіўся і горад Маладэчна, даведаўшыся пра яе існаванне, прыехаў у горад, зачыніў не толькі настаўніцкую семінарыю, але і друкарню, дзе друкаваліся абвесткі.

Быў дадзены загад арыштаваць дырэктара. Вілейскае начальства лічыла, што гэтая ўстанова адкрывалася без іх дазволу і што хопіць настаўніцкай семінарыі ў самой Вілейцы, якая была адкрыта раней. Толькі кіраўніцтва школьнага аддзела Генеральнага камісарыята Беларусі дапамагло Барысу Уладзіміравічу пазбегнуць арышту, а мо і знішчэння. Больш таго, яго прызначылі дырэктарам семінарыі ў Паставах, ужо другой Глыбоцкай акругі. Даведаўшыся, што справа ў Маладэчне з семінарыяй крыху сціхла і небяспека быццам бы мінавала, ён выехаў у Маладэчна з мэтай дамагчыся адкрыцця ў горадзе ўжо гандлёвай школы, на якую немцы дазвол давалі.

Але па дарозе быў арыштаваны гестапа. Трыццаць дзён яго трымалі ў Глыбоцкай турме і два тыдні ў Вілейцы. Дапамог выратавацца яго былы вучань з Віленскай беларускай гімназіі Кастусь Касяк, які лічыўся беларускім упаўнаважаным у Вілейцы. Але сам, як стала вядома, пазней, быў расстраляны немцамі па даносу палякаў, якія рукамі акупантаў стараліся знішчыць беларускасць у нашай краіне, лічачы па-ранейшаму яе Польскімі Крэсамі Усходнімі.

Першы год былі арганізаваны два курсы. Па выніках экзаменаў я трапіў на другі курс. Было залічана звыш 60 чалавек, з якіх створаны дзве паралельныя групы.

Восенню 1943 г. было прынята яшчэ 120 студэнтаў. Яны навучаліся ўжо ў трох паралельных групах. У пераважнай большасці гэта былі дзеці сялян з Маладзечанскага, Радашковіцкага, Вілейскага, Ашмянскага паветаў.

(Далей будзе)

# Антрапалёгія: Эўропа моцна пасівела.

2000 год быў пераломным момантам дзеля дэмаграфічнай сытуацыі ў Эўропе. Як сьцьвярджае каманда навукоўцаў пад кіраўніцтвам Вольфганга Люца з Аўстрыйскай Акадэміі Навук, тры гады таму структура веку папуляцыі Эўрапэйцаў дыямэтральна зьмянілася (гзв. піраміда веку зьмяніла кшталт). Упершыню асобаў у сталым веку болей, чым маладых. Гэта будзе выклікаць эканамічныя й грамадзкія наступствы, пра што добра ведаюць напрыклад у Швэцыі, дзе ўжо некаторы час меншая група ў прадукцыйным веку працуе на ўсё большую частку тамтэйшых пэнсіянэраў. І гэта не адзінае наступства зьмены структуры веку.

Гэтая зьява азначае, што папуляцыя Эўропы будзе надалей старэць, і гэтую тэндэнцыю цяжка будзе нейк зьмяніць. Не дапамагло б нават, калі б маладыя жанчыны нараджалі болей дзяцей, бо маладых жанчын проста замала. Ды й нараджаць першае дзіця яны вырашаюць штораз пазьней. На сёньня сярэднестатыстычная Эўрапэйка нараджае 1,5 дзіцяці.

Аўстрыйскія навукоўцы падлічылі, што калі сярэдні век жанчын, якія нараджаюць першае дзіця, будзе ўзрастаць у цяперашнім тэмпе, дык у 2100 годзе можна спадзявацца значнага спаду колькасьці Эўрапэйцаў. Нас будзе нават на 140 мільёнаў менш.

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

Немагчыма раўнадушна чытаць статыстычныя звесткі, якія па-свойму адлюстроўваюць найбольш тыповыя сацыяльныя працэсы ў развіцці нашага грамадства на працягу апошніх гадоў. Толькі за 1996 год насельніцтва Беларусі ў цэлым пастарэла і зменшылася на 30,3 тыс. чалавек. Калі раней традыцыйная схема сям'і налічвала як мінімум сем чалавек (бабуля — дзядуля, бацька — маці і трое дзетак), то сёння — гэта пераважна чатыры чалавекі (бацькі і двое дзетак). З улікам той складанай эканамічнай сітуацыі, якая вызначае і ў бліжэйшы час будзе вызначаць наша жыццё, хутчэй за ўсё, бацькі будуць абмяжоўвацца толькі адным дзіцем.

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

У верасьні 1991-га году бел-чырвона-белы сьцяг і гэрб Пагоня ізноў сталі дзяржаўнымі знакамі Незалежнай Беларусі. Шануйма-ж іх!!!




IN MEMORIAM



# НА РАЗЬВІТАНЬНЕ З ЗОРАЙ КІПЕЛЬ

(У дзень паховінаў 18 красавіка 2003 г.)

Сьмерць зачыніла вочы Зоры, а адачыніла вочы нам - - на Зору.

Сьвет так уладжаны, што мы гадамі сустракаемся адзін з адным, дружым, супрацоўнічаем, але шмат чаго ня ведаем адзін пра аднаго. Дзіўна! Чалавек павінен назаўсёды адыйсьці ад нас, каб мы маглі яго лепш пабачыць, глыбей пазнаць, больш поўна ацаніць. Гэтак вось і мы цяпер: адкрываем для сябе Зору тады, калі яна ўжо ня з намі.

Вестка пра сьмерць сьв. пам. Зоры Кіпель маланкай пранеслася па сьвеце, адгукнулася жалобным рэхам на Бацькаўшчыне і ў дыяспары, а таксама сярод амэрыканскіх сяброў нябожчыцы. Вітаўт і сям'я атрымалі дзесяткі самых шчырых сардэчных спачуваньняў, зь якіх паўстае перад намі Зорын сьветлы вобраз.

Вестку пра адыход з жыцьця Зоры падала 15 красавіка беларуская служба радыё "Свабода", а таксама радыё "Рацыя" на сваім інтэрнэтаўскім сайце. У гутарцы карэспандэнта радыё "Свабода" зь пісьменьнікамі народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін назваў Зору "шчырай, нястомнай працаўніцай на ніве беларушчыны, на ніве адраджэньня Беларусі" і сказаў, што сьмерць ейная – "вялікая страта для Беларусі". Паэт Генадзь Бураўкін, які працаваў некалі прадстаўніком Беларусі ў ААН у Нью-Ёрку, падзяліўся ўспамінам пра нябожчыцу. "Калі я сустракаўся з Зораю, -- сказаў Бураўкін, -- заўсёды адчуваў, што ўсімі нітачкамі, якія зьвязвалі яе з роднай Беларусьсю, яна вельмі даражыла. ... І тое, што яе ня стала, гэта страта ня толькі для эміграцыі, гэта страта для Беларусі". У тэй жа радыёперадачы пісьменьнік Уладзімер Арлоў, блізкі супрацоўнік Вітаўта й Зоры Кіпеляў, сказаў: "Зора Кіпель з таго шэрагу беларускіх жанчын, да якога належаць Натальля Арсеньнева й Ларыса Геніюш. Сваім талентам, розумам і душой Зора Кіпель была аддадзеная Беларусі. ... Ад пачатку 90-х гадоў Зора штогод прыяжджала ў Беларусь. Цяпер сюды будзе вяртацца яе душа".

Згуртаваньне беларусаў сьвету "Бацькаўшчына" ў спачуваньні Вітаўту напісала пра Зору: "Яе творчая і грамадзкая дзейнасьць на карысьць Бацькаўшчыны была надзвычай шматгранная і вельмі плённая. Імя Зоры Кіпель будзе ўпісана вялікім літарамі ў гісторыю культуры Беларусі".

Ад Фонду імя братоў Луцкевічаў, цэнтар якога знаходзіцца ў Менску, кіраўнікі Фонду Анатоль Гурыновіч і Анатоль Сідарэвіч назвалі сьмерць Зоры "яшчэ адным ударам па Беларушчыне, па нашай Радзіме", але разам з тым зазначылі, што памяць па Зоры "будзе сьветлай і доўгай".

Шчырыя спачуваньні Вітаўту Кіпелю й сям'і выказалі сябры менскага выдавецтва "Беларускі кнігазбор", зь якім, разам з мужам, Зора цесна супрацоўнічала.

У даўжэйшым пісьмовым спачуваньні ад родных Янкі Купалы й супрацоўніц купалаўскага літаратурнага музэю ў Менску Ядвігі Раманоўскай і Жанны Дапкюнас, між іншага, сказана: "А найбольш нам помніцца шчырая і адкрытая ўсьмешка Зоры. Такім яна была і чалавекам: добрым, шчордрым і адкрытым, шчырым, іскрыстым, як сапраўдная зорка нябесная. Такой мы яе і будзем памятаць. Яна заўсёды будзе з намі".

У спачуваньні ад Таварыства Беларускай Мовы адзначанае сярод іншых дасягненьняў Зоры й сям'і Кіпеляў і такое: "Удалечы ад Радзімы Зора Кіпель выгадавала дваіх дзяцей: дачку Алесю і сына Юрку – адданых беларускіх патрыётаў".

Добра абагульнена жыцьцё нябожчыцы ў наступным спачуваньні сям'і й блізкім:

"Нацыянальная бібліятэка Беларусі глыбока смуткуе з прычыны заўчаснай сьмерці выдатнай дачкі беларускага народу, дзеяча нашай дыяспары ў Амэрыцы, кандыдата бібіятэказнаўства і літаратуразнаўства, складальніцы 'Бібліяграфіі беларускага друку на Захадзе', аўтара прац па старажытнай беларускай літаратуры спадарыні Зоры Кіпель. Яна шмат зрабіла ў галіне беларускай бібліяграфіі і літаратуразнаўства, пакінула свой яскравы сьлед у дзейнасьці Славянскага аддзелу Нью-Ёркскай публічнай бібліятэкі, працуючы на славу й гонар Беларусі. Усім сваім жыцьцём і плённай дзейнасьцю спадарыня Зора Кіпель заслужыла права на нашу глыбокую павагу і ўдзячную памяць".

Зянон Пазьняк напісаў з Варшавы ў сваім спачуваньні Вітаўту: "Вы і спадарыня Зора столькі добрага зрабілі для Беларусі. Кнігі, выдадзеныя ад Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ёсьць залаты фонд беларускай літаратуры на эміграцыі. Гэта высока ацэнена ўсімі. Няхай спачне душа Зоры".

У падобным духу выказаліся з Прагі Сяргей і Галіна Навумчыкі: "Мы заўсёды будзем памятаць спадарыню Зору, а ейныя заслугі ў справе беларушчыны з часам будуць належным чынам ацэненыя ў дэмакратычнай Беларусі".

Спадарства Навумчыкі перадалі Вітаўту таксама спачуваньні ад Васіля Быкава, які цяпер таксама жыве ў Празе.

Выказалі свой смутак з прычыны сьмерці Зоры Кіпель беларускае пасольства ў Вашынгтоне ў асобе Валеры Кавалеўскага, гісторык Генадзь Сагановіч, які знаходзіцца цяпер у Нямеччыне, сябры й знаёмыя з Брусэлю, Лёндану, Прагі, Менску, Варшавы, Беластоку, Нью-Ёрку, Чыкага, Грэнд-Рапідсу, Лёс-Анджэлесу, Пасадэны ды іншых гарадоў.

Сьмерць забрала ад нас Зору, але дала нам паглыбленую веду пра яе. Гэта ўзнагарода нам за наш боль, за сьлёзы, за цяжкое пачуцьцё страты. Сьмерць Зоры зьбядніла нас. Але й узбагаціла: нас стала менш, ды мы ўзмацніліся духам. Бо ведаем цяпер, што Зора Кіпель сваім жыцьцём і самаахвярнай працай пабольшыла шанцы беларушчыны выжыць і замацавацца, каб і нашая з вамі праца на тэй жа ніве ня была дарэмнай, а дала канчальны плён – вольную Беларусь.

**Янка Запруднік**

**********************************************

# *Нам Пішуць...*

## Сьвяткаваньне Дня Волі ў Чыкага

Беларусы Чыкага і прыгарадаў урачыста адзначалі Дзень Волі ў нядзелю 30 сакавіка. У Беларускай праваслаўнай царкве сьвятога Юр'я пасьля набажэнства і сьпяваньня рэлігійнага гімну "Магутны Божа" на словы Натальлі Арсеньневай са спецыяльным казаньнем, прысьвечаным 85-й гадавіне абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі, да прысутных зьвярнуўся настаяцель царквы айцец Дзмітры Бажко. Потым прагучала маленьне за Беларусь, за яе народ, які варты лепшай долі і лепшага лёсу.

Перад сьвяточным абедам з рэфератам "Значэньне Дня 25 сакавіка для беларусаў Бацькаўшчыны і ўсяго сьвету" выступіў журналіст Ванкарэм Нікіфаровіч. На канец імпрэзы адбылося падпісаньне лістоў да сэнатара Рычарда Дурбіна і кангрэсмэна ад штату Ілінойс Рахма Эмануэла з просьбамі падтрымаць унесены на разгляд Сэнату і Кангрэсу ЗША "Акт аб дэмакратыі ў Беларусі – 2003".

***

Урачыстасьць, прысьвечаная 85-й гадавіне абвяшчэньня дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі адбылася 30 сакавіка ў Чыкага таксама ў Беларускім рэлігійным і культуровым цэнтры пры царкве Хрыстазбаўцы. Удзельнікі натхнёна сьпявалі "Магутны Божа", "Мы выйдзем шчыльнымі радамі" і "God Bless America". Са словамі віншаваньня ў сувязі са сьвятам да прысутных па-беларуску зьвярнуўся д-р Вітаўт Рамук, па-ангельску – спадарыня Вера Рамук. Былі зачытаныя прывітаньні ад Старшыні Рады БНР Івонкі Сурвілы, ад беларусаў Ліды, ад беларускай грамады з Вільні і іншыя віншаваньні.

Ванкарэм Н.

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^

### *АЎСТРАЛІЯ*

Як і заўсёды беларусы штату Вікторыя сьвяткуюць свае нацыянальныя сьвяты вялікай грамадаю. У гэтым годзе Беларускі Цэнтральны Камітэт на Вікторыю супольна з парафіяй БАПЦарквы ладзілі ўрачыстую акадэмію прысьвечаную 85-м угодкам 25-га Сакавіка.

На сьв. Літургію ўжо з раніцы людзі сталі зьяжджацца раней, бо якраз быў зьменены час з летняга на зімні.

Айцец А. Кулакоўскі адслужыў сьв. Літургію і зараз распавёў пра дзень нашага нацыяльнага сьвята, а менавіта, што нашым абавязкам ёсьць шанаваць нашае, бо яно бліжэй нашаму сэрцу... і зазначыў, што мы забыліся пра ўсё сваё і адносімся да ўсяго абыякава...

Адслужыўшы малебень за беларускі народ запрасіў усіх у царкоўную залю на сьвецкую частку сьвята, — акадэмію прысьвечаную гэтаму дню.

Урачыстасьць вёў Сп. Аўген Груша, які прывітаўшы прысутных зачытаў надасланыя прывітаньні, а П. Гуз сабраў пры нагодзе 220 аўст. даляры на дар Сакавіка.

У мастацкай частцы Вера Шайпак прачытала верш а. М. Бурноса, а Сп. А. Груша верш Я. Купалы. Далей нашыя дзяўчаты з хору Каліна прасьпявалі чатыры песьні. Была таксама разыграна лятарэя сястрыцтва Пры гэтым адзначылі дзень народзінаў настаяцеля і прасьпявалі яму Многі Лета.

П. Д.. Г.

* * *

### Пра побыт Н. Гардзіенка ў Аўстраліі

НатальляГардзіенка прыехала да нас з Беларусі. Яна піша кнігу пра жанчын Аўстраліі, якія актыўна працавалі ў беларускім жыцьці.

Пасьля пабыту ў Мэльбурне Н.Гардзіенка выехала ў горад Адэлайду на юбілей 25-годзьдзя заснаваньня Беларускага Аб'яднаньня ў Паўднёвай Аўстраліі, дзе адначасна адзначалі 85-я ўгодкі 25 Сакавіка. Сьвяткаваньне адбылося надзвычай удала!

На сьвяткаваньні прысутнічалі ганаровы сябра Парлямэнту Паўднёвай Аўстраліі і старшыня Беларускага Культ. і Сацыяльнага Клюбу ў Сыднэі Сп. Міхась Лужынскі...

Н. Гардзіенка выступіла з прамовай і выказала шчырую падзяку беларусам Аўстраліі за такі сяброўскі прыём.

Адбылося таксама ўручэньне ганаровых Дыплёмаў сябрам, якія шчыра працавалі для дабра беларускае справы ў замежжы і на Бацькаўшчыне.

Афіцыйная частка закончылася адсьпяваньнем гімну "Мы выйдзем шчыльнымі радамі". Затым адбылася мастацкая частка і на заканчэньне, дзякуючы жанчынам Аб'яднаньня наладзіўся цудоўны пачастунак.

А. Ш.

************************************************

### *АНГЛІЯ*

У сыботу 29-га сакавіка 2003 г. у Канфэрэнцыйнай залі Беларускай Бібліятэкі імя Ф. Скарыны на Гольдэн Роўд у Лёндане адбылася Акадэмія прысьвечаная 85-й гадавіне абвешчаньня незалежнасьці БНР.

Арганізатарамі Акадэміі былі: Управа Згуртаваньня Беларусаў у В. Брытаніі /ЗБВБ/ і Англа-Беларускае Таварыства.

Перад Акадэміяй, у капліцы Сьв. Апосталаў Пятра і Паўла, у Марыян Гаўз, а. Аляксандар Надсон адслужыў малебень за Беларусь і беларускі народ. Капліцу напоўнілі старэйшыя і маладыя людзі. Прыемна было бачыць групку дзетак з беларускай нядзельнай школы.

а. Аляксандар у рэлігійна-патрыятычнай пропаведзі заклікаў прысутных маліць Бога, каб Ён узбудзіў у народзе любоў і нацыянальны гонар да сваёй Бацькаўшчыны Беларусі. Багаслужба закончылася адсьпяваньнем "Магутны Божа".

Пасьля кароткага перапынку прысутныя перайшлі ў Канфэрэнцыйную залю. Акадэмію адчыніла старшыня ЗБВБ сп-я Л. Міхалюк. У ўступным слове яна ад імя Ўправы ЗБВБ прывітала прысутных ды падзякавала ім за так шматлікі ўдзел у так важнай гістарычнай гадавіне для беларускага народу.

Прафэсар І.Дынглі, заступнік старшыні Англа-Беларускага Таварыства, у ангельскай мове вітаў прысутных і сказаў пра важнасьць супрацоўніцтва між беларускім і ангельскім грамадзтвамі. Дзякуючы Таварыству сёньня ангельскі ўрад як і народ маюць больш ведаў пра Беларусь і яе народ.

Сакратар Управы Сп. С. Піткевіч прачытаў прынагодныя прывітаньні з розных краінаў сьвету.

Рэфэрат пра акт 25-га Сакавіка на ангельскай мове прыгатаваў і прачытаў П. Пачкаеў. Патрыятычныя вершы дэклямаваў П. Шаўцоў з перакладам на ангельскую мову Сп-й Верай Рыч. Дзеці ў нацыянальных строях на беларускай мове дэклямавалі самымі апрацаваныя ў школе вершы ў памяць Акту 25-га Сакавіка.

Акадэмія кончылася адсьпяваньнем нашага нацыянальнага гімну "Мы выйдзем шчыльнымі радамі".

Сп-і Д.. Дзейка і Алена Сенька прыгатавалі багаты пачастунак. Пры чарцы віна хутка праляцеў час і ўжо трэба было раз'язджацца дамоў.

Сыльвэстар Будкевіч, Лёндан.

# Здаць зброю!

У Беларусі пачалася спецыяльная аперацыя «Арсэнал», якую праводзіць Міністэрства ўнутраных спраў. Як паведаміў начальнік прэс-службы МУС краіны Віталь ГРЫНКЕВІЧ, спецаперацыя будзе працягвацца да 30 красавіка. Асноўныя высілкі супрацоўнікаў праваахоўных органаў будуць скіраваныя на выяўленне асоб, якія захоўваюць без адпаведнага дазволу агнястрэльную зброю і боепрыпасы.

Апроч таго будуць прынятыя меры па канфіскацыі зброі ў грамадзян, якія прыцягваліся да адміністрацыйнай адказнасці за парушэнне грамадскага парадку.

Віталь Грынкевіч нагадаў, што ў выпадку добраахвотнай здачы зброі яе ўладальнікі вызваляюцца ад крымінальнай адказнасці. Дарэчы, летась грамадзянамі нашай краіны добраахвотна было здадзена 1262 адзінкі зброі. А вось тыя грамадзяне, якія не пажадаюць добраахвотна развітацца са зброяй, будуць мець непрыемнасці з законам. У мінулым годзе, напрыклад, было прымусова канфіскавана больш за 3 тысячы «стваловъ».

* * *

*На нашу думку зброю трэба абавязкава захоўваць, набываць навейшыя мадэлі і рыхтавацца да збройнае абароны незалежнасьці Беларусі...*

## Тысячы беларусаў становяцца ўцекачамі

Штогод каля 2 тысячаў грамадзянаў Беларусі падаюць заявы аб наданьні ім статуса ўцекача ў іншых краінах. Пра гэта паведамілі "Интерфаксу" ў прадстаўніцтве ААН у Беларусі. Паводле суразмоўцы агенцтва, у 2002 годзе дадзены статус атрымалі ў Канадзе больш за 40 беларусаў, у ЗША – больш за 50, у Чэхіі – больш за 25, у Швэцыі -- 11, а таксама некалькі чалавек у Італіі, Латвіі, Ізраілі, Нарвэгіі...

і толькі з іх 10% -- гэта сьведамыя беларусы, астатнія – савецкія людзі.

************************************************